# ANNUS ALBARUTHENICUS 2016

POETICA
PROSA
DESCRIPTIO
DISCUSSIO
ARS

# ГОД БЕЛАРУСКІ 2016

ANNUS
ALBARUTHENICUS
2016

POETICA
PROSA
DESCRIPTIO
DISCUSSIO
ARS

XVII TRIALOH
KRYNKI 26-27.08.2016

ЦІ БОГ НЕ РАЗУМЕЕ
ПА-БЕЛАРУСКУ?

ГОД
БЕЛАРУСКІ
2016



# ЦІ БОГ НЕ РАЗУМЕЕ ПА-БЕЛАРУСКУ?

ДАРАГІЯ БЕЛАРУСЫ! ВЯСЁЛЫХ І РАДАСНЫХ КАЛЯДНЫХ СВЯТАЎ! – такія пажаданні выказаў ЯН ПАВАЛ II на адрас беларусаў-каталікоў з нагоды Святаў Раства Хрыстовага. Беларушчына ў вуснах Папы не з'яўляецца нечым новым але хутчэй працягам справы. На жаль, сёння пра гэта ўжо трэба нагадваць. Бо ж каталікамі былі ў XIX стагоддзі ўсе без выключэння вядучыя пачынальнікі беларускага, нацыянальнага адраджэння. Значную ролю ў эпоху бароку, асветніцтва і рамантызму таксама адыгралі каталіцкія інтэлектуальныя цэнтры. Беларусь была і застаецца да сённяшняга дня – дзвюхканфесійнай.

Гэта кароткая ў сілу абставінаў экскурсія ў гісторыю хай паслужыць тут усяго толькі фонам дзеля адлюстравання актуальнай сітуацыі. Расходзіцца пра тое, што Каталіцкі касцёл на тэрыторыі беларускамоўнай Беласточчыны не адчувае аніякай патрэбы ўлічваць яе культурную спецыфіку. Гэта тычыцца і Праваслаўнай Царквы, пра што гаворка пойдзе пазней. А патрэба павагі да гэтай спецыфікі. Гэта заданне не гэтулькі вымушанае нейкімі важнымі акалічнасцямі, але мае сваё альтруістычна-ўнівэрсальнае канфесія вымярэнне. Расходзіцца пра расчышчэнне беларускага чалавека з накідаў розных экспансіяў, што напластоўваліся  на ім у мінулым і накладаюцца ў наш час. Справа ў тым, каб паказаць беларусу пасля стагоддзяў яго ўласных, а не велікадушна пазычаных каштоўнасцяў і ўласных каранёў. „Гуманізм чырванее ад сораму за нас". Людзі кажуць: існуе такая праўда, што ў поўнае

паняволенне чалавек трапляе тады, калі губляецца яе ўспрыняцце. Ці ж не з'яўляецца ганебнай з'явай тое, калі бачым як просты, звычайна каталік каля Саколкі, Дубровы ці Міхалова саромецца ў публічнай прасторы сваёй мовы і традыцыяў, адмаўляецца ад іх напорыста і ажно роспачна, як быцца гаворка ішла пра злачынства? Найноўшая палітычная гісторыя працавала супраць гэтага народу выштурхоўваючы яго ў бездань закамплексаванасці, адгароджваючы яго сцяною статусу напоўнавартаснага народу. Маўляў: ён можа даць з сябе нешта вартаснае толькі пасля своеасаблівага культурнага ці цывілізацыйнага „даінвеставання". Гэта асабліва красамоўнае на прыкладзе функцыянавання на гэтых землях сінонімаў – паняткавых аўтаматызмаў: „польская вера" значыць польская, панская канфесія. Затое „руская вера" не што іншае як праваслаўная. Нікому гэтыя словаспалучэнні не прыносяць хвалы выкрываючы ў іхніх дзеяннях пазарэлігійныя дамінанты.

Паводле мяне, свецкага чалавека, было б вельмі пажадана, каб у сваім душпастырстве, святары абедзвюх канфесіяў усведамілі неабходнасць спрыяння ўкараненню і развіццю беларускай культуры ў рэгіёне. Не думаю, каб гэта ў чым-небудзь супярэчыла інтарэсам гэтых цэркваў. Наадварот: гэта набліжала б людзям іх рэлігійныя мэты. Бог разумее па-беларуску і не трэба карыстацца пасярэдніцтвам расейскай мовы ў выпадку казанняў у праваслаўных храмах. Я ўвогуле сабе такога не ўяўляю, калі б дайшло да трансляцыі праваслаўнай Святой Літургіі на радыё. Не сумняваюся ў тым, што такі падыход да справы (беларусізацыі) быў бы знакамітай выявай экуменізму на свецкім грунце.

Міхал Федароўскі , з паходжання – кашуб, якога лёс кінуў у гэтыя ваколіцы на службу ў царскай лясной адміністрацыі, вельмі шмат зачэрпнуў для сваіх тамоў „Люду беларускага" песняў, баладаў, казак, прымавак, інтэрмедыяў і канапелек не ў іншых мясцінах, а якраз у ваколіцах Ліпска, Сухаволі, Дубровы, Саколкі, Карыціна, Міхалова, Заблудава. Дык чаму ж не скарыстаць гэтыя скарбы народнай мудрасці і ўзнёслых пачуццяў, не спаслацца ў рэлігійных практыках на традыцыі і звычаі гэтак блізкія для мясцовай псіхалогіі і менталітэту? Адразу папярэджваючы магчымых апанентаў такой задумы хачу падкрэсліць, што я не выступаю за радыкальны разварот сітуацыі ў гэтых дзвюх цэрквах. Мне расходзіцца пра ўзбагачэнне рэлігійнай практыкі мясцовымі, непаўторнымі, арыгінальнымі духоўнымі элементамі, якія даюць вернікам глыбокае пачуццё годнасці і гонару ад свайго паходжання.

Мне цяжка сфармуляваць канкрэтныя прапановы. Баюся дапусціць, і канешне, хачу пазбегнуць міжвольнай нетактоўнасці. Абмяжуюся толькі чарговым падкрэсленнем вядучай думкі маёй прапановы. Душпастырская дзейнасць на нашай тэрыторыі павінна быць пранізаная тутэйшай свойскасцю. Мне пра гэта і расходзіцца. Мне невыказна крыўдна калі чую ад ксяндзоў абвінавачанні ў так званай „беларускай прапагандзе". Успрымаю гэта не як папрок альбо абвінавачанне, але хутчэй выкрутас, кансерватызм, сутаргавае чапляянне за статус кво. Але ж такая пазіцыя асуджаная на паразу разам з эмансіпацыяй грамадскіх нізоў і ўсіх малых народаў, якія імкнуцца прамаўляць да чалавека сваіх голасам. Трэба ім у гэтым дапамагчы. Толькі – дапамагчы.

*Сакрат* Яновіч
Biuletyn Informacyjny MKZ NSZZ Solidarność, nr 17 1981, s. 8.

## CZY PAN BÓG NIE ROZUMIE PO BIAŁORUSKU?

DARAHIJA BIEŁARUSY: VIASIOŁYCH I RADASNYCH KALADNYCH ŚWIATAU! – takie życzenie wygłosił JAN PAWEŁ II pod adresem Białorusinów-katolików z okazji świąt Bożego Narodzenia. Białoruszczyzna w ustach papieża nie jest jakimś zapoczątkowaniem sprawy, lecz jej kontynuacją, o czym dzisiaj trzeba, niestety, już przypominać. Katolikami przecież byli bez wyjątku wszyscy sztandarowi prekursorzy dziewiętnastowieczni białoruskiego odrodzenia narodowego. Istotną rolę w epoce baroku, oświecenia, romantyzmu odegrały również katolickie ośrodki intelektualne. Białoruś była i nadal pozostała dwuwyznaniowa.
Ta, krótka siłą rzeczy, wycieczka w historię niechaj posłuży tutaj za tło dla ukazania sytuacji współczesnej, kiedy to Kościół katolicki na obszarach białorusko-języcznych Białostocczyzny nie czuje żadnej potrzeby liczenia się z ich specyfiką kulturową. (Dotyczy to również i Cerkwi prawosławnej, o czym dalej). A potrzeba takiego liczenia się to zadanie nie tyle wymuszane przez jakieś twarde okoliczności, co posiadające swój altruistycznie uniwersalny wymiar. Chodzi bowiem o odgruzowywanie człowieka białoruskiego z nawalisk różnych ekspansji, które nawarstwiały się nań kiedyś i nawarstwiają dziś; ukazanie mu po stuleciach jego własnych, a nie łaskawie pożyczonych, wartości i własnych korzeni. Humanizm czerwieni się za nas! Powiadają ludzie: istnieje taka prawda, która mówi o tym, że w doskonałą niewolę popada się wtedy, gdy

zatraca się jej odczuwanie. Czyż nie jest wobec tego zjawiskiem uwłaczającym to, gdy widzi się, jak prosty człowiek katolicki koło Sokółki, Dąbrowy czy Michałowa wstydzi się w miejscach publicznych swej mowy rodzimej i obyczaju, wypiera się swego nad wyraz rozpaczliwie, jak gdyby szło tu o czyn przestępczy? Najnowsza historia polityczna pracowała przeciwko temu ludowi, spychając go w otchłanie kompleksu niższości, ogradzając murem statusu elementu niepełnowartościowego, który może coś dać z siebie jedynie po uprzednim swoistym „doinwestowaniu" kulturalnym, jeśli nie cywilizacyjnym. Jest to szczególnie wymowne na przykładzie: funkcjonowania na tym terenie synonimów-automatyzmów pojęciowych: „polskaja viera" (znaczy: wyznanie polskie, pańskie) i „ruskaja viera" (to tyle, co prawosławna). Komentarz wyjaśniający jest chyba zbyteczny... Żadnej, z misji nie przynoszą one chluby Społecznej, demaskując w ich działaniu dominanty pozareligijne.

Byłoby czymś niezmiernie ważnym według mnie, laika, jeśliby księża obu wyznań dostrzegli w swej pracy duszpasterskiej ową konieczność sprzyjania ugruntowywaniu i rozwojowi kultury białoruskiej w regionie. Nie przypuszczam, aby to kolidowało w czymkolwiek z interesami tych kościołów, raczej przeciwnie – przybliżałoby ludności ich cele idealne. Bóg rozumie po białorusku, i nie trzeba uciekać się do pośrednictwa, na przykład języka rosyjskiego w przypadku kazań w cerkwi (a w ogóle nie wyobrażam sobie tego w razie dojścia do skutku transmisji prawosławnej mszy świętej w radiu). Nie wątpię w to, iż takie podejście do tej sprawy okazałoby się znakomitym wyrazem demonstracji ducha ekumenizmu na gruncie świeckim.

Michał Federowski, urodzony Kaszub, którego los rzucił w te okolice na służbę w carskiej administracji leśnej, ogromnie dużo zaczerpnął do swych tomów „Ludu białoruskiego" nie gdzie indziej jak w okolicach Lipska, Suchowoli, Dąbrowy, Sokółki, Korycina, Michałowa, Zabłudowa; pieśni, ballad, bajek, przypowieści, intermediów, konopielek. Dlaczego by więc nie sięgnąć do tych skarbów mądrości ludzkiej i pięknych uczuć, nawiązać w praktykach religijnych do obyczajów jakże bliskich dla psychologii i mentalności miejscowej?! Uprzedzając niejako ewentualnych polemistów wykładanego poglądu, pragnę podkreślić, że nie postuluję jakiegoś odwrócenia sytuacji dotychczasowej w tych kościołach, lecz jednie wzbogacenia jej o walory rodzime, co znaczy: niepowtarzalne w swej oryginalności duchowej, dające wiernym głębokie poczucie godności i dumy ze swego pochodzenia.

Trudno mi o propozycje natury realizatorskiej. Obawiam się popełnienia w tym miejscu niezawinionego nietaktu, czego chciałbym bezwzględnie uniknąć. Ograniczę się do podkreślenia jeszcze raz myśli przewodniej mojego wystąpienia: działalność duszpasterska na naszym terenie powinna być zabarwiona tutejsza swojszczyzną.

O to mi głównie idzie. I boli mnie niezmiernie, jeśli słyszę od księży pomówienia o tzw. propagandę białoruską. Odbieram nie tyle jako zarzut czy oskarżenie, lecz mam to bardziej za wykręt, za konserwatyzm, kurczowe trzymanie się przeżytych kształtów, które pękają i będą pękać pod naporem emancypacji nizin ludzkich i całych narodów młodych, dążących do mówienia o człowieku własnym głosem. Trzeba im pomóc w tym. Tylko pomóc.

*Sokrat* Janowicz
Biuletyn Informacyjny MKZ NSZZ Solidarność, nr 17 1981, s. 8.





# ДАЙМА БОГУ ШАНЦ

„Ці Бог не разумее па-беларуску?" У гэтым пытанні пастаўленым у загаловак артыкулу, наш славуты, беластоцкі пісьменнік Сакрат Яновіч змясціў папрок на адрас не Бога, але людзей. Тых людзей, якія беларускую мову, нібыта простую, сялянскую, не лічаць годнай стаць сакральнай мовай. Яновіч трапна заўважыў, што ідэя беларусізацыі Царквы зарадзілася ў асяроддзі каталіцкага духавенства. Чаму яна з'явілася толькі ў пачатку ХХ стагоддзя?

## Крыху гісторыі

Я асабліва паглыблена ніколі не даследаваў гісторыю станаўлення беларускай мовы ні яе месца ў Царкве. Аднак дастаткова добра азнаёміўся з працамі іншых даследчыкаў. Справа ў тым, што ў II-ой палове XVI ст. пасля аб'яднання Літвы з Польшчай на аснове Люблінскай Уніі (1569 г.) беларускія землі ўвайшлі ў склад Рэчы Паспалітай. Пры падтрымцы каталіцкага Рыма Рэчы Паспалітая пачала праводзіць палітыку апалячвання і акаталічвання беларусаў. Спачатку афіцыйна выкарыстоўваліся і польская, і беларуская мовы, але з часам дзяржаўнай стала толькі польская мова. У 1696 г. Варшаўскі Сойм прыняў пастанову аб забароне беларускай мовы ў дзяржаўных і судовых установах.

У канцы XVII ст. беларуская літаратурна-пісьмовая мова прыходзіць у поўны заняпад. Па сутнасці, працягвае развівацца толькі народная гутарковая мова (дыялекты), якая сустракаецца ў фальклору (казкі, паданні, прыказкі, прымаўкі, вершаваныя творы, жарты і г.д.) а таксама ў якасці ўставак

у польскамоўныя драматычныя творы для характарыстыкі беларускіх персанажаў. Менавіта з гэтага часу ў галовы тутэйшага насельніцтва ўбівалася негатыўнае, зневажальнае стаўленне да ўсяго беларускага, у першую чаргу да беларускай мовы, якую пачалі называць „мовай хамскай, мужыцкай, паганскай". Польская мова лічылася мовай вышэйшага гатунку, панскай, шляхетнай. У выніку, многім беларускім шляхцічам і магнатам не цяжка было адрачыся не толькі роднай мовы, але і свайго беларускага паходжання, больш таго – сваёй веры!

У канцы XVIII ст. у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1795 г.) беларускія землі ўвайшлі ў склад Расейскай імперыі. У 1840 г. царскі ўрад (Мікалай I) забараніў ужываць саму назву „Беларусь" (існавала назва „Северо-Западный край"). Афіцыйная перапіска і мастацкая літаратура на беларускай мове былі забароненыя. У літаратурнай беларускай мове гэтага часу амаль не было грамадска-палітычнай і навуковай тэрміналогіі, не было строгай сістэмы граматычных, лексічных і арфаэпічных нормаў (гэтым тлумачыцца адсутнасць у беларускай літаратуры такога напрамку, як класіцызм, дзе творы павінны пісацца на добра апрацаванай мове, высокім стылем). Сваёй роднай мовай беларускі народ карыстаўся толькі ў бытавой сферы. Польскія і рускія вучоныя не прызнавалі беларускую мову самастойнай, разглядалі яе як польскі або рускі дыялект; вяліся спрэчкі наконт таго, кім з'яўляюцца тутэйшыя жыхары: ці горшымі рускімі ці горшымі палякамі.

У 1867 г. царскі ўрад забараніў друкаванне кніг на беларускай мове. Зрэшты, беларуская мова была відавочнай прыкметай нелаяльнасці і сепаратызму, а гэта падлягала пакаранню. Забарона праіснавала да рэвалюцыі 1905 года. За ўсё XIX ст., па падліках даследчыкаў, выйшла не больш за 75 кніг. Пасля паўстання 1863 г. на працягу 30 гадоў на Беларусі не была надрукавана ніводная кніга на беларускай мове. А тыя, што выходзілі ў свет, друкаваліся за межамі Расейскай імперыі. Сярод нешматлікіх твораў, якія з'явіліся ў XIX ст., найбольш значнымі лічацца ананімныя паэмы „Тарас на Парнасе" (аўтарства прыпісваецца В. Равінскаму) і „Энеіда навыварат".

## Ксяндзы – лідарамі беларускага адраджэння

Лідар беларускага каталіцкага адраджэння першай паловы XX ст. гісторык, публіцыст, тэолаг і філосаф, ідэолаг Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі

– ксёндз Адам Станкевіч у манаграфіі „Родная мова ў святынях" пісаў: „У XX ст. ужо спатыкаем сведамых ксяндзоў беларусаў, верных сыноў Касцёла і свайго народа, як Фр. Будзька, А. Астрамовіч, К. Стэповіч, З. Якуць, Ф. Абрантовіч, В. Гадлеўскі, В. Шутовіч, П. Татарыновіч, А. Сікора, Я. Рэшаць, І. Тарасэвіч і многа іншых". У кнізе „Родная мова ў святынях" ён абгрунтаваў тэалагічны бок справы і прыйшоў да адназначнай высновы, што: „...найбольш важным і патрэбным з'яўляецца карыстанне роднай мовай у святынях, у дамах малітвы, дзе адбываецца „гутарка душы чалавека з Богам"". Адам Станкевіч родную мову называў „злучывам і праваднікам нацыянальнай супольнасці кожнага народу". Ужыванне роднае мовы ў рэлігійным жыцці з'яўляецца неадʼемнай уласцівасцю хрысціянства і натуральным правам кожнага народу. Гвалт над гэтым правам з'яўляецца злом, з якім трэба змагацца. Увядзенне хрысціянскімі дэмакратамі беларускай мовы ў касцёлы нароўні з польскай змяняла яе статус: з мовы „простай, сялянскай, грубай" яна пераўтваралася ў мову „высокую, панскую", на якой можна гутарыць не толькі між сабою, але таксама звяртацца і да Бога. „Родная мова ў рэлігійным жыцці – гэта неадлучны элемент нацыянальнага жыцця" – лічыў кс. Адам Станкевіч.

### „Каб народ кожны роднай мовай гаварыў"

Сярод згаданых Адамам Станкевічам ксяндзоў-сведамых беларусаў ёсць кс. Аляксандар Астрамовіч – літаратурны псеўданім „Андрэй Зязюля" (1878-1921). Пасвячаны ў 1910-м годзе кс. Астрамовіч спалучаў святарскую службу з літаратурнай дзейнасцю. Дэбютаваў у 1909 годзе на старонках „Нашай Нівы" вершам „Песня дзяўчаці". Друкаваўся ў першай беларускай каталіцкай газеце „Беларус" („Bielarus", 1913-1915) у беларускіх перыядычных выданнях „Светач", „Гоман", „Вольная Беларусь", „Крыніца" і іншыя. У 1914 годзе паэт апублікаваў свой адзіны пры жыцці невялікі зборнік вершаў (лацінкай) „Z rodnaha zahonu" (Wilnia, 1914). Астрамовіч удзельнічаў у першым з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў (Мінск, 1917), быў сябрам Саюзу ксяндзоў-беларусаў, ад якога пачалося стварэнне грамадскай арганізацыі Беларуская Хрысціянская Злучнасць (БХЗ), пазней рэарганізаванай у партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД). Ён вітаў абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Па даручэнні яе Народнага сакратырыята арганізоўваў беларускія школы,

мястэчковыя і павятовыя органы ўлады БНР. У прадмове да пасмяротнага выдання выбраных твораў А. Зязюлі, дзе знайшлася і паэма „Аленчына вяселле" А. Станкевіч пісаў: „Усе тыя куткі Ашмяншчыны і Валожыншчыны, як Гальшаны, Трабы, Вішнёва, Баруны, Крэва, дзе часта пабываў Зязюля, помняць яго і сёння. Нёс ён туды прамень праўды, святло беларускай народнай сведамасці як жывым словам, так і праз родную кніжку і газету... Зязюля – гэта праўдзівы ідэаліст, гэта мучанік за родную ідэю". Дарэчы ў паэме „Аленчына вяселле", а таксама ў нізках вершаў: „Народныя", „Народнае жыццё", „Беларуская прырода", „Родная сяліба", у паэтычнай форме Зязюля выявіў сваю бязмежную любоў да сваёй „малой радзімы" (матыў роднага кута), традыцыйнага сялянскага побыту. (Цікава, што гэтае паняцце „малая Айчына" стала такім папулярным амаль 100 гадоў пазней у прыватнасці сярод беларусаў Беласточчыны). Калі б Андрэй Зязюля не напісаў нічога болей, дык ён увайшоў бы ў гісторыю беларускага адраджэнскага руху гэтым вершам са зборніка „З роднага загону" названага „Песняй Беларусі".

Божа, што калісь народы
На асобкі падзяліў,
І хацеў, каб народ кожны
Мовай роднай гаварыў.

Узглянь жа на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
Голас ціхі, паднявольны
У пакорнай шле мальбе.

Каб рунела, выплывала,
Красавала, наліло
І, насьпеўшы, у ток нямала
Умалоту прынясло.

Чытач лёгка ўбачыць у гэтых радках прататып славутага гімну Наталлі Арсенневай „Магутны Божа" напісаны ёю падчас вайны ў 1943 годзе.

У 1988 годзе я падаўся ў эміграцыю ў ЗША з думкай, што мабыць – назаўсёды. Першыя людзі, якія мяне сустрэлі, гаварылі на цудоўнай, беларускай мове. Сярод іх я пачуваў сябе бы рыба ў вадзе. Я адчуваў і адчуваю сябе беларусам з дзяцінства. У свае 17 гадоў ужо дэбютаваў вершамі і вершаванай прозай на старонках „Нівы". У Беластоку ў 80-я гады служыў часткова па-беларуску (Апостал, Евангелле, казань) у невялічкай царкве Марыі Магдаліны. Амерыканскія беларусы належалі да так званай „старой", пасляваеннай эміграцыі. Першая багаслужба на амерыканскай зямлі ў храме Еўрасініі Полацкай у Саўт-Рывэры ўсведаміла мне, што ідэю беларусізацыі Царквы на практыцы ажыццявілі менавіта там, у Амерыцы. Там я пачуў тое, да чаго ў выданні „Бацькаўшчына" ў 1960-м годзе заклікаў эміграцыйны дзеяч і публіцыст – А. Бутрымовіч. У артыкуле „У справе беларусізацыі нашых цэркваў" ён пісаў: „Царква, як сапраўдная выхавальніца чалавека, мае вытварыць гэткі маральны склад чалавека пры дапамозе сваіх выхаваўчых сродкаў". Духоўную незалежнасць народу – паводле Бутрымовіча – выхоўваюць: „рэлігійныя святасці, нацыянальная мова, казанні па-беларуску, нацыянальныя звычаі, абрады, традыцыі, нацыянальны стыль і нацыянальнае царкоўнае мастацтва, выхаваўчыя арганізацыі, школьніцтва, прапаганда і гэтак далей".

Тады ў Саўт-Рывэры я пазнаёміўся з грамадскім дзеячом і журналістам Радыё „Свабода" – Янкам Запруднікам. Яго ўвагу звярнула мая першая казань на чыстай, беларускай мове. Гэта ён падчас святкавання 1000-годдзя Хросту Русі выступіў з дакладам на тэму роднай мовы ў Царкве. Запруднік звярнуў увагу на ўзаемасувязь паміж малітвай, розумам і роднай мовай. У якасці асноўнай праблемы ён назваў адсутнасць роднай мовы ў рэлігійным жыцці беларусаў на Бацькаўшчыне. „У рэлігійным жыцці Беларусаў на Бацькаўшчыне, праваслаўных і каталікоў, няма месца роднай мове. Што горш, у шмат каго няма разумення ненармальнасці такога стану рэчаў, няма разумення патрэбы роднае мовы для лучнасці з Богам, няма ўсведамлення, што русіфікацыя і паланізацыя рэлігійнага жыцця Беларусаў – з'ява ў існасці антыхрысціянская". Янка Запруднік працытаваў выказванне Апостала Паўла: „Бо калі я малюся ў незнаёмай мне мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным". „Лёгацыд, (генацыд роднага слова) павінен быць абвешчаны смяротным грэхам. Той, хто пазбаўляе беларусаў роднай мовы, выступае супраць хрысціянскае традыцыі" – казаў Янка Запруднік.

Сапраўды, гэта добра падабраная цытата. У 1-м Лісце да Карынфянаў чытаем (1. Кар.14, 9-19) „Так, калі і вы языком вымаўляеце незразумелыя словы, дык як зразумеюць, што вы кажаце? Вы будзеце гаварыць на вецер. Колькі, напрыклад, розных словаў на свеце, і ніводнага з іх няма без значэння; але, калі я не разумею значэння слоў, дык я для таго, хто гаворыць, чужаніца, і той, хто гаворыць, для мяне чужаніца. Так і вы, дбаючы пра дары духоўныя, старайцеся ўзбагаціцца імі дзеля настаўлення царквы. А таму той, хто гаворыць незнаёмаю мовай, маліся за дар тлумачэння. Бо, калі я малюся на незнаёмай мове, дык, хоць дух мой і моліцца, але розум мой застаецца без плоду. Што ж рабіць? Пачну маліцца духам, пачну маліцца і розумам; буду спяваць духам, буду спяваць і розумам. Бо, калі ты будзеш добраслаўляць духам, дык той, хто стаіць на месцы простага чалавека, як скажа „амін" на тваё дзякаванне? Бо ён не разумее, што ты кажаш. Ты добра дзякуеш, але другі не настаўляецца. Дзякую Богу майму: я больш за ўсіх вас гавару мовамі; але ў царкве лепей хачу пяць словаў сказаць розумам маім, каб і іншых наставіць, чым процьму словаў незнаёмаю моваю".

Значыць, дзеля спалучэння духа з розумам трэба маліцца ў роднай мове. Згодна з навукаю Апостала Паўла паступалі святыя Кірыл і Мяфодзій, перакладаючы ў другой палове IX стагоддзя царкоўныя кнігі на жывую мову. Пра патрэбу разумення малітвы і багаслужбы нагадаў Францішак Скарына, калі ў 1517 годзе пачаў друкаваць пераклад Бібліі ў мове свайго „люду паспалітага". Паводле Скарыны, у якой мове чалавек нарадзіўся, у гэткай і Богу павінен маліцца, таму што розум найпаўней функцыянуе ў роднай мове. Таксама Францішак Багушэвіч пісаў: „Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзеная, як і другім добрым людцам". Таксама ў Евангеллі сказана: „На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова (...)".

## „Мы ўсё разумеем"

Гэтую фразу „мы ўсё лепей разумеем чым у нас на Беласточчыне" я пачуў у Чыкага ў храме святога Юрыя. Там я служыў – пераважна Святую Літургію поўнасцю па-беларуску паводле службоўніка Мітрапаліта БАПЦ-Мікалая. Нават невялічкі хор спяваў па-беларуску. Храм, у якім дагэтуль малілася не болей 20-ці прадстаўнікоў „старой эміграцыі" раптам запоўніўся праваслаўнымі беластачанамі. У царкве бывала 100-120 вернікаў, якія дагэтуль ведалі багаслужбу толькі па царкоўна-славянску а казані – на ламанай расейскай мове. „Як прыгожа", „як усё зразумела" – казалі мне. Праўда,

многія з іх пасля службы размаўлялі паміж сабою па-польску і на гэта крывіліся тамтэйшыя старажылы. Аднак тады я ўсвядоміў адно: „а чаму такога не можа быць у нас на Падляшшы? Ці ж Царкве лепей паслужыць паланізацыя чым беларусізацыя?"

## Ізноў жа мой досвед з „малай Айчыны"

Дзякуючы хадайніцтву Спадара Запрудніка ў 1991-м годзе я пачаў працу ў беларускай службе Радыё Свабода ў Мюнхене. Там не было беларускай Царквы і мне даводзілася служыць па-ўкраінску для ўкраінцаў, хаця туды прыходзіла пару беларусаў. Яны гэтак як і беларусы ў ЗША строга прытрымліваліся роднай мовы ў багаслужбе і у кантактах паміж сабою, што мне надзвычай падабалася. У Мюнхене я ў асноўным вёў рэлігійную перадачу „Сімвал веры". У 1995-м годзе Радыё перасялілася ў Прагу, дзе я ўжо не служыў, затое хадзіў на багаслужбы, якія адпраўляліся ізноў жа на роднай мове – па-чэшску. У Празе, як аўтар рэлігійнай перадачы я з немалой прыкрасцю даведаўся, што з паловы кастрычніка 2005-га году, у двух храмах у Беластоку будзе гучэць польская мова. Мяне зацікавіла гэтае незразумелае рашэнне. Я задаваўся пытаннем: Чым царква тлумачыла гэты крок? Ці не паспрыяе гэта паланізацыі беларусаў? Ведаю, што ў Польшчы дагэтуль, для большасці праваслаўных царкоўна-славянская мова застаецца сакральнай мовай Царквы ў адрозненне ад моваў штодзённага жыцця. Яна сталася неад'емным складнікам сакральнай прасторы праваслаўнай царквы: малітвы, спеву і іконы, інакш кажучы духоўнасці і містыкі Праваслаўя. Апроч таго, з міжваеннага перыяду Царква зведала перыяд прымусовай паланізацыі, бо тады на афіцыйным узроўні лічылася, што Праваслаўе з'яўляецца спадчынай царскай Расеі і яно – чужы элемент. Сапраўды, праваслаўныя вернікі як правіла не лічылі сябе этнічнымі палякамі, але беларусамі, украінцамі, лэмкамі, ці проста – тутэйшымі. Многім з іх з цяжкасцю даецца той факт, што яны вымушаныя жыць з кляймом іншасці і нават няпаўнавартаснасці, бо адкрыта дэманстраваць сваю няпольскасць і некаталіцкасць, у польскіх рэаліях патрабуе некаторай мужнасці. Некаторыя не хочуць ускладняць сабе жыццё і гэткім чынам з'явілася новая катэгорыя праваслаўных „праваслаўныя палякі". Яны кажуць, што з маленства яны праваслаўныя, але вось ніякага дачынення да беларускасці ці ўкраінскасці яны не адчуваюць. Ну, і тым болей, калі жывуць у Польшчы, дык ясна, што яны палякі, толькі праваслаўныя.

Памятаю, што тады я звярнуўся да некалькіх людзей з пытаннем – як яны ўспрынялі навіну пра польскую мову ў царкве. Грамадскі і палітычны дзеяч і журналіст – Яўген Вапа завяў, што „для нас, беларусаў з Беласточчыны, якія складаюць пераважную частку праваслаўных вернікаў у Польшчы, гэтая навіна была нечаканасцю і пры тым навіной вельмі балючай. Гэта нас не толькі здзівіла, але забалела і абурыла" – заявіў Яўген Вапа. Калі ўводзіцца польская мова, дык узнікае пытанне: а чаму не ўвесці беларускую мову? Калі ў праваслаўных храмах у Польшчы гучыць украінская мова, дык відавочна Бог разумее па-ўкраінску. Бог разумее на ўсіх мовах свету, і быццам бы ня хоча разумець толькі па-беларуску... Калі ёсць патрэба служыць для сапраўдных палякаў, якія прынялі праваслаўе па-польску – калі ласка. Але ж мы, беларусы, ужо колькі гадоў просім і дабіваемся багаслужбаў на беларускай мове, але няма іх... Па словах Яўгена Вапы – „з боку духавенства гучаць тлумачэнні, нібыта няма перакладаў „Святога Пісання". Але ж яны ёсць, і пры тым па-суседску. Няўжо цяжка замовіць пераклады, якія мае праваслаўная царква ў Беларусі? Усё ёсць. Трэба выразна сказаць: няма толькі добрай волі святароў... Я тут бачу адну вялікую пагрозу. Сваймі дзеяннямі царква хоча мэтанакіраваная ствараць катэгорыю „праваслаўных палякаў", але гэтым самым яна падрэзвае галіну, на якой сама сядзіць. Трэба памятаць, што моц Праваслаўя ў Польшчы заўсёды асноўвалася на тым, што яно падтрымлівала моўную адметнасць, абапіралася на беларускую альбо ўкраінскую мовы. Калі хочам мець вернікаў, дык мова на Падляшшы павінна быць беларуская, а калі хочам мець у цэрквах турыстаў, каб яны не былі пустымі, то тады – польскую мову" – заявіў 11 гадоў таму Яўген Вапа.

Цікавую думку выказаў тады праваслаўны святар, былы каталік родам з Кракава а. Яўстафі Страх. Ён вялікі знаўца і прыхільнік захавання царкоўна-славянскай мовы. „Сам я праціўнік паланізацыі праваслаўнага набажэнства, але, з другога боку, гучыць усё болей папрокаў на адрас нашай царквы ў тым, што набажэнства становіцца незразумелым для сучаснага грамадства, асабліва для моладзі" – заявіў а. Яўстафі. Ён прапануе кампраміснае рашэнне: адпраўляць багаслужбу па царкоўна-славянску і на нацыянальных мовах пераменна, каб вернікі добра разумелі кожны фрагмент багаслужбы, а казані гаварыць на нацыянальных мовах, якія людзям найбольш адпавядаюць. „Але каб цалкам адмаўляцца ад царкоўна-славянскай мовы, гэта для нас духоўная смерць" – лічыць а. Яўстафі Страх.

Яшчэ адзін мой суразмоўца, дамініканец Пётр Руткоўскі выказаў такую думку: „Старажытныя, архаічныя мовы ў літургіі таксама маюць сваю функцыю.

Літургія, гэта сусвет сімвалаў. Неабавязкова ўсё для ўсіх адразу павінна быць зразумелым. Вельмі важна перажыць момант таямнічасці, альбо сутыкнуцца з нечым, што прымушае задумацца. Незразумелае слова, альбо не зусім зразумелы сімвал падштурхоўвае да роздуму. Таму гэтак сярод каталікоў, як і сярод праваслаўных таксама назіраем попыт на набажэнства на старажытных мовах, хай сабе не зусім зразумелых. Думаю, што ідэальная сітуацыя, калі вернікі маюць магчымасць выбару: каб нехта паводле свайго жадання мог пайсці на літургію на царкоўнаславянскай мове, альбо ў выпадку каталікоў – на лацінскую. Спрадвеку існаваў прынцып, што не трэба ўсіх прымушаць да гераізму. Гэта павінна быць пытаннем добрае волі. А ў выпадку разумення лаціны, ці старaславянскай мовы, дык гэта справа калі не гераізму, дык значнага высілку. Чалавеку прыходзіцца прыкласці шмат намаганняў, каб вывучыць гэтыя мовы" – заявіў дамініканец Пётр Рудкоўскі.

## Мае высновы

З вышэй сказанага і перажытага мною ў мяне склалася даволі ясная пазіцыя:
– Я прыхільнік максімальна шырокага выкарыстоўвання беларускай мовы там дзе яна родная. Большасць праваслаўных у Польшчы – беларусы, нават калі яны пра гэта не хочуць ведаць.
– Катэгорыя „праваслаўны паляк" для мяне раўназначная з пэўнай формай нацыянальнага нігілізму, альбо рэнегацтва. Будучы „праваслаўным палякам" чалавек пажадае стаць паўнавартасным палякам, гэта значыць каталіком. Уніяцтва таксама стала пераходным этапам на шляху ад праваслаўя ў каталіцтва.
– Тлумачэнне: „я не разумею мовы багаслужбы" не вытрымлівае крытыкі: а ці стагоддзямі людзі разумелі лаціну? Патрабаванне пераходу на „зразумелую" мову гэта прыкмета людзей інтэлектуальна лянівых, у якіх няма сапраўднага зацікаўлення Праваслаўнай Царквою і духоўным жыццём. Без дакладнай статыстыкі ведаю, што ад увядзення польскай мовы колькасць вернікаў у праваслаўных храмах у Польшчы напэўна не пабольшала. Затое пераход на мову каталіцкага касцёлу можа паспрыяць пераходу каталіцтва.
– У свой час Грэцкая царква ўвяла навагрэцкую мову, паколькі вернікі, асабліва маладыя скардзілася, што яны не разумеюць старажытную грэцкую мову, але ж з гэтага нічога не атрымалася. Наплыву моладзі ў грэцкія храмы не адбылося. Думаю, што гэтак можа быць альбо і ўжо адбылося ў нас.

– Грэцкай памылкі не хоча дапусціць і Руская Праваслаўная Царква. „На сённяшні дзень радыкальная змена не была б ні разумнай, ні своечасовай, бо магла б толькі адштурхнуць ад царквы тых, хто моцна звязаны з традыцыяй і са старой мовай” – патлумачыў пазіцыю Маскоўскага патрыярхату Патрыярх Кірыл.

Усё вышэй сказанае было сказанае таму, што яно адпавядае майму разуменню праблемы. Гэтак не мусіць усіх пераканаць, затое можа быць падставай для дыскусіі.

*Кастусь* Бандарук
Васількаў, жнівень 2016 г.

## DAJMY BOGU SZANSĘ

„Czy Bóg nie rozumie po białorusku”? W tym pytaniu użytym jako tytuł artykułu, nasz znakomity pisarz białoruski – Sokrat Janowicz formułuje zarzut nie w stosunku do Boga, ale ludzi. Tych ludzi, którzy język białoruski, rzekomo „prosty”, „chłopski” nie uznają za godny być sakralnym językiem. Janowicz słusznie zauważył, że idea białorusizacji Kościoła (Cerkwi) pojawiła się w środowisku kleru katolickiego. Dlaczego pojawiła się tak późno, dopiero na początku XX wieku?

### Garść historii

Osobiście nigdy nie zgłębiałem historii formowania się języka białoruskiego ani jego miejsca w Cerkwi. Jednakże dostatecznie dobrze zapoznałem się z pracami innych badaczy. Rzecz w tym, że w II połowie XVI w., po zjednoczeniu Litwy (WKL) z Koroną wskutek podpisania Unii Lubelskiej (1569 r.) ziemie białoruskie weszły w skład Rzeczypospolitej. Przy aktywnym udziale Kościoła katolickiego Rzeczpospolita zaczęła realizować politykę polonizacji i katolicyzacji Białorusinów. Początkowo oficjalnie wykorzystywane były zarówno polski jak i (staro)białoruski język, jednakże z upływem czasu urzędowym stał się wyłącznie język polski. W 1696 r. Sejm

Warszawski przyjął uchwałę zakazującą posługiwania się „ruskim" językiem w oficjalnych dokumentach, dekretach, wyrokach, uchwałach i postanowieniach.
Już w końcu XVII w. starobiałoruski język pisany został niemal całkowicie wyrugowany. W istocie język ten został sprowadzony do roli ludowego i potocznego (dialektu). Jako taki trwał i rozwijał się w sferze folkloru (baśnie, legendy, podania, pieśni, aforyzmy, żarty itd.), jak również w charakterze wtrąceń do polskich utworów scenicznych w celu lepszej charakterystyki białoruskich bohaterów. Wraz z postępującą polonizacją wśród Białorusinów był propagowany negatywny, obraźliwy stosunek do wszystkiego co białoruskie, w pierwszym rzędzie do języka, który poczęto określać jako „chamski", „chłopski", „pogański". Język polski uważany był za „lepszy", „pański", „szlachetny". W takiej sytuacji białoruskiej szlachcie i magnaterii łatwo było wyrzec się nie tylko języka ojczystego, ale i wiary.
W końcu XVIII w. wskutek trzech rozbiorów Rzeczypospolitej (1795 r) ziemie białoruskie weszły w skład Imperium Rosyjskiego. W 1840 r. car Mikołaj I swym „ukazem" zabronił używania nawet nazwy „Białoruś" i narzucił nazwę „Kraj Północno-Zachodni". Język białoruski nie mógł być wykorzystywany ani w oficjalnej dokumentacji ani w literaturze. Zresztą nie istniała ani gramatyka ani specjalistyczna terminologia w języku białoruskim. Ojczystą „mową" lud białoruski posługiwał się jedynie w życiu codziennym. Zarówno polscy jak i rosyjscy uczeni nie uznawali języka białoruskiego za osobny, lecz jako polski albo rosyjski dialekt. Dochodziło nawet do polemik, czy „tutejsi" Białorusini, to „gorsi Rosjanie" czy też „gorsi Polacy".
W 1867 r. carat zakazał wydawania książek w języku białoruskim. Ponad to, język białoruski był ewidentnym przejawem nielojalności i separatyzmu, a to podlegało karze. Zakaz obowiązywał do 1905 r. Wedle historyków literatury, w ciągu całego XIX w. wyszło z druku nie więcej niż 75 książek. Po powstaniu styczniowym 1863-64 na terytorium Białorusi przez 30 lat nie wydano ani jednej książki w języku białoruskim. Te, które zostały wydane, były opublikowane poza granicami carskiej Rosji. Wśród nielicznych 19-wiecznych utworów za najbardziej znaczące uważane są „Taras na Parnasie" (autorstwo przypisywane jest W. Rawińskiemu) i „Eneida naopak".

## Księża-animatorzy Odrodzenia białoruskiego

Lider białoruskiego, katolickiego Odrodzenia białoruskiego pierwszej połowy XX w., historyk, publicysta, teolog i filozof, ideolog Białoruskiej Demokracji Chrześcijańskiej – ks. Adam Stankiewicz w swej monografii „Język ojczysty w świątyniach" pisał: „W XX w. spotykamy już świadomych księży-Białorusinów, wiernych synów

Kościoła i swego narodu jak: F. Budźko, A. Astramowicz, Z. Jakuć, F. Abrantowicz, W. Godlewski, K. Stepowicz, W. Szutowicz, P. Tatarynowicz, A. Sikora, J. Reszeć, J. Tarasewicz i wielu innych". Ks. Stankiewicz przyjrzał się zagadnieniu z teologicznego punktu widzenia i doszedł do jednoznacznego wniosku, że „najważniejszym i najbardziej pożądanym jest używanie języka ojczystego w świątyniach, w domach modlitwy, gdzie odbywa się: „rozmowa człowieka z Bogiem"". Ks. Stankiewicz nazwał język ojczysty „spoiwem i przewodnikiem każdej społeczności narodowej". Wykorzystywanie języka ojczystego w życiu religijnym jest niezbywalną cechą chrześcijaństwa i przyrodzonym prawem każdego narodu. Pogwałcenie tego prawa jest złem z którym należy walczyć. Wprowadzenie przez chadeków języka białoruskiego do kościołów na równi z polskim automatycznie zmieniało status tego pierwszego. „Prosty", „chłopski", „prymitywny" język stawał się „subtelnym", „szlachetnym" w którym można było nie tylko porozumiewać się między sobą, ale także zwracać się do Boga. Język ojczysty w życiu religijnym to nieodłączny element świadomości narodowej" – uważał ks. Adam Stankiewicz.

## „Aby każdy naród mówił po swojemu"

Wśród wspomnianych przez Adama Stankiewicza księży-świadomych Białorusinów, jest ks. Aleksander Astramowicz (1878-1921), pseudonim literacki „Andrej Ziaziula". Po otrzymaniu święceń kapłańskich w 1910 r. duszpasterskie posługiwanie łączył on z działalnościa literacką. Debiutował na łamach „Naszej Niwy" wierszem „Pieśń dziewczęcia". Publikował swe utwory w pierwszej katolickiej, białoruskiej gazecie „Bielarus", (1913-1915), w białoruskich periodykach „Swietacz", „Homan", „Wolnaja Biełaruś", „Krynica" i innych. W 1914 r. wydał swój jedyny za życia zbiór wierszy pisanych łacińskim alfabetem „Z rodnaha zahonu" (Wilno, 1914). Astramowicz brał udział w I Zjeździe białoruskich księży katolickich (Mińsk 1917), był członkien Związku księży-Białorusinów z którego wyłoniła się organizacja społeczna Białoruskie Stowarzyszenie Chrześcijańskie (BCHZ) następnie zreorganizowane jako partia Białoruska Demokracja Chrześcijańska. Astramowicz z entuzjazmem przyjął obwieszczenie Białoruskiej Republiki Ludowej (BNR) Z polecenia jej sekretariatu organizował białoruskie szkoły, małomiasteczkowe i powiatowe organa władzy BNR. W przedmowie do pośmiertnego wydania utworów A. Ziaziuli, w którym znalazł się poemat „Wesele Aleny" („Alenczyna wiasielle") A. Stankiewicz pisał: „Wszystkie tamte zakątki Oszmiańszczyzny i Wołożynszczyzny jak Olszany, Traby, Wiśniewo, Baruny, Krewo, gdzie często Ziaziula bywał, pamiętają o nim do dzisiaj. Niósł on

w te mieściny światło białoruskiej świadomości narodowej jak poprzez żywe słowo tak i za pomocą gazet i książek w języku ojczystym... Ziaziula – to prawdziwy idealista, męczennik za sprawę odrodzenia narodowego”. Istotnie, w poemacie „Alenczyna wiasielle” jak również w cyklach wierszy: „Ludowe”, „Życie ludu”, „Przyroda białoruska”, „Ojczyste gniazdo” w poetyckiej formie Ziaziula wyraził swe bezgraniczne umiłowanie „małej Ojczyzny” (motyw stron rodzinnych) tradycyjnego trybu życia chłopów. Warto tu zwrócić uwagę na fakt, że pojęcie „małej Ojczyzny” stało się tak popularne niemal 100 lat później w szczególności wśród Białorusinów Białostocczyzny. Gdyby Andrej Ziaziula nie napisał niczego innego, to zapisałby się w historii białoruskiego Odrodzenia tym wierszem ze zbioru „Z rodnaha zahonu” nazwanego „Pieśnią Białorusi”. Z braku przekładu na język polski przytaczam go w oryginale.

Божа, што калісь народы
На асобкі падзяліў,
І хацеў, каб народ кожны
Мовай роднай гаварыў.

Узглянь жа на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
Голас ціхі, паднявольны
У пакорнай шле мальбе.

Каб рунела, выплывала,
Красавала, наліло
І, насьпеўшы, у ток нямала
Умалоту прынясло.

Czytelnik łatwo dostrzeże w tych strofach prototyp znakomitego hymnu Natalii Arsieniewej „Mahutny Boża” napisanego przez nią znacznie później, bo w 1943 r.

## Moje emigracyjne doświadczenia

W 1988 r. udałem się na emigrację do USA z postanowieniem aby zostać tam na stałe. Pierwsi Amerykanie którzy mnie spotkali mówili wspaniale po białorusku. Czułem się tam wśród prawdziwie swoich. Rzecz w tym, że Białorusinem czułem się od dzieciństwa. W swoje 17 lat debiutowałem wierszami i prozą poetycką na łamach „Niwy”.

W latach 80. w Białymstoku, jako młody kapłan prawosławny, odprawiałem częściowo po białorusku (Ewangelia, Apostoł, kazanie) nabożeństwa w cerkiewce Marii Magdaleny. Amerykańscy Białorusini należeli do tak zwanej „starej", powojennej emigracji. Jak się tam znaleźli – to osobny temat. Pierwsza Liturgia św. w cerkwi Eufrozyny Połockiej w South River (New Jersey) uświadomiło mi, że idea białorusizacji Cerkwi w praktyce została urzeczywistniona mianowicie tam, w Ameryce. Właśnie tam odczułem to, do czego w emigracyjnym periodyku „Baćkauszczyna" w 1960 r. nawoływał emigracyjny działacz i publicysta A. Butrymowicz. W artykule zatytułowanym „W sprawie białorusizacji naszych cerkwi" pisał on: „Cerkiew jak prawdziwa wychowawczyni człowieka powinna formować moralne oblicze za pomocą swych pedagogicznych środków". Duchową niezależność narodu – według Butrymowicz – kształtują: religijne świętości, ojczysty język, kazania po białorusku, zwyczaje narodowe, obrzędy, tradycje, charakter narodowy, narodowa sztuka cerkiewna, wychowawcze instytucje, szkolnictwo, propaganda itd."
Wówczas w South River poznałem działacza i dziennikarza białoruskiej sekcji Radio Swoboda – Jana Zaprudnika. Jego uwagę zwróciło moje pierwsze kazanie w literackim, bezbłędnym języku białoruskim. Podczas świętowania 1000-lecia Chrztu Rusi w tymże 1988 roku Zaprudnik wystąpił z referatem na temat języka ojczystego w Cerkwi. Zwrócił on uwagę na współzależność między modlitwą, rozumem i językiem ojczystym. Za największy problem uznał on nieobecność języka białoruskiego w religijnym życiu Białorusinów w Ojczyźnie. „Tam zarówno u prawosławnych jak i katolików nie ma miejsca dla języka ojczystego (nadmieniam, że mówił to w 1988 roku). Co gorsza, wielu Białorusinów w kraju nawet nie uświadamia nienormalności tego stanu rzeczy, nie ma zrozumienia dla użyteczności języka ojczystego dla więzi z Bogiem; nie ma świadomości tego, że rusyfikacja i polonizacja życia religijnego w Białorusi, to zjawisko w swej istocie-antychrześcijańskie".
Jan Zaprudnik przytoczył słowa Apostoła Pawła z I Listu do Koryntian: „Tak też i wy: jeśli pod wpływem daru języków nie wypowiadacie zrozumiałej mowy, któż pojmie to, co mówicie? Na wiatr będziecie mówili. Na świecie jest takie mnóstwo dźwięków, ale żaden dźwięk nie jest bez znaczenia. Jeżeli jednak nie będę rozumiał, co jakiś dźwięk znaczy, będę barbarzyńcą dla przemawiającego, a przemawiający barbarzyńcą dla mnie. Tak też i wy, skoro jesteście żądni darów duchowych, starajcie się posiąść w obfitości te z nich, które się przyczyniają do zbudowania Kościoła. Jeśli więc ktoś korzysta z daru języków, niech się modli, aby potrafił to wytłumaczyć. Jeśli bowiem modlę się pod wpływem daru języków, duch mój wprawdzie się modli, ale umysł nie odnosi żadnych korzyści Cóż przeto pozostaje? Będę się modlił duchem,

ale będę się też modlił i umysłem, będę śpiewał duchem, będę też śpiewał i umysłem. Bo jeśli będziesz błogosławił w duchu, jakże na twoje błogosławienie odpowie „Amen" ktoś nie wtajemniczony, skoro nie rozumie tego, co ty mówisz? Ty wprawdzie pięknie dzięki czynisz, lecz drugi tym się nie buduje. Dziękuję Bogu, że mówię językami lepiej od was wszystkich. Lecz w Kościele wolę powiedzieć pięć słów według mego rozeznania, by pouczyć innych, zamiast dziesięć tysięcy wyrazów według daru języków". Zdaniem Zaprudnika „Logobójstwo" powinno być uznane za grzech śmiertelny. Ten, kto pozbawia Białorusinów ojczystego języka, ten sprzeciwia się tradycji chrześcijańskiej. Innymi słowy, w celu połączenia ducha z intelektem należy modlić się w ojczystym języku. Zgodnie z nauczaniem Apostoła Pawła postępowali św.w Bracia Cyryl i Metody, którzy w II połowie IX w. Przetłumaczyli księgi liturgiczne na żywy język słowiański. O potrzebie rozumienia modlitwy i nabożeństwa przypomniał Franciszek Skoryna, który w 1517 r. począł drukować przekład Biblii w języku „ludu pospolitego". Według Skoryny, z jakim językiem człowiek się urodził – w tym powinien modlić się, bo rozum najlepiej funkcjonuje w ojczystym języku. Również Franciszek Bohuszewicz pisał: „Nasz język jest dla nas święty, bo dany nam jest od Boga, jak też innym poczciwym ludziom". Zresztą w Ewangelii jest powiedziane: „Na początku było Słowo, i Słowo było u Boga, i Bogiem było Słowo (...)".

## „My wszystko rozumiemy"

Tę frazę: „my wszystko lepiej rozumiemy aniżeli u nas na Białostocczyźnie" usłyszałem w Chicago w cerkwi św. Juryja (Jerzego) W tej cerkwi odprawiałem nabożeństwa (głównie Świętą Liturgię) w całości po białorusku według książki do nabożeństwa wydanej przez Metropolitę Mikołaja, zwierzchnika Białoruskiej Autokefalicznej Cerkwi Prawosławnej z Toronto. Nawet skromny chór próbował śpiewać po białorusku, co dla wielu było rzeczą nową i niełatwą. Cerkiew, w której w niedzielę dotąd modliło się nie więcej jak 20 osób, nagle zapełniła się białostoczanami. Na niedzielnych nabożeństwach bywało 100-120 osób, którzy dotychczas znali nabożeństwa wyłącznie po cerkiewnosłowiańsku, a kazania słyszeli w jakimś rosyjskopodobnym języku. „Jak ładnie", „my wreszcie wszystko rozumiemy" – mówili mi krajanie z Białostocczyzny. Co prawda, wielu spośród nich po nabożeństwie przechodzili w rozmowach między sobą na język polski, co wyraźnie nie podobało się miejscowym Białorusinom z tejże „starej" emigracji. Mimo to wówczas uświadomiłem sobie jedną podstawową rzecz: „a dlaczego tak nie mogłoby być u nas na Podlasiu? Czyż Cerkwi lepiej przysłuży się polonizacja zamiast białorusizacji?

Dzięki wstawiennictwu J. Zaprudnika, z Chicago w 1989 roku zacząłem współpracować z białoruską „Swobodą". Nagrywałem niedzielne kazania po białorusku. W lutym 1991 rozpocząłem pracę w Radio na miejscu, w Monachium. Nie było tam białoruskiej Cerkwi, toteż zdarzało się odprawiać nabożeństwa dla Ukraińców po ukraińsku. Oni również, tak jak Białorusini w USA zachowywali język ojczysty zarówno w Cerkwi jak i w kontaktach między sobą, co niezwykle mnie ujmowało. Do tego dzierżawionego na użytek prawosławnych kościółka przychodziło także kilkoro Białorusinów. W Monachium prowadziłem audycję religijną pod nazwą „Symbol Wiary" (Credo) Dzięki tej ekumenicznej audycji nawiązałem kontakty z wieloma ludźmi z wielu krajów i kilku kontynentów. W 1995 roku Radio zostało przeniesione do Pragi. Niestety w tym pięknym mieście, jako zasuspendowany duchowny, w tak zwanej „kanonicznej" Cerkwi, już nie nie mogłem odprawiać i po prostu jako laik uczęszczałem na nabożeństwa po czesku w katerze Cyryla i Metodego. W Pradze, w 2005 r. z niemałą przykrością dowiedziałem się, że w dwu prawosławnych cerkwiach w Białymstoku będą odprawiane nabożeństwa po polsku. Dla mnie była to niezrozumiała decyzja. Głowiłem się nad tym: co to za ważny powód sprawił, że Cerkiew odchodzi od swej tradycji. Czy nie przyśpieszy to procesu polonizacji? Wiem, że dla wielu, jeżeli nie dla większości prawosławnych w Polsce, język cerkiewnosłowiański był i nadal pozostaje nieodłącznym elementem sakralnej przestrzeni Cerkwi: modlitwy, śpiewu, ikonografii, architektury, duchowości i mistyki Prawosławia. Ponad to, w okresie międzywojennym Cerkiew zetknęła się i ze wszech sił przeciwstawiała się przymusowej polonizacji. Sanacyjne władze uważały Prawosławie w jego rosyjskim wydaniu za element obcy kulturowo i spuściznę carskiej Rosji. Istotnie, prawosławni z reguły nie uważali się za etnicznych Polaków, a raczej w większości za Białorusinów i Ukraińców, albo po prostu „tutejszych". Jednakże obecnie wielu prawosławnym doskwiera fakt, że zmuszeni są oni żyć z piętnem inności, niepełnowartościowości, bo otwarte przyznawanie się do swej nie-polskości i nie-katolickości nadal, nawet obecnie, niesie pewne ryzyko i wymaga odwagi. Niektórzy, postanowili ułatwić sobie życie i w ten sposób pojawiła się dość egzotyczna kategoria „prawosławnych Polaków". Twierdzą oni, że prawosławnymi to są oni od dzieciństwa, natomiast z białoruskością czy ukraińskością w żaden sposób się nie utożsamiają. Ponad to, skoro mieszkają w Polsce, mają polskie obywatelstwo, to jasne, że są Polakami. Przyznaję, że to dosyć prymitywne tłumaczenie, bo świadczy o nierozróżnieniu narodowości i obywatelstwa.

Pamiętam, że wtedy jesienią 2005 r. zwróciłem się telefonicznie do kilku osób w Polsce – co sądzą oni o języku polskim w Cerkwi. Działacz społeczny i polityczny oraz dziennikarz Eugeniusz Wappa oznajmił , że przyjął wiadomość o tym z przykrością. „Dla nas, Białorusinów z Białostocczyzny, którzy stanowią przeważającą część prawosławnych w Polsce, ta wiadomość była przykrą niespodzianką i bardzo bolesna nowiną. To nas nie tylko zdziwiło, ale zabolało i oburzyło" – oświadczył Eugeniusz Wappa. „Kiedy wprowadza się język polski, to powstaje pytanie: a dlaczego nie wprowadzić języka białoruskiego? Skoro w prawosławnych świątyniach w Polsce, wprawdzie sporadycznie, ale jednak brzmi język ukraiński, to znaczy, że Bóg rozumie po ukraińsku. Bóg rozumie w językach całego świata a wygląda, jakby nie chciał rozumieć tylko po białorusku. Jeżeli jest potrzeba odprawiać nabożeństwa dla Polaków, którzy przyjęli Prawosławie – proszę bardzo... Tylko, że my – Białorusini, już od tylu lat prosimy i domagamy się nabożeństw po białorusku, i wciąż nie możemy się doprosić" – powiedział Eugeniusz Wappa. „Ze strony duchowieństwa słychać argumenty jakoby nie ma przekładów „Pisma Świętego". Ale one są i przy tym – po sąsiedzku. Czy aż tak trudno jest zamówić przekłady, które posiada Prawosławna Cerkiew w Białorusi? Trzeba uczciwie przyznać: brakuje dobrej woli ze strony duchowieństwa. Ja widzę tu jedno poważne niebezpieczeństwo, zagrożenie. Swymi działaniami Cerkiew chce z rozmysłem stworzyć kategorię „prawosławnych Polaków", ale tym samym podcina ona gałąź na której siedzi. Trzeba pamiętać, że moc Prawosławia w Polsce zawsze gruntowała się na tym, że podtrzymywało ono zróżnicowanie językowe, opierało się na ukraińskim albo białoruskim języku. Jeżeli chcemy mieć aktywnych parafian, to na Podlasiu powinien być używany język białoruski. Jeżeli natomiast chcemy mieć w cerkwiach turystów, aby nie były one całkiem puste, to wówczas – polski język" – powiedział 11 lat temu Eugeniusz Wappa.

Ciekawą myśl wyraził wtedy prawosławny duchowny, były katolik rodem z Krakowa ks. Eustachy (Stanisław) Strach. To wybitny znawca języka cerkiewno-słowiańskiego, jego żarliwy entuzjasta i apologeta. „Osobiście, jestem przeciwnikiem polonizacji nabożeństwa prawosławnego, ale z drugiej strony, słychać coraz więcej utyskiwań pod adresem naszej Cerkwi na to, że nabożeństwo staje się niezrozumiałe dla współczesnych wiernych, zwłaszcza dla młodzieży" – powiedział o. Eustachy. Proponuje on kompromisowe rozwiązanie: aby odprawiać nabożeństwa w językach cerkiewnosłowiańskim i narodowych przemiennie, aby wierni dobrze rozumieli każdy fragment nabożeństwa. Tzn. w jedną niedzielę pewną część nabożeństwa wierni słyszą po cerkiewno-słowiańsku, a w drugą to samo – na przykład po białorusku. Kazania – według niego – należy wygłaszać w tym języku, który wiernym najbardziej odpowiada.

„Byle tylko zupełnie nie rezygnować z języka cerkiewno-słowiańskiego, bo to oznaczałoby dla nas śmierć duchową" – uważa ks. Eustachy Strach.
Jeszcze jeden mój współrozmówca, dominikanin z Białorusi, który wówczas pisał w Polsce pracę doktorską – Piotr Rutkouski wypowiedział następująca myśl: „Starożytne, archaiczne języki w liturgii też mają rację bytu. Nabożeństwo – to Wszechświat symboli. Niekoniecznie wszystko dla wszystkich ma być zrozumiałe. Bardzo ważne jest przeżycie tajemniczości lub zetkniecie się z czymś, co zmusza do zastanowienia. Niezrozumiałe słowo albo symbol skłania do myślenia. To dlatego zarówno wśród katolików jak i prawosławnych widzimy zapotrzebowanie na nabożeństwa w starożytnych językach, choćby nawet nie całkiem zrozumiałych. Myślę, że idealna jest taka sytuacja, w której wierni mają możliwość wyboru: kiedy ktoś zainteresowany może pójść na nabożeństwo w języku cerkiewno-słowiańskim albo po łacinie. Z dawien dawna istnieje zasada, że od nikogo nie należy wymagać heroizmu, bo człowiek zmuszony jest wiele się natrudzić, aby poznać te języki" – powiedział o. Piotr Rutkouski.

## Moje wnioski

Z tego co tu powiedziałem i co osobiście przeżyłem wynika moje dosyć jasne stanowisko:
– Jestem zwolennikiem maksymalnie szerokiego wykorzystywania w Cerkwi języka białoruskiego tam, gdzie on już jest albo łatwo i bez przymusu może być uznany za ojczysty język. Z pewnością, większość prawosławnych w Polsce to Białorusini, nawet jeżeli oni sami nie chcą tego przyjąć do wiadomości. Jednakże nawet w przypadku szerokiej białorusizacji Cerkwi w Polsce (oczywiście głównie na Podlasiu) nie uważam za celowe całkowite odrzucenie języka cerkiewno-słowiańskiego. Jest to element tradycji, a ta jest częstokroć wartością samą w sobie.
– Pojęcie „ prawosławny Polak" jest dla mnie równoznaczne z pewną formą nihilizmu narodowego albo renegacji. Będąc już „prawosławnym Polakiem" człowiek wkrótce zechce być pełnowartościowym Polakiem, czyli katolikiem. W polskich realiach, polonizacja Cerkwi jest dla niej formą samobójstwa. Uniatyzm, greko-katolicyzm stał się takim przejściowym etapem od prawosławia do katolicyzmu.
– Tłumaczenie: „ale ja nie rozumiem języka nabożeństwa" jest słabym wytłumaczeniem . A czy w ciągu stuleci prosty lud rozumiał łacinę? Rozumiał kazania, bo te były w językach narodowych. Teraz też powinny być w tych językach jako absolutne minimum. Postulat automatycznego przejścia na „zrozumiały", czyli polski język nabożeństw cechuje ludzi intelektualnie leniwych, których w istocie mało obchodzi

Cerkiew i życie duchowe. Nawet bez statystycznych danych obserwuję, że od coraz powszechniejszego wykorzystywania języka polskiego, wiernych w cerkwiach nie przybyło. Natomiast przejście na język Kościoła Katolickiego może ułatwić i przyśpieszyć przejście na katolicyzm.

– Swego czasu (lata 20-te XX w) Grecka Cerkiew, wraz z nowym kalendarzem, wprowadziła współczesny język grecki, ponieważ słychać było skargi, że staro-grecki jest nie całkiem zrozumiały. Jednak nic to nie dało. Przypływ wiernych nie nastąpił. Nastąpił rozłam związany z kalendarzem. Widać też, że zwolennikom zmian wcale nie chodziło o język. Tu była wymówka. Myślę, że to samo może zdarzyć się albo już się zdarzyło także u nas w Polsce.

– Pomyłki Greków nie chce powtórzyć Rosyjska Cerkiew Prawosławna. „Na dzień dzisiejszy radykalna zmiana nie wydaje się być ani rozumna ani na czasie, bo mogłaby zniechęcić do Cerkwi tych, którzy są bardzo przywiązani i do „starego" języka" – oświadczył Patriarcha Cyryl.

Wszystko wyżej powiedziane odpowiada mojemu rozumieniu zagadnienia. Bóg rozumie po białorusku, tylko dajmy Mu szansę usłyszeć nas w tym pięknym języku. Nie wszyscy muszą się z tym zgodzić, za to może to być podstawą do dyskusji.

*Konstanty* BONDARUK
Wasilków, sierpień 2016 r.





# XVII ТРЫЯЛОГ
## Сімпазіён
## „Ці Бог не разумее па-беларуску?”
## 27 жніўня 2016 г.
## Каўказская сінагога ў Крынках

## частка I
## ЛІТАРАТУРА

*Лявон* Тарасэвіч:

Шчыра вітаю ўсіх на сямнаццатым Трыялогу. Цудоўна, што гучаць словы Сакрата „Czy Pan Bóg nie rozumie po białorusku”. Думаю, гэта ёсць такі сказ, каторы нам дае магчымасць дыскусіі і інтэлектуальнага развіцця. Гасцей маем цудоўных, але прадставіць іх і павядзе цэлую дыскусію Міхась Андрасюк. Калі ласка.

*Міхась* Андрасюк:

Дзякую. Першая наша група, якая пачне шукаць адказ на пытанне *czy Pan Bóg nie rozumie po białorusku, ці Бог не разумее па-беларуску*, якое паставіў некалі Сакрат Яновіч, гэта пісьменнік Уладзімір Арлоў, Павал Севярынец – пісьменнік і сустаршыня партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя і Барыс Пятровіч – пісьменнік, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў. Jeszcze, żeby formalnościom stało się zadość powiem, że Trialog został dofinansowany ze środków Ministerstwa Kultury i Dziedzictwa Narodowego, także dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji, a także przy wsparciu finansowym Województwa Podlaskiego. Я напачатак хацеў бы папрасіць Паўла Севярынца,

каб ён прачытаў некалькі радкоў свайго тэксту, які ён напісаў у вёсцы Малое Сітна, а тэкст называецца „Скарына і дзесяць мільёнаў”. Пакуль прачытаеш, колькі слоў пра тое, што гэта за вёска Малое Сітна і як ты там апынуўся.

*Павал* Севярынец:

Гэта вёсачка на Полаччыне, на самай мяжы з Расеяй. Саслалі мяне туды ў 2005 годзе за ўдзел у акцыях пратэсту супраць падаўжэння ўлады Лукашэнкі (ён зняў абмежаванне на свае вылучэнні і цяпер можа вылучацца бясконца). Саслалі мяне ў вёску, дзе трэба было валіць лес і аказалася, што гэтая вёсачка на рацэ Палата, ля самых яе вытокаў, адна з першых каланізаваных палачанамі, звязаная з падзеямі Лівонскай вайны. Іван Жахлівы па дарозе на Полацк заснаваў там свой апорны пункт, сваю крэпасць, якая затым была спаленая войскам Стэфана Баторага. У тыя часы, дзесьці ў XVII стагоддзі вёска была культурным цэнтрам – там быў замак, памежная залога, бібліятэка. Адзін з сасланых за рэфармацыю пратэстантаў перакладаў там на беларускую мову культавую кнігу Буньяна „Падарожжа пілігрыма”. Зараз гэта звычайны сельсавет, бібліятэка там меншая нават чымсьці была ў XVII стагоддзі і там трымаюць „хімікаў”, якія адбываюць пакаранне. Апынуўся я там на два гады, з 2005 па 2007 год. Вёсачка закінутая, занядбаная, расейскі ўплыў відаць, людзі співаюцца, п’юць шклоачышчальнік... Зачытваю тэкст:

*– О! Біблія! Ці дасі пачытаць?*

*Сіцэнцы, якія ўпершыню заходзяць да мяне ў госьці, адразу цягнуцца да беларускай Бібліі на стале. Рэфлекс, неаднойчы заўважаў, амаль аднолькавы: працягваюць руку ўзяць, потым, бы апякліся, убіраюць пальцы й глядзяць з багавейным страхам: а ўвогуле можна?...*

*Сьвятое Пісьмо ў гэтых краёх – вялікая рэдкасьць. У сяго-таго захаваліся кішэнныя Новыя Запаветы па-расейску, выдадзеныя „Гедэонавымі братамі” ды распаўсюджаныя яшчэ ў пачатку 1990-х. Беларускай Бібліі, натуральна, няма ані ў школьнай бібліятэцы, ані ў сельсавецкай, ані ў людзей.*

*Ці мог падумаць Францішак Скарына, які 500 гадоў таму вучыўся ў найлепшых эўрапейскіх унівэрсытэтах з мараю даць свайму народу Кнігу Кнігаў, што ў век небывалага тэхнічнага прагрэсу, калі беларуская паліграфія будзе друкаваць тых кнігаў штогод па 50 мільёнаў асобнікаў, – знайсьці Біблію на роднай мове на Полаччыне будзе яшчэ цяжэй, чым тады!*

*Міхась* Андрасюк:

Менавіта, знайсці Біблію на роднай мове на Полаччыне яшчэ цяжэй, чым тады. А сёлета вясной Згуртаванне беларусаў свету Бацькаўшчына і Саюз беларускіх пісьменнікаў у межах культурніцкай кампаніі „Будзьма беларусамі" пачалі кампанію „Пяцісотгоднасць". Бо менавіта ў 1517 годзе Францішак Скарына надрукаваў сваю першую Біблію на беларускай мове. Пяцьсотгоднасць – можаш, Барыс, рассакрэціць, што хаваецца за гэтым словам?

*Барыс* Пятровіч:

Вітаю, сябры. Спачатку можа колькі словаў пра тое, чаму ўзнікла гэтая ідэя. Як вы ведаеце, у апошнія гады Беларусь адзначала адразу некалькі вельмі важных падзеяў. Можна ўзгадаць 2010 год – 600-годдзе Грунвальдскай бітвы, можна згадаць 2012 год – гэта 650-годдзе бітвы на Сіняй Вадзе, калі войскі Вялікага Княства Літоўскага вызвалілі Украіну і калі Беларусь заняла межы ад Балтыйскага да Чорнага мора і стала самай вялікай дзяржавай у Еўропе. Можна згадаць 2013-2014 гады, калі мы павінны былі шырока адзначаць 150-годдзе паўстання Кастуся Каліноўскага. Згадаем таксама 2014 год – 500-годдзе Аршанскай бітвы. Усе гэтыя падзеі прайшлі амаль незаўважна на Беларусі. Каб гэта не здарылася з такой важнай падзеяй як пяцісотгоддзе пачатку кнігадрукавання на Беларусі, мы вырашылі пачаць трошкі раней адзначаць гэтую дату з мэтай, каб гэтае свята ўвайшло ў кожны беларускі дом. У межах гэтай акцыі будуць сустрэчы пісьменнікаў, навукоўцаў, гісторыкаў, мастакоў у школах, у бібліятэках, у ВНУ. Таксама мы ўжо падрыхтавалі зварот да ўраду – з дапамогай Уладзіміра Арлова, – каб дзень друку на Беларусі адзначаўся 6 жніўня, а не так як цяпер 5 траўня, калі выдадзены быў першы нумар бальшавіцкай газеты „Праўда". Нідзе, дарэчы, не святкуюць гэты дзень, нават у Расеі, а ў Беларусі засталося гэтае савецкае свята. Я думаю, што павінны адгукнуцца на гэтую нашую прапанову. Апроч таго, будзе шмат акцый па розных гарадах. Я думаю, што будуць выдавацца кнігі, прысвечаныя Скарыну і Бібліі. Можна тут адзін момант адзначыць. Скарына выдаў пяцьсот гадоў таму Біблію, а на сённяшні момант няма адзінага перакладу Бібліі. Мы можам налічыць больш за дзесяць перакладаў, літаральна ў апошнія гады выйшлі пераклады Новага Запавета Антонія Бокуна і Анатоля Клышкі, але тым не менш, калі мы пагартаем тыя пераклады, то мы пабачым, што адзінай беларускай мовы пакуль што няма. І няма адзінага рашэння як перакладаць, напрыклад, імёны біблейскія. У адным варыянце ідзе Іаан, у другім Ян, у адным Мацей, у другім Матфей, Пётр, Пётар ці Пётра.

*Міхась* Андрасюк:

Пра гэта мы будзем яшчэ размаўляць крыху пазней, у чарговых панэлях.

*Барыс* Пятровіч:

Я хацеў толькі сказаць, што можа варта было б пачаць са складання біблейскага слоўніка, таму што гэта праца складаная і доўгая. Тое, што робіць зараз біблейская камісія, – я паглядзеў слоўнік, які яны прапануюць, – яны зышліся на тым, што варта перакладаць „Благавешчанне" як „Дабравесце", але пакідаюць „благачынны". А благачынны па-беларуску гучыць зусім па іншаму. Мне здаецца, што каб далей было лягчэй працаваць, не толькі з Бібліяй, але і з іншымі рэлігійнымі тэкстамі, трэба было б нейкім чынам вызначыцца. Можа стварыць камісію з тэолагаў, філолагаў, пісьменнікаў, якія б распрацавалі адзіную мову? Потым паводле гэтага можна было б рабіць іншыя пераклады і праца ішла б значна хутчэй. І нарэшце мы займелі б адзіную для Беларусі Біблію, прынамсі, можа быць, для праваслаўных, для каталікоў, але каб не было таго, што сёння адбываецца.

*Міхась* Андрасюк:

Гэта адзін з рэцэптаў, каб мы ў будучыні больш не ставілі пытання, ці Бог разумее па-беларуску. Пра іншыя рэцэпты мы яшчэ таксама сёння паразмаўляем. Я хацеў бы цяпер звярнуцца да Уладзіміра Арлова, як гістарычнага пісьменніка, у сэнсе, што беларуская і не толькі беларуская гісторыя вельмі важная ў ягонай творчасці. Вось менавіта, Біблія Скарыны выйшла амаль на паўстагоддзя раней за расейскую, раней за ўсіх суседзяў, за польскую, нават за нямецкую ці ангельскую. А мы ўсё ставім пытанне, ці Бог разумее па-беларуску. Гэта абазначае, што беларуская мова да Бога ў святынях гучыць вельмі рэдка. Чаму так склалася?

*Уладзімір* Арлоў:

Добры дзень. Думаю, што на другую частку пытання, пра сучасную сітуацыю ў нашых цэрквах мы будзем пазней усе разам адказваць. А калі ўзяць першы аспект вашага пытання, то тут можна ўдакладніць некаторыя моманты. Біблія Скарыны была чацвёртай у хрысціянскім свеце Бібліяй, надрукаванай на жывой мове народа. Раней за нас выдалі Бібліі на мовах народаў сваіх краін толькі немцы, чэхі ды італьянцы. Чацвёртая была беларуская. Тым самым Скарына ўвёў нашую дзяржаву, Вялікае Княства

Літоўскае, у сям'ю перадавых еўрапейскіх народаў. Калі казаць пра тое, на колькі мы апярэдзілі суседзяў, то поўны пераклад расейскай Бібліі, напрыклад, выйшаў толькі ў XIX стагоддзі. Я згадаў бы тут словы сэра Уайзмана, агента Біблійнага таварыства, ангельца, які ў 1922 годзе ў Вільні даведаўся пра гэты чын Францішка Скарыны і напісаў у сваёй справаздачы, што, аказваецца, беларусы мелі друкаванае Святое Пісьмо на сваёй мове за восем гадоў да іх, ангельцаў, уладароў паловы свету. І далей у яго там ідзе такі сказ, што можна сабе ўявіць, чаго б мог дасягнуць гэты народ, калі б не расейская акупацыя. Я б тут хацеў адзначыць, што Скарына, паводле майго ўяўлення, перакладаў біблійныя кнігі і выдаваў іх не надта спадзеючыся, што імі будуць карыстацца ў храмах розных канфесій. Імі, як мы ведаем, і не карысталіся. Скарына, як інтэлектуал, як гуманіст здзейсніў такі асветніцкі чын, пра што ён неаднаразова пісаў у сваіх прадмовах, што гэта „Богу ко чці" (да пашаны Бога) і „люду паспалітаму да добрага навучання". Ён нават прапаноўваў, якія навукі праз біблійныя кнігі можна вывучаць, ад гісторыі да геаметрыі. Пра асветніцкія намеры Скарыны сведчыць і той факт, што ён імкнуўся пашырыць кнігадрукаванне ў Маскавіі. У часы вялікага князя Васіля III ён здзейсніў безумоўна рызыкоўную экспедыцыю туды, прапанаваў свецкім і, відаць, царкоўным уладам наладзіць кнігадрукаванне ў Маскавіі. Кнігі ягоныя былі там спаленыя, ён, на шчасце, здолеў вярнуцца жывым на радзіму. Тое, што Скарына „Богу ко чці", Богу да пашаны выдаваў свае кнігі, але найперш, у маім уяўленні, здзяйсняў асветніцкую місію, пацвярджае і асаблівасць ягоных выданняў. Ён і Бога без німба змясціў на адной з гравюр, за што яго маглі спаліць у некаторых краінах, дзе была інквізіцыя. Ён тройчы змясціў свой партрэт, гэта здаецца першы выпадак у кнігавыдавецкай практыцы, калі казаць пра біблійныя выданні, што выдавец друкуе свой партрэт. Гэта таксама пярэчыла, безумоўна, царкоўным канонам. Вось такая гістарычная экскурсія. Я хачу сказаць, што дзякуючы супольнаму праекту Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і банка БелВЭБ да 500-годдзя беларускага кнігадруку будуць факсімільна перавыдадзеныя ўсе кнігі Скарыны, ужо прыкладна палова іх выйшла. Будзем мець магчымасць, не ходзячы ў аддзел рэдкай кнігі ці не ездзячы ў замежныя бібліятэкі, узяць у рукі гэтыя выданні і пераканацца ў тым, што я кажу, ці наадварот, знайсці нейкія пярэчанні. Ты кажаш, Міхась, чаму так сталася, што, мабыць, Скарына не да канца дасягнуў сваёй мэты. Я думаю, што гэта сталася – калі казаць пра радзіму нашых продкаў, Вялікае Княства

Літоўскае – вынікам знаходжання на еўрапейскім скрыжаванні, а можа, не столькі на скрыжаванні, як паміж Польшчай і Масковіяй. Царкоўныя і свецкія ўлады былі не зацікаўленыя, каб слова Божае ішло да вернікаў ці ад вернікаў па-беларуску.

*Міхась* Андрасюк:

Кажуць, што кожная еўрапейская дзяржава будавалася на нейкіх фундаментах, на своеасаблівых каштоўнасцях, закладзеных у тыя фундаменты. Такіх як гістарычная спадчына, культура, мова, рэлігія. Валянцін Акудовіч называе Беларусь такім своеасаблівым архіпелагам, дзе прастора, дзе перасякаюцца моўныя, культурніцкія ўплывы з усходу, захаду, а ў выніку атрымліваецца тое, што цяжка казаць пра нацыянальную еднасць беларусаў. Нацыянальнай еднасці можа спрыяць, між іншым, Касцёл ці Царква. Або можа не спрыяць. Павал, як ты гэта ацэньваеш?

*Павал* Севярынец:

На мой погляд беларусы – гэта хрысціянская нацыя, калі казаць пра асновы. Тысяча гадоў Беларусі, гэта ў першую чаргу тысяча гадоў хрысціянства, ад Полацка, ад Еўфрасінні Полацкай і далей скрозь стагоддзі. У першую чаргу, гэта хрысціянская культура, гэта вера ў розных формах. На мой погляд, трыадзінства хрысціянскіх канфесіяў – праваслаўя, каталіцтва і пратэстанцтва – ёсць формулай беларускага адзінства. Калі адна з гэтых канфесіяў спрабавала перамагаць усе іншыя і казаць пра сябе як пра манапольную, тады гэтае адзінства разбуралася. Калі ўдавалася суіснаваць, як у залатым веку – XVI стагоддзі – ці тады, калі не дасягнуў нас царкоўны раскол – у XII стагоддзі – тады быў росквіт Беларусі. Гэта адказ на пытанне, ці Бог разумее па-беларуску: беларусам дадзеная чацвёртая Біблія на мове народа і дадзеная ўнікальная хрысціянская сімволіка: бел-чырвона-белы сцяг Хрыста, гімн „Магутны Божа" і Пагоня з крыжам Еўфрасінні. Беларусам дадзеныя святыя ўсіх канфесіяў, гэта адна з рэдкіх краінаў у свеце, якая можа ганарыцца тым, што тут ёсць сусветна вядомыя святыя, датычныя і да праваслаўя, і да рыма-каталіцтва, і да грэка-каталіцтва, і да рэфармацыі. Таму яднанне, на мой погляд, будзе дасягацца ў Хрысце. Ісус Хрыстос, які гаворыць па-беларуску, гэта і ёсць беларуская нацыянальная ідэя, калі казаць у адным сказе. Але спроба любой канфесіі, любой краіны ці любой групы людзей перацягнуць на сябе коўдру, абарочваецца стратай еднасці, стратай ідэнтычнасці. У сарцавіне

хрысціянства адкрытае і няверуючым, адкрытае і юдэям, адкрытае і мусульманам, як гэта было ў тым самым XVI стагоддзі. На мой погляд, калі вярнуцца да ідэалу, тады знікне і само пытанне. Бог разумее па-беларуску.

*Міхась* Андрасюк:

Ты назваў тры канфесіі, а не выкінуць жа з нашай гісторыі і грэка-каталіцызм – унію.

*Уладзімір* Арлоў:

Гэта, безумоўна, таксама каталіцкая канфесія. Але я згодны з Міхасём, што праблема уніі і сумоўя з Богам ва ўніяцкіх храмах вартыя таго, каб спыніцца на гэтым. Спадар Кастусь Бандарук, тэкст якога нам быў прапанаваны як падстава для дыскусіі, піша пра Люблінскую унію 1569 года, пасля якой пачалі набіраць абароты працэсы паланізацыі не проста жыцця дзяржавы, але і царкоўнага жыцця. Але пра іншую унію – пра унію царкоўную – Бандарук не згадвае. Я расцэньваю гэта як інтэлектуальную правакацыю і хачу на яе адгукнуцца. Царкоўная унія 1596 года ў Берасці не павінна разглядацца як нейкая каталіцкая інтрыга, як спробы акаталічыць і ўрэшце паланізаваць нашых праваслаўных продкаў – ліцвінаў. Гэтаму пярэчаць самі факты. У часы мітрапаліта Язэпа Руцкага Уніяцкая царква ўжо істотна адрознівалася ад традыцыйных праваслаўя і рыма-каталіцызму і пачала набываць самабытны нацыянальны характар. Язэп Руцкі заснаваў ордэн базыліянаў. У пастанове шостай Генеральнай кангрэгацыі базіліянаў у 1636 годзе было запісана: „Мы настойваем, каб айцы і браты базыльяне прамаўлялі слова Божае не інакш, як на мове народа нашага". Жывая беларуская мова тады выкарыстоўвалася і ў казаннях, і ва ўніяцкіх школах і калегіумах, і ў царкоўных спевах, пра што таксама сведчаць гістарычныя крыніцы. Па-беларуску выходзіла ўніяцкая літаратура, творы самога Язэпа Руцкага, Пятра Скаргі, Іпата Пацея, Язафата Кунцэвіча. А ў той самы час (пачынаючы з XVI стагоддзі), дарэчы, у асяроддзі праваслаўнага духавенства ўсё шырэй і шырэй выкарыстоўвалася польская мова, пра што потым з абурэннем пісалі нашыя асветнікі ў прадмовах да сваіх кніг. Варта, можа быць, згадаць, што паводле падлікаў Анатоля Грыцкевіча, вядомага беларускага гісторыка, пры канцы XVIII стагоддзя ўніятамі былі тры чвэрці жыхароў Беларусі, праваслаўнымі – шэсць адсоткаў. Зусім, відаць, невыпадкова і Вацлаў Ластоўскі, і Канстанцін Каліноўскі, і Максім Багдановіч, і Фрыдрых

Энгельс, які грунтоўна вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай, лічылі ўніяцтва нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Можна, безумоўна, па рознаму ставіцца да уніі, але я думаю, што ніхто не будзе пярэчыць, што гэта вялікая частка беларускай гісторыі, беларускай культуры. Дзесяць пакаленняў нашых продкаў, мільёны беларусаў былі ўніятамі і менавіта ўніяцтва захавала тую нацыянальную глебу, на якой потым пачалося нацыянальнае Адраджэнне. Я хачу тым, хто сумняваецца ў гэтым, параіць прачытаць нядаўна выдадзеную кнігу нашага гісторыка-архівіста, намесніка дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Дзяніса Лісейчыкава „Святар у беларускім соцыуме. Прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 г.г.". Прасапаграфія – гэта калектыўная біяграфія. Ён даследуе біяграфіі васьмі з паловай тысяч святароў ды іншых прадстаўнікоў уніяцкага духавенства, а арэал даследавання, гэта Вялікае Княства Літоўскае і Падляшша. Дзяніс Лісейчыкаў робіць выснову, што беларуская культурная эліта бярэ свой пачатак у сем'ях уніяцкіх святароў, дае безліч яскравых прыкладаў. Тут згадваюцца і Ян Баршчэўскі, і Францішак Савіч, і Іван Хруцкі, але, магчыма, самае красамоўнае сведчанне, гэта тое, што не бацькамі, але – скажам так – дзядамі беларускага Адраджэння, беларускай нацыянальнай ідэі, сталі прафесары Віленскага ўніверсітэта, таксама дзеці ўніяцкіх святароў: Ігнат Даніловіч і Міхал Бабороўскі. Абодва, дарэчы, з гэтых мясцін паходзяць, Даніловіч з вёскі Грыневічы, а Бабороўскі з вёскі Вулька Бельскага павета. Лісейчыкаў піша, што каля дзевяноста адсоткаў прафесуры Віленскага ўніверсітэта тады якраз былі дзецьмі ўніяцкіх святароў альбо іншых прадстаўнікоў уніяцкага духавенства. Вось, што я магу сказаць пра унію. Гэта той рэлігійна-нацыянальны праект, які не адбыўся, на жаль, бо унію, цудоўна разумеючы ўсе яе небяспекі, ненавідзелі і бязлітасна змагаліся з ёю расейскія каланізатары. Змаганне закончылася ў 1839 годзе Полацкім царкоўным саборам, дарэчы, як давялі нашы гісторыкі, абсалютна беззаконным, які не меў ні кворуму, ні іншых законных магчымасцей прымаць пастанову пра скасаванне Уніяцкай царквы.

*Міхась* Андрасюк:

Я бачу, што твае меркаванні наконт уніі крайне разыходзяцца з меркаваннем экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, які пад час пропаведзі ў кафедральным Свята-Праабражэнскім саборы ў Магілёве сказаў наступнае: „Унія не з'яўляецца нацыянальнай рэлігіяй беларусаў.

Некаторыя кажуць, што нібыта каталікі, гэта палякі, італьянцы, а праваслаўныя – Масква, масквічы, а нацыянальная рэлігія для беларусаў, гэта унія.” Так заявіў мітрапаліт Павал, а далей ён кажа: „Унія не з’яўляецца чымсьці, што аб’ядноўвае, а наадварот, была страшнай спробай навязаць праваслаўным каталіцкую веру.” Жорсткае даволі выказванне і гэта было цалкам нядаўна.

*Уладзімір* Арлоў:

Гістарычна яно бездапаможнае. Я ўхілюся ад характарыстыкі мітрапаліта Паўла, як чалавека далёкага ад беларускай культуры, беларускай гісторыі, Бог яму суддзя ў ягоных выказваннях. Мы хацелі б, безумоўна, каб ён слова Божае нам нёс па-беларуску. Ён калі толькі прыехаў, заявіў, што пачаў вывучаць беларускую мову, ну відаць, ён дрэнны вучань, бо пакуль мы ніякага плёну не пабачылі. Я думаю, што, можа быць, на іншых панэлях прадстаўнікі праваслаўнага духавенства як-небудзь пракаментуюць словы свайго іерарха, калі яны будуць мець на тое дазвол ці смеласць. Безумоўна, цяпер унія не з’яўляецца нацыянальнай рэлігіяй Беларусі. Толькі тут я згодны з мітрапалітам Паўлам. Але толькі таму яна не з’яўляецца, што была бязлітасна знішчаная. Пра тое, як знішчалі унію, як пераганялі беларускіх уніятаў у праваслаўе расейскага разліву, як рабілі гэтых вернікаў падданымі расейскага Сінода пісалі самыя лепшыя розумы і таленты Расеі. Пісаў у сваім „Колоколе” ў Лондане Аляксандр Герцэн, пісаў з абурэннем Леў Талстой. Яны прыводзілі прыклады, як падлеткаў секлі ледзь не да смерці, каб яны прынялі праваслаўнае прычасце. Нашыя праваслаўныя іерархі не хочуць згадваць пра тое, што адбывалася, пра ўсе тыя прыклады дзікунства. Прысланы з Расеі полацкі епіскап Сава Ціхаміраў, родам з Уладзіміра, загадваў распілоўваць няправільныя распяцці, каб ногі ў Хрыста былі асобна. На ягоны загад у храмах узломвалі падлогі, каб перакласці іх ужо па-праваслаўнаму, ламалі арганы, якія ўжо з’явіліся на той час у шмат якіх уніяцкіх храмах. Сам афіцыйны расейскі „Церковный Вестник” пісаў з асуджэннем пра гэтыя паводзіны Савы ў Полацку і наваколлі. Там нават анекдоты пра яго друкаваліся.

*Міхась* Андрасюк:

Разумею, мітрапаліт Павал, гэта яшчэ не тое, чаго чакаем. А чаго чакаем? Павал Севярынец у газеце „Новы Час” за студзень 2014 года піша так: „Асабіста

я бачу толькі адну сілу, якая можа дапамагчы вярнуць маральнасць як норму жыцця ў беларускае грамадства і палітыку. Гэта Царква. Калі цэрквы, не ў выглядзе структур і іерархіі, а ў выглядзе вернікаў у Ісуса Хрыста, якія з'яўляцца носьбітамі маральнасці, лінуць у грамадскае жыццё, у палітыку, тады можа адбыцца маральная рэвалюцыя". Не іерархі, не структуры, а звычайныя людзі – ці не надта аптымістычнае або ідэалістычнае гэтае меркаванне? Якім чынам яны ўліюцца ў гэтае жыццё без стымулаў з боку дзяржавы, з боку царкоўнай структуры? Вось так прыйдуць аднікуль?

*Павал* Севярынец:

Насамрэч, не аднікуль, яны прыйдуць са свайго сэрца перапоўненага. Калі людзі змушаныя, або стымуляваныя дзяржавай пачынаюць вызначаць жыццё, гэта сканчваецца звычайна кепска. Маем прыклад расейскай рэвалюцыі, якая адбылася на фоне татальнага праваслаўя, уведзенага дзяржавай – і тыя ж самыя вернікі, якія ўчора стаялі ў царкве, скідалі званы і расстрэльвалі бацюшак. На мой погляд, як і ў Нямеччыне пасля II сусветнай вайны, як у Італіі пасля краху фашызму, у Беларусі пасля краху камуністычнай і посткамуністычнай ідэалогіі будзе пэўны вакуум духу, які запоўніць могуць альбо, як кажуць, бесы, альбо дух Божы. І цэрквы, на мой погляд, зараз спеюць, рыхтуюцца да таго, каб гэты вакуум запоўніць. Я кажу не пра афіцыйную структуру Царквы, не пра расейскае праваслаўе, якое зараз, будзем так казаць, напоўненае крытычнай масай нецярпімасці да іншых. Я кажу пра беларускае хрысціянства і беларускае праваслаўе ў тым ліку, якое вельмі істотна адрозніваецца ад расейскага праваслаўя сваёй адкрытасцю, дэмакратызмам і евангельскім святлом. Я кажу пра Каталіцкі касцёл у Беларусі, які зараз у асноўным беларускі і беларускамоўны. Кажу пра грамады пратэстантаў, якія за апошні час пачалі казаць, спяваць па-беларуску. І нават у Праваслаўнай царкве, пра якую багата гаварылася, у дзясятках прыходаў гучыць беларуска мова. Можа быць не ўсе ведаюць, але дзве літургічныя мовы зараз ёсць у Беларускай Праваслаўна царкве: царкоўнаславянская і беларуска. Не расейская, заўважце. Літургіяў па-расейску ў БПЦ няма. Ёсць або па-царкоўнаславянску – абсалютная большасць, – або крыху па-беларуску, таму пэўныя, закладзеныя яшчэ ў эпоху мітрапаліта Філарэта рамкі для беларусізацыі ёсць. Няма знутры праваслаўя народнага руху да беларускасці, на жаль. Мне здаецца, што раз'ядноўваць нас будуць іерархі, суседзі, раз'ядноўваць нас будуць розныя канцэпцыі, але

Хрыстос нас будзе аб'ядноўваць. Мы верым, як вернікі, не ў мітрапаліта Паўла і не ў таго ці іншага бацюшку ці ксяндза. Мы верым у Ісуса Хрыста, які ўкрыжаваны за нас і чый сцяг бел-чырвона-белы над намі. Мы верым у Таго, Хто аддаў Сябе на крыж, бо палюбіў нас і палюбіў Беларусь. На мой погляд, беларуская мова – адна з найбольш улюбёных на нябёсах. Чым іншым можна патлумачыць такія дары беларускаму народу, гэтую цудоўную гісторыю, гэтых святых, гэтыя сімвалы, Біблію? А беларусы сапраўды яшчэ не адказалі на гэты Божы заклік, так як адказалі ў свой час ангельцы альбо палякі. У нас гэта яшчэ наперадзе.

*Міхась* Андрасюк:

Як ты сказаў, беларуская мова самая ўлюбёная?

*Павал* Севярынец:

Адна з самых улюбёных на нябёсах – рызыкну так сцвярджаць.

*Міхась* Андрасюк:

Прафесар Іван Чарота, аўтар кнігі „Беларуская мова і Царква", кажа так: мова абмежаванага ўжытку, бо менавіта такі статус беларускай мовы, была і застанецца абмежаваная ва ўжытку царкоўным. Калі пра прычыны, прафесар Чарота бачыць гэта ў грамадстве, не ў дзяржаўных структурах, не ў царкоўных. Як прыклад падае рэальныя факты, калі на беларускую літургію прыходзіць мала людзей. Добры прыклад, паніхіда па Ларысе Геніюш, якая служыцца на працягу шасці гадоў у Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску. Напярэдадні яе шырока распаўсюджваюць інфармацыю, рэкламуюць, а ў выніку атрымліваецца, што прысутнічае вельмі абмежаваная колькасць людзей.

*Уладзімір* Арлоў:

Мне тут хочацца крыху пагуляць з пытаннем нашай дыскусіі. Я думаю, што Бог цудоўна разумее па-беларуску, як ён разумее ўсе мовы, але другі бок пытання, ці разумеюць Бога па-беларуску? Я думаю, што Бога па-беларуску беларусы, безумоўна, разумеюць. Пашыранае параўнанне беларусаў з ірландцамі – некарэктнае, бо беларусы практычна ўсе валодаюць беларускай мовай, хаця б пасіўна. І далей можна з гэтым пытаннем пагуляцца і паставіць яго такім чынам: а ці хочуць царкоўныя іерархі і святары, каб

Бог разумеў па-беларуску? І ўвогуле, ці хочуць іерархі па сутнасці Расейскай Праваслаўнай царквы, каб беларусы наогул разумелі па-беларуску? Вось я вам прывяду прыклад. Нядаўна быў на радзіме, у Полацку. У Спаса-Еўфрасінеўскім манастыры адчынілі новую царкоўную „лаўку", дзе прадаюцца культавыя рэчы, свечкі, ладан, прасвіркі... Але найперш лаўка нагадвае велізарную кнігарню, бо галоўны тавар, гэта кнігі. Там сотні найменняў кніг, ніводнай з іх няма па-беларуску. Ніводнай. Я разумею, хтосьці будзе казаць, гэта не сакральная мова, набажэнскія кнігі мы не будзем друкаваць па-беларуску, але ж, прабачце, паштовачкі нават няма ніводнай пра гэты манастыр, ніякай навукова-папулярнай літаратуры. Гэта сведчанне таго (што б там ні пісаў прафесар-русафіл Іван Чарота, што Расейская Праваслаўная царква з'яўляецца дагэтуль брутальнай русіфікатарскай сілай. У тэксце шаноўнага спадара Бандарука цытуюцца словы Пётры Рудкоўскага пра тое, што і сакральныя мовы павінны мець права ў царкве, але ў беларусаў павінна быць і права выбару. Чарота піша, што мала вернікаў збіраецца на беларускамоўныя набажэнствы ў мінскім Петрапаўлаўскім саборы. Па-першае, такія набажэнствы – гэта вельмі рэдкія выключэнні, ну няхай іх стала больш (тут ёсць сярод нас прадстаўнікі тых праваслаўных храмаў, дзе ідуць набажэнствы па-беларуску), але я не ведаю, які гэта адсотак, можа адзін ці два ад усіх прыходаў. Мо прадстаўнікі праваслаўнага духавенства адкажуць на гэтае пытанне. Пра права выбару ў Мінску. У Мінску можна, напрыклад, развітацца з дарагім табе чалавекам, ці дарагім для ўсёй нацыі, толькі ў адным праваслаўных храме, у тым самым Петрапаўлаўскім саборы. І Чароты я не бачыў на развітанні з Генадзем Бураўкіным, Нілам Гілевічам, прафесарам Уладзімірам Кананам, дзе былі сотні, можа быць і тысячы вернікаў. Такі храм толькі адзін у Мінску, калі казаць пра праваслаўных. З Рыгорам Барадуліным, які ўважаў сябе за ўніята, мы развіталіся ў касцёле святых Сымона і Алены. Ва ўніяцкім духоўным цэнтры святога Язэпа было развітанне з Сержуком Вітушкам. Уніяцкія святары адпявалі таксама гісторыка Міхася Чарняўскага. Але права выбару рэальна адсутнічае ў Беларусі. Ну добра, у Мінску мы можам знайсці гэтую магчымасць, але ў Полацку яе для праваслаўнага святара і верніка няма, ды і ў вялікай колькасці беларускіх гарадоў, я думаю, сітуацыя тая ж. Тут я згодны з Паўлам, што ў Касцёле сітуацыя цяпер прынцыпова іншая.

*Міхась* Андрасюк:

Мова абмежаванага ўжытку, бо існуе такі стэрэатып, што гэта мова простая, мова мужыцкая, мова, на якой высокае не заўсёды атрымліваецца сказаць, а паводле некаторых і зусім немагчыма сказаць. Хаця для беларускіх пісьменнікаў гэта тая мова, на якой яны ўсё ж такі выказваюць сябе. Тым не менш, можа голас беларускіх пісьменнікаў да грамадства проста не даходзіць?

*Барыс* Пятровіч:

Я думаю, усе пагодзяцца, што беларуская мова ніколькі не горшая за іншыя. На ёй таксама можна пісаць не толькі вершы, прозу, але і размаўляць з Богам. Падобныя сітуацыі перажывалі іншыя еўрапейскія народы. Я памятаю, калі працаваў у „ЛіМе", мы друкавалі аднаго французскага адраджэнца XV стагоддзя, які даказваў, што французская мова ніколькі не горшая за лацінскую і што на французскай мове можна таксама пісаць вершы, можна пісаць прозу. Падобная сітуацыя была і ў нямецкай дзяржаве. Таму я думаю, што ўсё-такі гэта часова, бо мова жыве, жыве і ў літаратуры і тая ж беларуская літаратура пачыналася як духоўная літаратура. Можна згадаць Кірылу Тураўскага, прадмовы Скарыны, можна згадаць XIX стагоддзе і тых, хто яе тады адраджаў. Пра гэтае казаў Уладзімір Арлоў. А новая літаратура пачалася, калі было рэабілітаванае слова „Бог". Вы ведаеце, што гэта адбылося фактычна на нашых вачах, напрыканцы так званай Гарбачоўскай перабудовы, на пачатку незалежнай Беларусі. Тады слова „Бог" стала пісацца з вялікай літары. Да гэтага часу слова „Бог" або, у лепшым выпадку, пісалася з малой літары, або ўвогуле замянялася нейкімі іншымі словамі: лёс, неба, сонца. Гэта рабілася савецкай цэнзурай нават у творах Купалы і Коласа, якія былі напісаныя да рэвалюцыі. І вось, калі з'явілася магчымасць шчыра казаць пра тое, што ты хочаш, як хочаш і што думаеш, то за дваццаць пяць гадоў незалежнай Беларусі выйшлі дзясяткі духоўных кніг. Найперш трэба згадаць кнігі жанчын – яны былі першапраходцамі ў духоўнай беларускай паэзіі – Данута Бічэль, Ірына Багдановіч, Галіна Тварановіч, Ірына Жарнасек, Людміла Рублеўская, Валянціна Аксак ды шмат, шмат, шмат каго яшчэ можна назваць. Калі ўзяць толькі адзін вобраз Еўфрасінні Полацкай у беларускай літаратуры, то можна згадаць, што напісана некалькі кніг пра яе, у тым ліку кнігі Уладзіміра Арлова, Кастуся Тарасава, Валянціны Коўтун, былі пастаўленыя п'есы Алеся Петрашкевіча, Ірыны Масляніцынай, былі напісаны паэмы Раісы Баравіковай, Вольгі Іпатавай. Я думаю, што на сёння

няма ніводнага беларускага літаратара, які тым ці іншым не дакрануўся б да святога, які не прысвяціў бы хоць нейкі свой твор ці не згадаў у сваім творы Бога, Ісуса. Таму гэтая літаратура вельмі шырокая і калі казаць увогуле пра літаратуру духоўную, то нельга не згадаць Рыгора Барадуліна, які ў апошнія гады жыцця выдаў некалькі кніг духоўных: „Ксты", „Аніма", які перакладаў псалмы на беларускую мову, які пераклаў нават малітву „Ойча наш" у паэтычнай форме. Я не ведаю, ці ёсць такія прыклады ў іншых літаратурах, але Рыгор Барадулін бліскуча валодаў словам. Вось калі я пачынаў казаць пра той слоўнік, можа камусьці гэта не спадабаецца, але літаратары таксама тую мову рэлігійную, духоўную, біблейскую распрацоўваюць у сваіх творах. Той жа Рыгор Барадулін увёў шмат наватвораў, калі перакладаў. Трэба было б звярнуць тэолагам на гэта таксама ўвагу і ўлічыць, і далучыць літаратараў да гэтай святой справы перакладу, нарэшце перакладу праз пяцьсот гадоў Бібліі на беларускую мову.

*Уладзімір* Арлоў:

Барыс закрануў тэму не толькі арыгінальнай творчасці з хрысціянскімі матывамі, але і тэму перакладаў. Я хацеў бы ўсім прысутным параіць прачытаць „Псалтыр" у перакладзе айца Аляксандра Надсана, які нядаўна пабачыў свет. Вось вам узоры высокай паэзіі на сучаснай беларускай мове. Пра ролю светлай памяці айца Аляксандра Надсана – не толькі ў рэлігійным жыцці, але ўвогуле ў беларускай культуры і пра яго пераклады набажэнскіх кніг, малітоўнікаў на беларускую мову – можна гаварыць вельмі доўга. Гэтаму прысвечаныя цэлыя манаграфіі, зборнікі. Я калі слухаў Барыса пра рэабілітацыю Бога, пра цэнзуру, то ўзгадаў, як савецкая цэнзура выкідала словы „Бог", „анёл", „святы" не толькі ў нашых класікаў. Вельмі красамоўны прыклад, як рэдагавалі Лермантава. У яго ў адным вядомым вершы ёсць радок: На небе полуночным ангел летел. У савецкія часы гэты радок друкавалі наступным чынам: На небе полуночным кто-то летел.
Дарагія сябры, зараз я маю даручэнне. Лічыце, што гэта не Арлоў з мікрафонам, а Зміцер Дашкевіч. Мы з ім перад ад'ездам сустракаліся, і ён папрасіў у час гэтай дыскусіі зачытаць вось што: „Епіскапу пяцідзясятніцкіх цэркваў Гомельшчыны Яўгену Сергіеню аднойчы явіўся Хрыстос, які размаўляў з ім па-беларуску і заклікаў яго пісаць вершы па-беларуску. Той епіскап доўга не мог зразумець, як гэта так, але потым пачаў сам пісаць па-беларуску, стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднанне пяцідзясятнікаў, якія пішуць

выключна па-беларуску. І гэта ўвогуле моцнае ўзрушэнне, якога аднак ніхто не ведае і ніхто пра яго не піша, але мы павінны гаварыць і пісаць, каб натхніць тысячы іншых, бо яны думаюць, што мова, гэта праблема толькі нашай інтэлігенцыі, апазіцыі і гэтак далей." Барыс, як лёс склаўся гэтага пастыра як паэта?

*Барыс* ПЯТРОВІЧ:

Ён выдаў дзве кнігі па-беларуску, падаў заяву ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, мы яе разгледзелі, гэта сапраўды цікавая духоўная паэзія, і ён быў аднагалосна прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ён стаў прафесійным літаратарам. Я хацеў бы дадаць трошкі, можа быць, пра іншае. На Беларусі ёсць выдавецтвы, якія выдаюць духоўную літаратуру. Я не буду гаварыць пра іншыя канфесіі, ты казаў пра праваслаўе, дык калі ў Мінску зайсці ў кнігарню „Праваслаўная Кніга", то там адбываецца тое самае. Фактычна, на беларускай мове кнігу не знойдзеш. Але апошнім часам вельмі плённа працуюць каталікі, яны выдаюць часопіс „Наша Вера", у выдавецтве „Pro Christo" выходзяць кнігі духоўнага зместу, яны выдавалі кнігі і Ніла Гілевіча, і Янкі Брыля, і Міхася Скоблы. Я хацеў бы выказаць проста ўдзячнасць каталіцкай канфесіі, за тое што яна вельмі шмат робіць апошнім часам дзеля беларусізацыі і Касцёла, і дзеля таго, каб беларускае слова шырэй ішло ў свет.

*Павал* СЕВЯРЫНЕЦ:

Я хацеў бы сказаць, што каталіцкімі выдавецтвамі выдаюцца кнігі праваслаўнага святара, айца Аляксандра Меня. Зрэшты я, як прыхаджанін Свята-Петрапаўлаўскага сабора скажу, што пры Петрапаўлаўскім саборы не шмат, але беларускамоўная праваслаўная літаратура ёсць. Калі каму цікава, дык гэта побач з царквой, жоўтай царквой на Нямізе, там такая кніжная лаўка і ёсць асобны стэнд, на жаль, толькі адзін. Большасць кніг там, канешне, па-расейску. Тым не менш, магчымасці працаваць, хоць пэўныя, хоць мізэрныя, але ўсё-такі ёсць. Будзем спадзявацца, што будуць пашырацца.

*Міхась* АНДРАСЮК:

У адным з інтэрв'ю, калі не памылюся, „Нашай Ніве", Ірына Дубянецкая, доктар сакральнай тэалогіі, якая, дарэчы, ёсць тут з намі і таксама яе паслухаем, кажа наступнае: „Біблія, гэта не проста кніга. Для заходняй цывілізацыі

гэта метатэкст і асаблівы пункт зборкі рэлігійных, культурных, інтэлектуальных ды сацыяльных традыцый.” Вось так, у наступным годзе адзначым пяцьсот гадоў беларускай Бібліі. Я сабе ўяўляю, што беларуская дзяржава надрукуе стотысячным тыражом рэпрынт Скарынаўскай Бібліі, каб кожны асобнік трапіў усюды, дзе гэта толькі магчыма, ва ўсе бібліятэкі, школьныя бібліятэкі, ва ўстановы, не як рэлігійны атрыбут, а як атрыбут нашага нацыянальнага і дзяржаўнага гонару. Можна спадзявацца, што дзяржава скажа, што гэта аграмадны кошт, а грошай няма. Канешне, а ў каго ёсць лішнія? У нікога іх няма. Ці мне мроіцца немагчымае, бо я Беларусь бачу з перспектывы, з польскага боку мяжы? Ці гэта немагчыма, каб беларуская дзяржава ў нейкім сур'ёзным маштабе ўключылася ў святкаванне пяцісотгоддзя беларускай друкаванай кнігі?

*Барыс* Пятровіч:

Аб'яўляючы нашую акцыю „Пяцісотгоднасць”, мы якраз і спадзяваліся, што дзяржава, якая апошнім часам стала перахопліваць розныя грамадзянскія ініцыятывы (вы ведаеце, што распаўсюд вышыванак пачаўся як грамадзянская ініцыятыва, але зараз дзяржава перахапіла гэта і нашую алімпійскую зборную апранула ў вышыванкі), можа быць перахопіць і ініцыятыву „Пяцісотгоднасць” і належным чынам адсвяткуе пяцісотгоддзе беларускага друкаванага слова. Калі дзяржава не далучыцца, то ў любым выпадку гэта будзе грамадзянская ініцыятыва і хай бы было як мага больш такіх грамадзянскіх ініцыятыў. Можа быць варта распачаць збор сродкаў на тым жа сайце „Талака” на выданне кніг Скарыны, тады можа таксама дзяржава зверне на гэта ўвагу і перахопіць. Калі б так было, то гэта было б ідэальна, але тым не менш, мы жывем у рэальным свеце і сёння вельмі мала спадзяемся на тое, што дзяржава нешта зробіць дзеля беларускай культуры, дзеля беларускай мовы.

*Міхась* Андрасюк:

Можа сапраўды надрукаваць сто тысяч Скарынаўскай Бібліі, гэта мроя, гэта амаль немагчыма, але можна зрабіць тое, што магчыма, што не каштуе вялікія грошы. Прыкладна, ужо пасля Новага года на кожным канале Беларускага тэлебачання будзе з'яўляцца інфармацыя, што мы, беларусы, пачалі друкаваць кнігі раней за ўсіх сваіх суседзяў, пяцьсот гадоў таму. Нам ёсць чым ганарыцца. Гэта ж не вымагае вялікіх фінансавых накладаў.

*Павал* Севярынец:

Пытанне рытарычнае. Мы ўсе ведаем дух сённяшняй дзяржавы. Яна гатовая пагуляцца з гэтай тэмай у нейкіх спекулятыўных мэтах. Насамрэч я думаю, што калі зменіцца ў Беларусі ўлада, тады радыкальна, рэзка зменіцца і стаўленне да беларускай спадчыны, да беларускай культуры, да Бібліі таксама. Сённяшняя ўлада, гэта праваслаўны атэізм ва ўсіх сэнсах. І таму там як з савецкіх часоў пайшло непрыняцце Царквы, так і непрыняцце беларускасці. Калі яны могуць часова нейкія кампрамісы ладзіць і з вышыванкай, і з Царквой, глыбока разумець і ўзняць усю нацыю на гэтым грунце, на жаль, гэтыя людзі не здольныя. Я веру ў тое, што гэта будзе, рана ці позна, да пяцісотгоддзя або да шасцісотгоддзя. Яшчэ адна найважнейшая біблейская тэма – вось мы зараз у будынку былой сінагогі сядзім – незалежная дзяржава Ізраіль была беларускімі габрэямі адноўленая (тры прэзідэнты і сем прэм'ер-міністраў родам з Беларусі). З васямнаццаці нобелеўскіх лаўрэатаў, якія маюць свае карані ў Беларусі, больш дзесяці – гэта беларускія габрэі. Гэта вельмі важная біблейская тэма, паколькі народ Ізраіля ў Бібліі скрозь і прароцтваў пра яго асабліва ў апошні час шмат. Мову іўрыт таксама адрадзіў беларускі габрэй. Тут цэнтр сусветнага ўзроўню, і калі мы гэта разглядаем у кантэксце Бібліі, то зноў жа ў трох-чатырох выпадках з дзесяці мы трапім у Беларусь, у сусветным маштабе. Гэта невыпадкова, паверце, такія рэчы Гасподзь выпадковымі не робіць. Беларусь, гэта адно з найбольш улюбёных месцаў, я думаю, для Госпада. На Беларусі Бог жыве, як казаў Караткевіч.

*Уладзімір* Арлоў:

Як казаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Іванавіч Антановіч, Караткевіч дапісаўся да таго, што на Беларусі Бог жыве. Сапраўды, Бэн-Егуда, які нарадзіўся ў Лужках на Глыбоччыне, адрадзіў іўрыт як жывую мову. Мне ўяўляецца, што цяперашняя беларуская ўлада пачынае разумець, што мова і культура бароняць межы дзяржавы лепш за любую армію. Іншая рэч, што нейкіх рэзкіх рухаў цяперашняя ўлада, пад пагрозай агрэсіўнага „русского мира”, рабіць не будзе. Яна проста баіцца і ў нейкім сэнсе, можа, і мае рацыю. Калі ўявіць сабе пачатак такой кардынальнай беларусізацыі, то наступствы можна прадбачыць не самыя лепшыя для нашай дзяржаўнасці. Але мне бачыцца, што гэтая тэндэнцыя вяртання існуе. Яна можа яшчэ не вельмі выразная, можа быць непаслядоўная, можа быць кволая,

калі казаць пра ўдзел дзяржавы ў ёй. Якраз пяцісотгоддзе беларускай друкаванай кнігі можа даць нашай уладзе шанец, бо гэтае святкаванне цяжка расцаніць як нейкі палітычны акт (хаця ў нас практычна ўсё, як і ў Расеі, ператвараецца ў палітыку). Тым не менш, гэтая дата дае дзяржаве, дае ўладзе шанец усё-ткі засведчыць сваю прыхільнасць да згаданай тэндэнцыі. Той самай зменай даты дня друку, тым самым прысваеннем імя Скарыны аэрапорту, пра што ўжо нават міністр культуры загаварыў. Відаць, ён атрымаў санкцыю зверху, Ну пачакаем, ужо нядоўга засталося. Але мне ўяўляецца, што галоўныя, найбольш цікавыя імпрэзы гэтага святкавання, будуць ладжаныя не дзяржавай, а грамадскасцю.

*Міхась* Андрасюк:

Мы беларусы, асабліва беларусы ў Польшчы часта зайздросцім палякам, што ў іх Каталіцкі касцёл, гэта такое моцнае апірышча для нацыянальнай ідэі. Не заўсёды памятаем пра тое, што пачаткі польскай мовы ў Каталіцкім касцёле былі таксама вельмі складанымі, што доўгія гады дамінавала лаціна. Маю такі прыклад, калі Станіслаў Гозіюш, галава Каталіцкага касцёла ў Польшчы, у лісце да Холмскага біскупа Якуба Уханскага, гэта 1555 год, папракае Уханскага, што напісаў да яго ліст па-польску і павучае, што каталіцкі біскуп павінен пісаць да католікаў на каталіцкай мове, гэта значыць на лаціне. Гэта амаль паўтысячы гадоў таму, але я бачу пэўныя аналогіі, калі казаць пра нашую Праваслаўную царкву, што не нацыянальная мова, а нейкая праваслаўна ў нас ззаду ў галаве сядзіць.

*Павал* Севярынец:

Праўда вашая. Тут усё адпаведна часу і моманту. Вось зараз, пішучы кнігу да стагоддзя Беларускай хрысціянскай дэмакратыі я даследую постаці ксяндзоў, якія ўводзілі беларускую мову ў Касцёл. Іх было трыццаць, яны сабраліся ў Катэдральным саборы на сённяшняе плошчы Свабоды ў Мінску і пастанавілі: казані павінны быць па-беларуску (набажэнства да II Ватыканскага сабору ўсюды было на лацінскай мове). Запрашэнні на гэты з’езд беларускага каталіцкага духавенства былі яшчэ па-польску. Польская мова дамінавала тады. Гэтыя трыццаць ксяндзоў былі рэпрэсаваныя за сваю актыўную духоўную і палітычную дзейнасць. Яны практычна ўсе былі вынішчаны. У 1960-70-ыя гады бадай толькі ксёндз Чарняўскі ў Вішневе па-беларуску гаварыў. А зараз паглядзіце на Касцёл – 450 парафіяў і большасць

з іх, пад трыста, беларускамоўныя. Вось гэта плён – трыццаць чалавек ахвяравалі сябе. Беларуская Праваслаўная царква ў тым жа самым 1917 годзе праводзіла свой з'езд у Маскве. Там было больш за сямсот святароў. І што вы думаеце? Большасць праваслаўных святароў таксама прыняла рашэнне арганізаваць навучанне, у тым ліку нядзельныя школкі, па-беларуску. Два розныя вынікі. Там трыццаць святароў змаглі, ахвяраваўшы сабою, прынесці беларускую мову. Тут і Расея, і камунізм і тое, што ўсходняя Беларусь як апірышча праваслаўя была выпаленая. Але гэта азначае, што такая маса, такі маральны ўздым марна не прападзе, ён выявіцца. І мы з вамі будзем здзіўленыя, як з беларускага праваслаўя раптам пачне крынічыць беларускасцю. Перакананы, што гэта будзе. Ведаю зараз вельмі шмат прыкладаў. У ваколіцах Мінску каля сарака святароў, сабраўшыся разам, папрасілі вядомых філолагаў скласці ліст пра тое, што нельга казаць словы „благаславіць" і „благачынны". Людзі ў вёсках разумеюць „блага" як „кепска". Сорак святароў сённяшняй Беларускай Праваслаўнай царквы. Мы складалі гэты ліст, мы хадзілі да філолагаў, да Саўкі, да Вячоркі, каб адправіць яго да царкоўнай іерархіі ў Маскву. Таму ёсць такі патэнцыял у беларускім народзе і нават у беларускім праваслаўі такі патэнцыял ёсць. Дастаткова яшчэ крыху часу і, думаю, мы ўбачым гэты плён.

*Уладзімір* Арлоў:

А як вы мяркуеце, аўтакефальнасць Беларускай Праваслаўнай царквы вырашыла б гэтую праблему?

*Павал* Севярынец:

Яна паскорыла б яе вырашэнне. Я вам зараз скажу, можа гэта сакрэт для шырокай грамады, але ў вузкіх колах гэта вядома, што ў Беларускай Праваслаўнай царкве такія размовы вядуцца. Ёсць шэраг епіскапаў, якія прыхільныя да аўтакефаліі, некаторых з іх падтрымлівае сённяшняя беларуская ўлада, таму што хацела б прымаць удзел у прызначэнні мітрапаліта тут у Беларусі, а не атрымліваць з Масквы прысланага. І тут тактычны хаўрус паміж епіскапамі-беларусамі, якія гістарычнае беларускае праваслаўе прэзентуюць і тымі, хто з кан'юнктурных меркаванняў да іх гатовы прымкнуць. Ёсць вялізная частка епіскпаў рускага свету, для якіх Масква – трэці Рым і ўсё. Але гэтае дужанне ідзе і там яшчэ не прадвызначана, хто пераможа. Мне здаецца, што шлях да самастойнасці Беларускай Праваслаўнай

царквы, да аўтаноміі, пасля да аўтакефаліі, будзе адназначна спрыяць беларусізацыі Царквы.

*Уладзімір* Арлоў:

Быў цікавы такі сюжэт, калі сам мітрапаліт Павал выказаўся пра тое, што Беларуская Праваслаўная царква павінна мець больш самастойнасці. У мяне з'явілася думка, што гэта было зроблена, каб выявіць тых самых прыхільнікаў самастойнасці, таму што літаральна праз некалькі дзён мы пачулі зусім іншае. Што ніякай самастойнасці, тым больш аўтакефаліі, не трэба і чакаць.

*Павал* Севярынец:

Я думаю, гэта было рэха якраз уплываў дзяржавы. Дзяржава інспіравала абмеркаванне гэтага пытання, бо пасля Украіны спалохалася Масква і спалохаўся Лукашэнка. Масква спалохалася, што беларусы пойдуць, у тым ліку і праз Царкву, да самастойнасці. А Лукашэнка спалохаўся, што яму зараз будуць прысылаць і мітрапалітаў, і генерал-губернатараў, і самога, як кажуць, прыбяруць досыць хутка. Таму спачатку была ініцыяваная гэтая размова, дастаткова шмат святароў выказала такое меркаванне. Паверце, там не адзінкі і не дзясяткі, а сотні людзей на ўзроўні святарства, хто хоча большай самастойнасці альбо хто спрые беларускасці. Думаю, што гэтае дужанне прывядзе да таго, што ў момант слабізны Масквы беларускае праваслаўе зможа вярнуць свой светлы, адкрыты да іншых евангельскі характар і беларускасць, безумоўна.

*Міхась* Андрасюк:

Ці разумець гэта так, што парадаксальна падзеі ва Украіне паспрыялі, сталіся штуршком для большай ініцыятыўнасці з боку дзяржавы ў напрамку беларусізацыі?

*Павал* Севярынец:

Гэта ж відавочна. Пасля 2014 года ў нас і вышыванкі, і фанацкі рух, і шматтысячныя канцэрты, за межамі Беларусі пакуль што, па-беларуску і нават пад бел-чырвона-белымі сцягамі, ну і зараз нейкія такія крокі, зноў жа кан'юнктурныя, зноў жа лёгкія, магчыма, мы ўбачым прызначэнне беларускамоўных дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Выбараў няма, але дзяржава санкцыянавала, каб яны трапілі ў так званы парламент. Гэта наступствы Украіны. Але, на жаль, слушна казаў спадар Уладзімір, за дваццаць гадоў

Лукашэнка і ягоны рэжым так улезлі ў пашчу Масквы, што вылезці цяпер надзвычай складана.

*Уладзімір* Арлоў:

Мне б таксама хацелася ўбачыць беларускамоўных дэпутатаў (якія там, у гэтай палацы, зрэшты, нічога не вырашаць), але яшчэ больш – беларускамоўных праваслаўных іерархаў і святароў, якія далі б вернікам прыклад. Такія іерархі, між іншым, ёсць. Яны карыстаюцца мовай у прыватных размовах, у тым ліку і з вашым суразмоўнікам, беручы ў яго аўтографы. Яны выдатна валодаюць беларускай мовай, але толькі ў непублічным полі. Як спадар Бандарук пісаў у сваім тэксце, калі царскі ўрад забараніў друкаваць кнігі на беларускай мове, беларуская мова была відавочнай прыкметай нелаяльнасці. Так, на жаль, застаецца і цяпер.

*Міхась* Андрасюк:

Ёсць такі стэрэатып, што беларус размаўляе на мове начальства. Я зноў, як п'яны да плота, буду вяртацца да таго, ці без актыўнага, выразнага стымула з боку дзяржавы, а ў гэтым выпадку – з боку каталіцкай і праваслаўнай іерархіі – што-колечы можна змяніць? Я ў гэтым пытанні песіміст.

*Барыс* Пятровіч:

Караткевіч, якога мы тут узгадвалі, казаў, што на Беларусі Бог жыве, быў усё-такі аптымістам, як бы там не было. Памятаеце, у „Зямлі пад белымі крыламі" ён згадаў такую прыпавесць, што калі Бог дзяліў зямлю, то беларусы спазніліся, прыйшлі апошнімі. І Бог кажа: я вам дам зямлю, якую бярог для сябе – самую лепшую зямлю ў свеце, але за гэта я вас пакараю самым горшым начальствам... Так што ёсць доля праўды ў тваіх словах, Міхась, але тым не менш, іншы наш пісьменнік Янка Брыль казаў, што калі б прыйшлі такія часы, што беларуса прымусілі б быць беларусам і размаўляць па-беларуску, гэта быў бы самы лепшы беларус. І таму я пагаджаюся з іншымі суразмоўцамі, што добра было б, каб вышэйшыя іерархі пачалі размаўляць па-беларуску. Але калі пачне казаць па-беларуску прэзідэнт, то тады, вядома, і ўсё чынавенства пяройдзе, і тыя беларусы, якія сапраўды пасіўна ведаюць беларускую мову – у нас такіх напэўна няма, хто не разумее па-беларуску – за вельмі кароткі тэрмін могуць стаць беларусамі не толькі па пашпарце, але і па мове.

*Уладзімір* Арлоў:

Памятаеш, Барыс, адну селектарную нараду, калі берасцейскі губернатар сказаў: пашліце нам дождж, Аляксандр Рыгоравіч. Той кажа: а я не Бог. А губернатар яму: Вы вышэй за Бога.

*Міхась* Андрасюк:

Яшчэ ў нас крыху часу ёсць, думаю, што можна было б паслухаць тых, хто нас слухае. Мабыць узніклі нейкія пытанні, нейкія дылемы або камусьці хочацца аспрэчыць тое, што тут было сказана.

*Уладзімір* Паўлючук:

Многа можна было б сказаць адносна таго, што тут сябры гаварылі аб мове, аб беларускасці. Я б пачаў ад жыцця і творчасці, і ролі ў гісторыі святой памяці патрона Фонда Villa Sokrates. Сакрат Яновіч – стваральнік беларускай літаратуры і беларускасці як такой – мой добры і блізкі прыяцель, расказаў мне калісьці szczegółowo, як ён стаў беларусам. То было дурное праісшэствіе, ён быў у школе энергетыкі і электрыфікацыі і аднойчы адзін з сяброў падыйшоў да яго і плюнуў: ты праклятьі беларусе! Сакрат расказваў, што потым некалькі дзён хадзіў і думаў, то я ўжо такі пракінуты, што на мяне плююць? І ён пачаў цікавіцца, што то такое беларусы і падумаў о-го, я беларус! Значыць ёсць аб чым гаварыць. Цяпер я пакажу, што такое беларус! Паказаў сваё. Напісаў многа публікацый, стварыў ідэалогію беларускасці і стаў праблемай Беларусі.

*Міхась* Андрасюк:

Спадар прафесар, мне няёмка, але адначасова, я абавязаны, як вядучы. У нас праз паўгадзіны будзе панэль з вашым удзелам і тады будзе шмат часу...

*Уладзімір* Паўлючук:

Я толькі хацеў сказаць аб вытоках беларускай мовы, коратка. Існавала дзяржава Вялікае Княства Літоўскае, якая заняла вялікія полаці зямлі рускай. Там гаварылі руска-літоўскім дыялектам, тварылі беларускую мову і цэлая канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага была на рускай мове.

*Міхась* Андрасюк:

Я ўстану, бо мне няёмка сядзець, калі прафесар стаіць.

*Уладзімір* Паўлючук:

Я толькі хацеў сказаць, з якім упорам Сакрат Яновіч ствараў беларускую мову. Бяда толькі, што мовай беларускай карысталіся ваколіцы Сувалкаў, Альштына (прафесар пэўна памыліўся, меў на ўвазе Сакольшчыну – М.В.) ён пакарыстацца іх помаччу не мог, бо яны былі палякі. Тады пайшоў ён да беларусаў, якія беларускай мовы не зналі, бо гаварылі па-руску, па-свойму, так як у маіх Рыбалах.

*Міхась* Андрасюк:

Спадар прафесар, пра тое паразмаўляем у чарговым панэлі. Палеміка нас цешыць, палеміка нас будуе, дае новыя думкі і раскрывае новыя перспектывы, перасоўвае наперад далягляд. Цяпер у нас перапынак. У дванаццаць зноў спатыкаемся тут.





# XVII ТРЫЯЛОГ
# Сімпазіён
# „Ці Бог не разумее па-беларуску?"
# 27 жніўня 2016 г.
# Каўказская сінагога ў Крынках

## частка II
## КУЛЬТУРА

*Міхась* Андрасюк:

Будзем пачынаць другую частку нашага сёлетняга Трыялогу. Пад шыльдай культуры. А запрошаныя госці, гэта Ірына Дубянецкая – доктар філасофіі і сакральнай тэалогіі (калі не памыляюся, адзіная ў Беларусі доктар сакральнай тэалогіі), Уладзімір Паўлючук – рэлігіязнаўца, прафесар гуманітарных навук і трэці наш госць Аляксей Фралоў – славуты фагатыст, культуролаг, краязнаўца. Ці магу таксама сказаць – актывіст кальвінісцкага руху? Так? Добра.

Першае маё пытанне да спадарыні Ірыны Дубянецкай. Ці ёсць у нас пераклад Бібліі на сучасную беларускую мову? Нібыта ён ёсць, бо шмат хто перакладаў, напрыклад Янка Станкевіч, Васіль Сёмуха, ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, тым не менш мы ўсё кажам, што няма, бо няма агульнапрынятага, узгодненага.

*Ірына* Дубянецкая:

Дзякуй за пытанне. Я перш-наперш хачу адзначыць, што ўсё ж такі адбыўся нейкі тэктанічны зрух у беларускай інтэлектуальнай і духоўнай прасторы,

таму што гадоў дзесяць таму, калі даводзілася гаварыць пра патрэбу перакладу, усе глядзелі са здзіўленнем – навошта. А цяпер мы ехалі з Мінска да Крынак і ўсю дарогу гаварылі на гэтую тэму і бачыце, тут гутаркі на гэтую тэму на самым розным узроўні, бо сапраўды штосьці скранулася. А скранулася таму, відаць, што разуменне значнасці Бібліі ўваходзіць у нашую свядомасць. Літаральна два словы, наколькі гэта значна для культуры. Гэта вельмі мала хто сабе ўсведамляе, якую культурную ролю ў нашай цывілізацыі адыгралі пераклады Бібліі. Ад самых ранніх хрысціянскіх стагоддзяў Стары Запавет чытаўся пераважна па-грэцку, а не ў арыгінале, а потым узнікла патрэба зрабіць пераклад на лаціну для людзей, якія не разумелі грэцкай мовы. Рабіліся пераклады на копцкую мову для егіпцянаў, на сірыйскую мову для велізарнай прасторы. Рабіліся пераклады Бібліі на тыя мовы, у якіх на той час не было пісьменства. Нацыянальнае пісьменства ўвогуле часам вынаходзілася, прыдумляліся альфабэты спецыяльна дзеля перакладу Бібліі. Гэтак адбылося ў IV стагоддзі з гоцкай мовай, таму гэта самая ранняя пісьмовая германская мова. Готы зніклі, мова знікла, але яна жыве ў манускрыптах, якія захаваліся з V стагоддзя. Армяне дагэтуль карыстаюцца тым самым альфабэтам, які быў прыдуманы дзеля перакладу Бібліі ў IV стагоддзі. Тое самае з грузінамі. Такім чынам, пераклады Бібліі скранулі наперад саму культурную сітуацыю, мовы з непісьменных ставалі пісьменнымі. На іх сталі пісаць нетолькі біблейскія рэчы, а ўсё, што хацелі пісаць. А другі зрух такога плану адбыўся ў XVI-XVII стагоддзях, у часы Рэфармацыі, калі агульных літаратурных моў проста не было, бо ў Заходняй Еўропе адзінаю мовай інтэлектуальнага пісьменства была лаціна. Справаводства магло весціся на мясцовых мовах, але літаратура не. Выключэнне Італія, дзе былі Дантэ і Петрарка, якія пісалі па-італьянску. Не было традыцыі, не было магчымасці. І калі на пачатку XVI стагоддзя пачаліся змены, наперадзе гэтых перамен стаялі і беларусы. Скарына – ледзь не першы герой аўтарскага перакладу, за ім быў ангельскі пераклад Уільяма Тындэйла 1525-1534 гадоў. Заўважце, Скарына ўжо ў 1525 годзе скончыў перакладаць, а Тындэйл пачаў. За Тындэйлам быў Лютэр. Нямецкі пераклад Лютэра выйшаў у 1534 годзе, хаця Лютэр, безумоўна, пачаў працу значна раней. Што тычыцца беларускай мовы, яна таксама была адной з першых, на якія быў зроблены пераклад Бібліі ў Рэфармацыю. Скарына браў за ўзор чэшскае выданне, зробленае ў Венецыі ў 1506 годзе, і гэта быў далёка не першы друкаваны чэшскі пераклад, і нямецкіх далютэравых выданняў Бібліі было многа. У нас шмат гавораць пра пяцісотгоддзе

беларускага кнігадрукавання, але нашмат большая падзея з агульнаеўрапейскае перспектывы – пяцісотгоддзе перакладу Бібліі на беларускую мову, гэта больш ашаламляльная падзея. Бо кнігадрукаванне на той час ужо было развітае, і мы ішлі тут так у лепшым выпадку нармальна. А з перакладам Бібліі мы ішлі сапраўды паперадзе ўсіх. Вяртаючыся да вашага пытання – першыя пачалі і апошнімі апынуліся на пачатак XXI стагоддзя. Беларуская мова, гэта відаць адзіная тытульная дзяржаўная мова, на якую дагэтуль няма поўнага перакладу Бібліі з арыгінальных моваў на жывую літаратурную мову. Адзіная. Насамрэч у нас ёсць тры пераклады поўнай Бібліі. Самае ранняе – гэта нью-ёркскае выданне 1973 года ў перакладзе доктара Янкі Станкевіча. Янка Станкевіч не ведаў гебрайскай мовы, з ім працаваў Майсей Гітлін, які, праўда, не ведаў беларускай мовы. Пераклад Станкевіча вельмі добры з тэкстуальнага пункту гледжання, з ім добра працаваць біблісту, але небіблістам цяжка, таму што пераклад выкананы на мове, якую Янка Станкевіч спрабаваў прышчапіць беларусам. Гэта не тая мова, якая была ўжывальная тады, і яна далёкая ад тае мовы, якая ўжываецца цяпер. Таму першая поўная Біблія не магла стаць агульнапрынятым прадуктам. Другі пераклад – Васіля Сёмухі. Поўнае выданне выйшла ў 2002 годзе. Васіль Сёмуха ўзяўся за гэтую працу ў сярэдзіне 90-ых гадоў, бо пачуў пакліканне. Ён не ведаў ні гебрайскай, ні грэцкай моваў, і ў яго крыніцамі былі розныя іншыя пераклады, асноўны – расейскі сінадальны. Карыстаўся таксама лютэравым перакладам. Такім чынам, усе памылкі сінадальнага перакладу перабраліся ў гэты пераклад і дадаліся іншыя. Там, безумоўна, многа моўных знаходак, цікавы літаратурны тэкст, але назваць яго паўнацэнным перакладам Бібліі пакуль што цяжка. І трэці поўны пераклад – гэта выданне Беларускага біблійнага таварыства 2012 года. Яно рабілася на аснове перакладу айца Уладзіслава Чарняўскага, але ад Чарняўскага там засталося вельмі мала, – ён быў вычышчаны, выверны па Новавульгаце – сучасным перакладам на лаціну; потым туды панаўстаўлялі кавалкі з іншай тэкстуальнай традыцыі, за якой ідзе рускі сінадальны пераклад. Так што там мяшаная тэкстуальная традыцыя, і гэта пераклад з перакладу з перакладу.

Што тычыцца іншых спробаў перакладу Бібліі. Пра гэта мала хто ведае, але гэта вельмі важна: паралельна са Скарынам, на пачатку XVI стагоддзя гебрайскую Біблію на беларускую мову ўзялася перакладаць беларуская-юдэйская супольнасць. Гэта была такая своеасаблівая беларуская „Сэптуагінта". Лёс гэтага перакладу невядомы, застаўся толькі Віленскі кодэкс 262,

там дзе дзевяць кніг з гебрайскай Бібліі. Ён магчыма даскарынавы, магчыма скарынавага часу. Васіль Цяпінскі ў 1570 годзе выдаў па-беларуску два з паловай Евангеллі. Такім чынам, беларуская Біблія жыла. А далей адбыўся такі гістарычны кульбіт у нашай культуры. Гэта таксама нам важна разумець. Пад эгідаю Радзівілаў у 1563 годзе была выдадзеная „Берасцейская", або „Піньчоўская", або „Радзівілаўская" Біблія. Гэта быў якасны прадукт, зроблены на польскай мове. У Польшчы яна не была прынятая з канфесійных меркаванняў, таму што рабілі яе пратэстанты. І замова была зробленая Якубу Вуйку, які з Вульгаты пераклаў на польскую мову Біблію, і гэты пераклад 1599 года адыграў для Польшчы падобную нацыятворчую і культуратворчую ролю як пераклад Лютэра ў Нямеччыне, Біблія Тындэйла і Караля Якуба ў Ангельшчыне, і сапраўды кансалідаваў і ўсталяваў польскую літаратурную мову. Гістарычны кульбіт, пра які я казала, адбыўся на пачатку XVII стагоддзя: усе новыя пераклады Бібліі на беларускую мову робяцца ўжо з польскай Бібліі Якуба Вуйка. Скарынава Біблія застаецца дзесьці ўбаку, а крыніцай для беларускага перакладу робіцца польскі пераклад з Вульгаты. І Зізані, і Сматрыцкі, і захаваныя фрагменты Старога Запавету – гэта ўсё пераклады з перакладу Якуба Вуйка, зробленага з лацінскага перакладу Бібліі. Тай самы метад перакладу з перакладу з перакладу. Вось так біблійныя пераклады сведчаць пра геакультурныя арыенціры краіны. І потым на стагоддзі ўсё замірае, а ў XX стагоддзі выбухае ізноў, бо Бібліі па-беларуску няма, а яна патрэбная. І бяруцца розныя людзі перакладаць розныя кавалкі, многае засталося нявыдадзеным. Першым выданнем быў „Новы Запавет і Псальмы" 1931 года, вельмі добры пераклад і такім дагэтуль застаецца. Неўзабаве выйшлі чатыры Евангеллі ў перакладзе айца Гадлеўскага, а ўвогуле парадку паўсотні перакладаў цягам XX стагоддзя рабілася. Цяпер мы пачалі навуковы пераклад, мы яго называем „Новая беларуская Біблія" або „Скарына XXI", як для XXI стагоддзя, але канешне, гэта вельмі марудная справа, цяжкая. Таму, што з гэтага атрымаецца – невядома.

*Міхась* Андрасюк:

Беларуская мова абмежаванага карыстання, – я ўжо прыводзіў такі прыклад, – нават няма адзінага агульнапрынятага перакладу Бібліі, гэта такі аргумент для тых, хто не вельмі ахвотна бачыць беларускую мову ў Царкве, у Касцёле. Ці калі б быў такі адзін пераклад, усе канфесіі яго акцэптавалі б? Нешта змянілася б?

*Ірына* Дубянецкая:

Гэта, хутчэй за ўсё, немагчыма, каб усе прынялі адзін пераклад. Мы не ў тым часе жывем. Гэта магчыма было ў XVI, XVII стагоддзі, а цяпер не. Зрэшты, ці яно патрэбнае? Якраз чым больш перакладаў, тым лепш, бо кожны пераклад недасканалы, і параўноўваючы іх, бліжэй можна падабрацца да тэксту Бібліі. Але тут важна тое, што, як я паказвала, пераклады Бібліі дапамагалі фармаваць нацыянальныя культуры. Што тычыцца беларускай культуры, гэтая праца не была зробленая своечасова і, магчыма, тыя наступствы, якія мы маем – няма адзінае мовы, адзінага правапісу, нізкі грамадскі статус беларускае мовы, адсутнасць вышэйшае адукацыі на беларускай мове – часткова вынікаюць з таго, што своечасова не была перакладзеная Біблія. На гэта ёсць дзве прычыны. Па-першае, Біблія – метатэкст еўрапейскай цывілізацыі, і гэтая кніга ўжо дзве тысячы гадоў застаецца асноўным аб’яднаўчым тэкстам і нікуды з гэтага п’едэсталу не збіраецца сыходзіць. Яна фармуе культуру, свядомасць, маральнасць, ідэнтычнасць. У нас не ўяўляюць, наколькі біблійныя вобразы, тэрміны, устойлівыя выразы ўжываюцца ў нямецкай, ангельскай, французскай, італьянскай мове натуральным чынам людзьмі, якія часта не ведаюць, што гэта цытуюць Біблію, бо гэта проста робіцца тканкаю штодзённай культуры і гэта агульнае для ўсяе Заходняе цывілізацыі. А па-другое, як ужо было сказана, пераклады Бібліі спрыяюць нацыянальным культурам, гэта важна для станаўлення агульнанацыянальнай тоеснасці. Гаворачы проста, утрыруючы магчыма, можна сказаць так: не перакладзеная Біблія вынікае ў недасфармаванай нацыянальнай свядомасці беларусаў. Перабольшыць значэнне перакладу Бібліі немагчыма. Мы гэтага не разумеем, бо ж неяк жывем і абыходзімся без гэтага, але ж мы абыходзімся без сваёй сапраўднай дзяржавы, абыходзімся без нацыянальнай свядомасці, без мовы... Намі не была зробленая тая важная праца, якая была б фундаментальнаю, якая сталася б падмуркам для развіцця мовы і культуры. Я часта кажу, што нам гэтую працу трэба было б зрабіць на пачатку XX стагоддзя, пасля 1906 года, у Нашаніўскі перыяд. Яшчэ адна прычына, чаму Біблія так паўплывала на еўрапейскія літаратурныя традыцыі, у тым, што гэта велізарны лексічны пласт, багатая моўная фактура, дастатковая каб распачаць пісьменства, словатворчасць абсалютна на любой мове. Таму яна і спрыяла ўсім мовам, на якія яе перакладалі, а мы гэтую працу не зрабілі. Вы пытаецеся, ці зменіцца што-небудзь, калі цяпер будзе выдадзеная Біблія? У мяне адказу на гэтае пытанне няма. Я думаю, што яго немагчыма мець, бо цяпер роля Бібліі

ў чалавечым і цывілізацыйным жыцці радыкальна іншая, мы спазніліся на гэты цягнік. Затое ёсць адказ на пытанне, што будзе, калі перакладу не будзе. Мы застанемся там, дзе мы ёсць. Не засвоіўшы асноўны тэкст заходняй цывілізацыі, культураю не можа інтэгравацца ў гэтую цывілізацыю, ёй наканаваная перыферыйнасць. Таму мы мусім гэтую працу ўсё роўна зрабіць.

*Міхась* Андрасюк:

Мы спазніліся на стагоддзе і ці маладому пакаленню цікава цяпер, каб гэтае спазненне неяк надганяць, выпраўляць? Ці беларусам цяпер сапраўды патрэбны пераклад Бібліі? Ці нейкім чынам Біблія ўплывае на свядомасць маладога пакалення беларусаў? Гэтае пытанне да Аляксея Фралова.

*Аляксей* Фралоў:

Добры дзень, шаноўнае спадарства. Грунт дыскусіі вельмі глыбокі, і яе змест можа зацікавіць толькі інтэлектуальнае асяроддзе, а ў грамадзтве гэта не такая вялікая праслойка. Тэматыка існавання роднай мовы, яе жыцця і будучыні, а значыць яе ўжыванне і папулярызацыі сёння (часам праз цяжкасці, непаразуменні), чым займаюцца зараз інтэлектуалы, гэта задача вельмі актуальная і зноў жа, спасцігальная толькі тымі, хто разумее гэту тэматыку, каму цікавы не толькі быт, проза жыцця і асабістая кішэня. Такіх людзей у Беларусі не мала, ёсць яны і ў замежжы, у дыяспары. Больш адухоўленыя, зацікаўленыя „высокімі матэрыямі" асобы. Такія людзі ў Беларусі безумоўна ёсць і сярод маладога, і сярод старэйшых пакаленняў. Пытанне нават не ў пакаленні, пытанне – у інтэлектуальным узроўні канкрэтных персанажаў. У той жа самы час маса народу, агульны пласт насельніцтва жыве з такога пункту гледжання: „а што мне выгадна, што мне зручней, што прасцей, на што патраціць час?" І канешне, ў гэтым сэнсе для звычайнага беларуса-абывателя, філісцера, беларуская мова трохі выглядае як пятае кола ў цялегі. Навошта яна, калі камфортна можна „разговаривать по-русски" ў Рэспубліцы Беларусь, а на Беласточчыне ўжо паўсюль па-польску, у Вільні і Віленшчыне ўсё часцей па-літоўску? У Амерыцы яны становяцца Americans і камфортна прымаюць тыя ўмовы гульні, якія проста зручней у тых ці іншых абставінах. Канечне, гэта можна зразумець. З пункту гледжання ratio такая пазіцыя амаль бяспройгрышная. Але людзі духоўныя разумеючы гэта, імкнуцца разважаць па-іншаму, не прымаючы такі канфармізм сэрцам. Ды мусім прызнаць: прыстасаванства ярка праяўляецца ў нашым народзе.

Беларускім інтэлектуалам трэба ўлічваць гэтыя дзве субстанцыі: духоўную, інтэлігенцкую і простую, філісцерскую. Абедзве ўплываюць адно на адно, першая сваёй актыўнасцю, другая сваёй інэртнасцю. І бяда беларусаў не толькі гэтага пакалення, што пласт інтэлігенцкі занадта малы, каб высока трымаць сцяг сваёй мовы, свайго духу, сваёй дзяржаўнасці ўрэшце, бо ўсё гэта ўзаемазвязана. Гэты пласт старанна вынішчаўся тымі, каму хацелася вынішчыць сваіх суседзяў.
Сёння ў першай частцы нашага круглага стала былі агучаны вельмі важныя факты, ашаламляльныя факты, якія трэба распавядаць масам народным, што, напрыклад, трыццаць ксяндзоў, самых выдатных інтэлектуалаў пачатку XX стагоддзя, каторыя не гледзячы на агульнанацыянальную пасіўнасць, прыйшлі да беларушчыны, ўбачылі ў ёй перспектыву. Яны былі ўсе расстраляны!... Інтэлектуальная праслойка зразалася пакаленне за пакаленнем. І гэта, мне здаецца, адна з найважнейшых прычын, чаму сёння беларуская мова ў такім страшэнным заняпадзе ў самой Беларусі і ваколіцах. У кожнага народа і дзяржавы ёсць будуючыя і разбураючыя іх падзеі і тэндэнцыі. У нас было не мала будуючых нацыю герояў і падзеяў. Я цалкам згодны са спадарыняй Ірынай у наданні надзвычайнай важнасці перакладу на родную мову Бібліі. Былі і іншыя фенамены XVI ст., такія як сама Рэфармацыя, як Статут ВКЛ, эканамічныя і зямельныя рэформы, развіццё адукацыі, шырокая кантактнасць нашай культуры з рознымі культурамі Еўропы. Безумоўна, тут былі і вынішчэнні, каторыя мы памятаем, войны Івана Жахлівага і Аляксея Міхайлавіча Цішайшага, каторыя вынішчалі то траціну, то палову насельніцтва Беларусі, пры чым, гэта былі лепшыя людзі, якія стаялі плячо ў плячо і змагаліся за сваю краіну. Потым наступныя пакаленні, якія падалі як каласы пад іх сярпом. Так, „зерне кінутае ў ніву ўсходзіць і красуе”, але ўсё ж такі, гэта рэальныя страты, а калі б яны былі жывыя, колькі гэтыя людзі – сотні, тысячы тысяч – стварылі б высокага, цывілізацыйна важнага не толькі для Беларусі, але і для сусветнай культуры. Такім чынам, пазітыўныя падзеі Рэнесанса і далейшых эпох патанулі ў моры гора XVII і наступных стагоддзяў. У выніку – праблемы: культуралагічныя, цывілізацыйныя, якія мы маем як народ.

*Міхась* Андрасюк:

Я ў гэтым месцы хацеў бы перайсці на наш падляшскі бок беларуска-польскай мяжы, на нашае памежжа. Становішча, у якім знаходзіцца беларуская

мова, культура, рэлігія ў Рэспубліцы Беларусь мае, маю такое ўражанне, пэўны ўплыў на нас, беларусаў у Польшчы, беларусаў Падляшша. *Panie profesorze*, апошнім часам з'яўляецца ў нас новая нацыя, у двукоссі, праваслаўных палякаў. Як гэта можна патлумачыць? Ці магчымая такая нацыя, ці ўвогуле ёсць месца для праваслаўных у польскай нацыянальнай ідэі?

*Уладзімір* Паўлючук:

Я хацеў бы аднесціся да праблемы, якую паставіла пані Ірына – да перакладаў. Я на перакладах не знаюся, не знаю старажытнай грэчаскай мовы. Тое, што скажу адносна перакладу, можа будзе трохі дзіўнае. Я, будучы малым хлапчуком, дзесяці, можа дванаццацігадовым пачаў браць удзел у літургіі, а бацюшкам у нас быў Круткоўскі. Быў я прыслужнікам у святочнай царкоўнай вопратцы і тэкст літургіі добра памятаю. Напрыклад пачатак чытання апостала Паўла: *Апостола Павла чтеніе. Вон мем! Во время оно. Еже Ісус і ученіцы его. Господі помілуй, Господі помілуй, Господі помілуй* і так далей. Teraz przetłumaczono to na język polski, w cerkwi Marii Magdaleny odprawia się mszę prawosławną. Zaczyna się to tak: *Od świętego Pawła tekst. Bądźcie uważni!* Bądźcie uważni, więc wszyscy starają się być uważni. Najlepiej poczytać teologów, którzy są bardzo uważni i dużo na ten temat przemyśliwują i piszą, ale nic z tego nie przechodzi do recepcji Biblii, wręcz gmatwa i zniechęca do jej czytania. Tekst Biblii funkcjonuje, kiedy daje przeżycie mistyczne bycia w tajemnicy. I to wnosi się w kulturę, w tym przypadku prawosławną, a nie przy wnikliwych tłumaczeniach tłumaczy, którzy zrobią bardzo dokładnie, ale już nie odczytamy tego. Zaczyna się od słowa „bądźcie uważni", a to oznacza zupełnie inny wstęp do tekstu biblijnego. Tyle chciałem powiedzieć o przekładach, jako problem do przemyślenia. Jeśli zaś chodzi o język białoruski i powstanie Białorusi, oj to jest sprawa paskudna…

*Міхась* Андрасюк:

Ja bym jednak chciał wrócić do tej nowej nacji, która nam się tu tworzy, prawosławnych Polaków. Jak pan profesor to widzi? Coraz więcej młodych ludzi określa się w ten sposób. Religia i narodowość łączą się w sposób dotychczas niespotykany.

*Уладзімір* Паўлючук:

To jest znakomita, trudna robota Sokrata Janowicza. On mocno przeżywał to, że prawosławni nie mówią po białorusku i nie chcą mówić. Natomiast po białorusku mówią Polacy, na północ od Białegostoku. A prawosławni, jak w moich Rybołach, mówią *po swojomu*. Janowicz sprytnie to poskładał i stworzył język białoruski, który

był do przyjęcia. Natomiast Białorusini jako nacja, to zostało ustalone z zewnątrz. I sami Białorusini przyjęli to z niechęcią, bo wszędzie, czy to idąc do gminy, czy do lekarza trzeba było rozmawiać po białorusku.

*Міхась* Андрасюк:

Спадар прафесар тут падымае істотную справу нацыянальных падзелаў на нашым беларуска-польска-ўкраінскім памежжы Арганізатары Трыялогаў на наступны год запланавалі дыскусіі пад лозунгам *Litwo, ojczyzno moja*. І тады будзе час і месца пагаварыць, між іншым, пра тое *co je czyje*, што польскае, што беларускае, што ўкраінскае. Мне цікавая такая з'ява як нацыянальная ідэя. Кожная дзяржава мае сваю нацыянальную ідэю, а сярод іх бадай самая славутая ў свеце *амерыканская мара*. Алег Трусаў кажа, што другім вельмі важным складнікам нацыянальнай ідэі ёсць веравызнанне. Першым ён лічыць мову. Асабліва на еўрапейскім кантыненце – мова і рэлігія вызначаюць галоўныя памкненні народаў. У мяне такое пытанне, ці нацыянальная ідэя магчымая без гістарычнай памяці? І ці нацыянальная памяць беларусаў не абмяжоўваецца да часоў Вялікай айчыннай вайны? У крайнім выпадку – да Кастрычніцкай рэвалюцыі, з якой пачынаецца ўсё беларускае?

*Аляксей* Фралоў:

Я хацеў бы вярнуцца да праваслаўных палякаў. Гэта тэма вельмі важная і я б сказаў, з'ява сіметрычная да рускамоўных беларусаў. Два розныя паняцці, але праблема супольная. Беларускую мову гэты шырокі пласт несвядомых людзей заўсёды лічыў простай, мужыцкай, а пазней – калгаснай. Такія стэрыятыпы абсалютна штучныя. Яны штурхаюць недастаткова адукаваных людзей, гэту масу народа, а дакладней – насельніцтва да таго, каб далучыцца да чагосьці саліднейшага, да чагосьці больш адпаведнага, цэльнага, прыгожага, цывілізаванага. Калі б імідж беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай дзяржавы быў цэласны, прыгожы, узнёслы, раўназначны Францыі, Ангельшчыне, Нідэрландам ды хай сабе маленькай Чэхіі, але каралеўскай, якая выпраменьвала культуру, тады б і беларуская мова, і беларуская культура, і ўсведамленне сябе беларусамі былі б значна мацнейшымі. У выніку многія самі цураюцца, а недабразычліўцы яшчэ стараюцца давесці, што тут нешта непаўнавартаснае! Гэтаму спрыяюць і аб'ектыўныя абставіны, што многія беларускія дзеячы розных эпох служылі іншым культурам, служылі ў іншых дзяржавах. Выязджалі і працавалі, адзін на Францыю, другі на Нямеччыну, сотні

і тысячы на Польшчу і Расею, Дамейка нават на Чылі працаваў. Без павяртання імёнаў гэтых герояў нашай гісторыі не толькі нашым інтэлектуалам, але і нашай масе малаадукаваных у гісторыі людзей не будзе сапраўднага адраджэння краіны. Мусіць быць вяртанне герояў свайму народу. І праз гэтае вяртанне будзе адраджэнне. Тады прыемна будзе беластачанам-беларусам памятаць, што яны беларусы. Прыемна будзе ў Беластоку, у гэтым фантастычна прыгожым праваслаўным саборы Святога Духа праслаўляць Бога па-беларуску, мець узаемнасці адзін з адным па-свойску і зусім не камплексаваць ад свайго беларускага паходжання. Тым больш што ў нас ёсць галоўнае – ёсць Слова, ды яшчэ ў розных беларускіх варыянтах. Такія пераклады існуюць і спадарыня Ірына пералічыла іх некалькі. Выбірай ці Луцкевіча (Дзекуць-Малея), ці Сёмуху, ці апошні пераклад. Беларуская культура столькі цікавага і ўзнёслага спарадзіла, што гэтым трэба ганарыцца! Не люблю слова „ганарыцца", але цешыцца, радавацца, адчуваць гэткае шчасце, што мы беларусы і мы годныя ў еўрапейскім асяроддзі звацца еўрапейскім народам па ўсіх параметрах!

*Міхась* Андрасюк:

Тады каб вярнуцца да гэтага пытання, ці існуе беларуская нацыянальная ідэя і як далёка сягае беларуская памяць? Я тут прывяду такі прыклад. Калі на землях Вялікага Княства Літоўскага дзяржаўнай мовай была старабеларуская, а польская мова ў Польшчы лічылася мужыцкай, гісторык Марцін Бельскі пісаў у „Хроніцы свайго свету" наступнае: *Rusini nad nas wiele mają, iż przyrodzonym językiem piszą i czytają, a my cudzoziemskim łacińskim, który nie może iść każdemu u nas w posłuch, tak w kościelech, prawiech, jako i gdzie indziej, gdyż nie każdy tej rzeczy łacińskiej rozumie ani pisze.* І вось, ці дзяржаўная беларуская памяць сягае тых часоў, калі моўная рэчаіснасць у гэтай частцы Еўропы выглядала зусім іначай?

*Ірына* Дубянецкая:

Тут адразу некалькі пытанняў. Таму, што адна рэч беларуская гістарычная памяць, а іншая дзяржаўная, якая культывуецца ў дзяржаве. Гэта зусім розныя рэчы і дзве розныя гісторыі. Тое, што адбывалася ў Вялікім княстве Літоўскім, гэта можа быць прыкладам для цяперашняй Беларусі. Некаторыя рэчы, якія адбываліся тады ў XVI, XVII стагоддзі, пачалі адбывацца ў астатняй Еўропе толькі напрыканцы XX, у XXI. На жаль не таму, што быў беларускі

прыклад, а таму, што ўсе даганяюць на сваёй хуткасці нейкія ідэі. Гэтыя ідэі гучалі менавіта ў старадаўняй Беларусі ў адраджэнскія, рэфарматарскія часы. Павал (Севярынец) казаў, што ў беларускай традыцыі было хрысціянскае трыадзінства. Насамрэч гэта было яшчэ багацей. Вялікае княства Літоўскае было адзінаю дзяржаваю, якая культывавала ў сябе мультырэлігійную традыцыю, у якой суіснавалі афіцыйна, годна побач не толькі розныя хрысціянскія канфесіі, але юдаізм і іслам. Гэта была сапраўды шмат рэлігійная краіна, адзіная на той час у Еўропе. Калі ў Еўропе бушавалі рэлігійныя войны, калі каталікі і пратэстанты палілі, рэзалі адзін аднаго і змагаліся адзін з адным, у Вялікім княстве Літоўскім бушавалі рэлігійныя дыспуты. Рэлігійныя войны адбываліся ў інтэлектуальнай прасторы, гэта была зусім іншая сітуацыя. Адкрыю вам абсалютна страшную тайну, яна страшная для гісторыкаў, навукоўцаў і для ўсіх, каго заўгодна – праваслаўе пачынаецца ў Беларусі ў XVII стагоддзі, пасля прыняцця уніі. Да таго такога тэрміну не было. Гэты тэрмін нарадзіўся ў Масковіі. У нас магдэбургскім правам былі замацаваныя хрысціяне законаў рымскага і грэцкага. Законам грэцкім былі тыя, якіх мы цяпер называем праваслаўнымі, уніятамі. Паглядзіце, як будавалася стандартнае беларускае мястэчка, такога не было абсалютна нідзе ў Еўропе: на вялікім пляцы стаіць царква закону рымскага, царква закону грэцкага, значыць лацінская царква і ўсходняя царква, дзве-тры сінагогі і дзесьці, вельмі часта наўзбоч, мячэць. Рэлігійнае суіснаванне, рэлігійная глыбінная талеранцыя былі дзяржаўна замацаваныя. Калі пытаюцца, чым Беларусь можа ганарыцца, чаго няма ў іншых? Гэта рэлігійная талерантнасць. Гэтая павага да іншага ўвайшла вельмі глыбока ў прыказкі, прымаўкі, у фальклор, гэтая павага. На ўзроўні цывілізацыйным была прапаганда вання рэлігійная талерантнасць. А другая рэч, паралельная, гэта моўная сітуацыя. У Вялікім княстве Літоўскім афіцыйнай моваю была беларуская, а літаратурнай – большасць моваў. Вялікае княства фармавалася як шматрэлігійная і шматмоўная супольнасць, дзе была беларуская дамінанта, але мелі росквіт і іншыя традыцыі. Узгадвалі ўжо сёння пра багатую культуру ідыш і пра гебрайскую, юдэйскую, якая дала неймаверную колькасць і тэкстаў, і дзеячаў, і ідэяў, а беларуская мусульманская традыцыя таксама вельмі важная і цікавая рэч, пра якую мы цяпер забываемся. Мы фактычна страцілі беларуска-ісламскую плынь. Беларускія мусульмане цвёрда трымаліся і яшчэ раз-пораз трымаюцца беларускай мовы. Яны самі пра сябе гавораць, што ў пасляваеннай Беларусі расейскамоўны свет ганбіў беларускамоўных

мусульманаў, яны адчувалі сябе ледзь не адзінымі носьбітамі беларускай мовы, да якіх астатні свет быў варожы. У ранняй савецкай, даваеннай Беларусі былі чатыры дзяржаўныя мовы, нацыянальныя секцыі ў беларускім Саюзе пісьменнікаў. У Беларусі не можа быць па-іншаму, але нацыянальныя секцыі, апроч расейскай, былі вынішчаны на сто працэнтаў. Беларускай секцыі не было. Гэта беларуская агульная асноўная плынь і ў ёй вось гэтыя велізарныя ручаіны, струмені іншамоўныя, іншакультурныя, якія перамешваючы стваралі абсалютна ўнікальны інтэлектуальны мацярык, якім і была Беларусь, пакуль гістарычная памяць не была вельмі жорстка, вельмі груба абарванай. Мы, фактычна, маем пярэрваную нацыянальную памяць.
Вы вельмі добра сказалі, што цяпер дзяржава гаворыць, нібыта Беларусь пачынаецца пасля ці падчас другой сусветнай вайны, а нават Вялікай айчыннай. Гэта, насамрэч, тэрмін непрыкладальны да Беларусі. У адной Налібоцкай пушчы было да дзевяці фармаванняў, якія паміж сабою часам змагаліся. У Беларусі ўсё ж такі вайна пачалася ў 1939 годзе, а не ў 1941, яна была „па поўнай праграме", а не толькі вось гэтая савецкая Вялікая айчынная вайна. Дзяржава так гаворыць, бо яна прадукт велізарнага перыяду вынішчэння, вычышчэння, вышкалівання нацыянальнай памяці, абцінання нацыі на адну галаву, на ўсіх інтэлектуалаў. Гэта адбывалася некалькі разоў цягам кароткага перыяду і людзі з памяццю вынішчаліся. Але ж досвед чалавечы паказвае, што інтэлектуальная праслойка, у адрозненні ад арыстакратыі, аднаўляецца хутка.
Хачу яшчэ ўставіць свае тры грошы ў папярэднюю гутарку. Вы казалі, што людзі гавораць на мове чынавенства. Купала пра гэта вельмі прыгожа казаў, што „ён з начальствам знае дзела, па-расейску валіць смела, ліжа выйшаўшы за вёску ласку панскую па-польску, нават жыду, як у доўг просе гутэн моргэн буркне ўносе, а як сядзе ў кутузку ўсіх кляне па-беларуску". Гэта тое, што ў цяперашнім жаргоне палітычным мы называем „палітычная воля". Роля дзяржавы ў Беларусі вельмі вялікая, але пры наяўнасці палітычнай волі, калі адукацыя становіцца беларускай, не трэба, каб прэзідэнт гаварыў па-беларуску. Гэта не абавязковая ўмова для таго, каб людзі пачалі гаварыць. Абавязковыя ўмовы, гэта найперш універсітэты і па-другое школы, якія гавораць па-беларуску. Таму што зноў чалавечы досвед паказвае, і досвед польскіх беларусаў таксама, гэта досвед усёй Еўропы: дзеці гавораць на той мове, на якой яны гавораць у школе. У сям'і будзе адна мова, калі дзіцёнак пайшоў у школу з іншай моваю, ён будзе ў сям'і па-ранейшаму гаварыць на мове сям'і,

але калі ягоны брат ці сястра пайшлі пазней на год два ў школу, то брат і сястра паміж сабою будуць гаварыць на мове школы. Гэта асноўная тэндэнцыя, людзі па сваёй прыродзе не змагары. Людзі па сваёй прыродзе спажываюць тое, што ім прапаноўваецца. Калі сям'я цвёрдая, калі сям'я змагарная, там і дзеці, і ўнукі будуць такімі. Мы знойдзем такіх людзей, іх вельмі многа. Але, калі тэлебачанне на іншай мове, дзяржава на іншай мове, сябры на іншай мове, а мама і тата на сваёй, яны будуць з мамай і татам размаўляць на мове мамы і таты, і толькі ў тым выпадку, калі сапраўды штосьці змагарнае і цвёрдае будзе, тады дзеці будуць несці гэтую беларускую мову. У нас у васьмідзесятыя гады ў Мінску, сталіцы савецкай Беларусі, была адна школьніца, якая навучалася па-беларуску. Ніводнай школы, ніводнага класа, адна на двухмільённы Мінск дзяўчынка. Ёй было дванаццаць гадоў, трынаццаць гадоў, чатырнаццаць гадоў, яна вучылася па-беларуску. Гэта была Настка Лісіцына. Гэта была вельмі цікавая сям'я. Бацька хацеў, каб дзіцё вучылася па-беларуску. Ён сам спачатку з'яжджаў, прыязджаў у Беларусь, там нічога па-беларуску, пераехаў у Латвію, вярнуўся, зноў нічога. Івану Шамякіну пісаў лісты, прасіў дапамогі. Яны цвёрда стаялі на сваім канстытуцыйным праве вучыць дачку па-беларуску. Школа нічога з гэтым не магла зрабіць таму, што бацькі стаялі вельмі цвёрда. Маці ў выніку хварэла і вельмі рана памерла праз гэтае змаганне. Яны дамагаліся, каб дзіцёнка вучылі па-беларуску. Настаўнікаў не было, падручнікаў не было, займаліся такім чынам: клас адвучыў матэматыку, а тады з Настай у піянерскім пакоі, дзе было халодна, які не ацяпляўся, настаўнік займаўся па-беларуску, так было з усімі прадметамі, яна мне гэта сама расказвала, я перадачу рабіла пра яе. Я яе пытаю: а як ты з сябрамі? А яна кажа мне: а я ім кажу, калі хочаце са мной сябраваць, размаўляйце па-беларуску. У колькіх дзяцей ёсць такая цвёрдасць? Яна ўсю школу прайшла вось такою змагаркаю, адна супраць усіх, адна супраць усяго горада, адна супраць усяго свету. Яна пражыла, потым паступіла ў Педагагічны інстытут, я не ведаю, якія былі яе далейшыя лёсы. Тое было жыўцом у Беларусі. Таму я хацела сказаць: пры наяўнасці палітычнай волі, калі ёсць беларускія ўніверсітэты, калі адпаведны статус мовы, калі ёсць беларускія школы адпаведнага навучання мовы, тры пакаленні будзе дастаткова. Калі гэтае пакаленне пачынае, дзеці будуць мяшанымі, унукі будуць беларускамоўныя, гэта цалкам рэальна і гэта зноў жа досвед іншых краін. Некаторыя краіны аднаўлялі сваю мову фактычна з нуля і аднавілі. Самі ведаеце, колькі хавалі беларускую мову, казалі, што яна загіне, што яна памрэ. У дзевяностыя

гады, там дзе я выкладала, там мяне называлі апошнім беларусам. Але гэта не тое, што яна памірае, яна памерці не можа. Беларусы любяць беларускую мову, хоць і не гавораць на ёй. Я хачу запярэчыць Аляксею. Цяпер, калі прыязджаеш куды-небудзь на мову рэагуюць: а вы што, з Мінска? Яны адразу чуюць, што ў нас так не гавораць, або: а вы што, пісацель? А раней было: а вы што, БНФ?

*Міхась* Андрасюк:

Я калі прыязджаў у Беларусь і размаўляў па-беларуску, то пыталі: а вы пісьменнік ці з Польшчы?

*Ірына* Дубянецкая:

Яшчэ бывае: а вы ўкраінцы?

*Аляксей* Фралоў:

Зараз гэта ў трэндзе ў здаровых дюдзей – нармальны патрыятызм тут і там: „мы ўкраінцы”, „мы амерыканцы” і т.д. „Мы-беларусы/ліцвіны Мы ёсць Мы! Накоплена і дасягнута, адкрыта і вернута дастаткова агульна нацыянальных каштоўнасцяў гісторыі і культуры, якіх удосталь для адчування сябе кожным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь часткай вельмі яркай, а па-свойму і ўнікальнай у свеце нацыянальнай супольнасці. Калі ж я казаў пра простую мужыцкую ці калгасную, я меў на ўвазе ўжо не сучасныя інтэрпрэтацыі, а стэрэатыпы тых замшэлых „здаўнелых” людзей, і старыя часу навогул. Тыя клішэ, які нам навязвалі суседзі – гэта яшчэ праблемы з якімі змагаліся Купала і іншыя нашы адраджэнцы, з панамі-господамі, якія навязвалі штампы, што беларускае – толькі хлопска-мужыцкае/калгаснае, а мова – „недаразвітая”. Гэта праблема дамінавала раней, а зараз толькі часам мае сваё „рэліктавае выпрамень Зараз гэта ў трэндзе ў здаровых дюдзей – нармальны патрыятызм тут і там: „мы ўкраінцы”, „мы амерыканцы” і т.д. „Мы-беларусы/ліцвіны Мы ёсць Мы! Накоплена і дасягнута, адкрыта і вернута дастаткова агульн”... анацыянальных каштоўнасцяў гісторыі і культуры, якіх удосталь для адчування сябе кожным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь часткай вельмі яркай, а па-свойму і ўнікальнай у свеце нацыянальнай супольнасці. Калі ж я казаў пра простую мужыцкую ці калгасную, я меў наўвазе ўжо не сучасныя інтэрпрэтацыі, а стэрэатыпы тых замшэлых „здаўнелых” людзей, і старыя часу навогул. Тыя клішэ, які нам навязвалі суседзі – гэта

яшчэ праблемы з якімі змагаліся Купала і іншыя нашы адраджэнцы, з панамі-господамі, якія навязвалі штампы, што беларускае – толькі хлопска-мужыцкае/калгаснае, а мова – „недаразвітая". Гэта праблема дамінавала раней, а зараз толькі часам мае сваё „рэліктавае выпраменванне".

Сапраўды, за апошнія дваццаць пяць гадоў ужо адноўленай беларускай дзяржаўнасці, мова набыла статус інтэлігенцкай, сталічнай, а стэрэатып калгаснасці і мужыцкасці ўжо мінулі. Сёння гэта прыкмета інтэлектуальнасці, маладзёвасці, актуальнага трэнду. Гэта модна ў Мінску – паразмаўляць па-беларуску. Я часам бываю ў розных лякальных асяродках, дзе праходзяць лекцыі, канцэрты, выставы, і я бачу моладзь, якая ўсімі сіламі імкнецца хоць слоўца з сябе выдаць, звязаць сказ, фразу нейкую кінуць па-беларуску. Але мова гэта ўсё ж не адзіная прыкмета беларушчыны. Яшчэ раз падкрэслю, што для нацыянальнай ідэі важна найперш вярнуць сваіх герояў, сваю гісторыю, нацыянальную спадчыну ў народную свядомасць, чым і займаюцца многія з тут прысутных, і шаноўны спадар Уладзімір Арлоў і іншыя выдатныя навукоўцы і творцы.

*Ірына* Дубянецкая:

У тым ліку тых герояў, якія пісалі па-польску ў дзевятнаццатым стагоддзі.

*Аляксей* Фралоў:

Так, так. Мы павінны разумець, што беларуская гісторыя, беларуская культура яна шматмоўная, я абсалютна згодны са спадарыняй Ірынай. Я едучы сюды рыхтаваў такі пісьмовы даклад, навуковападобны са зноскамі, са спасылкамі, тут фармат аказаўся зусім іншы. Для сябе сфармуляваў такую тэму свайго дакладу, можа потым у публікацыю пойдзе: Ад функцыянальнасці да сакралізацыі моваў Беларусі, спроба кантэкстнага асэнсавання праз музыку. У беларускай музычнай практыцы існавала шмат моў. Існавала мова царкоўнаславянская, старабалгарская па сутнасці. Гэта мова самага старажытнага помніка – „Песнапенняў ў гонар Еўфрасінні Полацкай". Мы знайшлі фрагмент францішканскага антыфарыя, ілюстраванага прыгожымі гатычнымі арнаментамі, сюжэтнымі кампазіцыямі XIV – пачатаку XV стагоддзяў, пісанага, зразумела, на лацінскай мове. Гэта што, не беларускія помнікі? Беларускія! Проста адзін – царкоўнаславянамоўны, другі – лацінамоўны. Прыблізна з гэтай жа пары паходзіць знакаміты помнік ужо сінтэтычнай традыцыі, там ёсць і царкоўнаславянізм, потым ён пераходзіць

у іншыя мовы, распаўсюджваецца па ўсім рэгіёне і ў Беларусі, і ў Польшчы. Вы зараз здагадаецеся, пра што я кажу. З ім ідуць пад Грунвальд і беларускія палкі, і польскія палкі, і кожны спявае гэты самы гімн, каторы можам у выніку назваць і першым нашым дзяржаўным гімнам. „Багародзіца" – „вось сімвал твой, забыты краю родны". І палякі спяваюць яго па-польску, а беларусы па-беларуску. Самі польскія даследчыкі сцвярджаюць, што польскамоўная версія тэксту багата архаічнымі, усходнімі ці русінскімі, царкоўнаславянізмамі. Гэты сінтэз беларускіх і польскіх культур ужо тады пачынаецца, гэтая супраца, дыялог. Паралельна з Літвой з Украінай... дыялогі, трыялогі, квадралогі... Гэта наш гонар, што мы не замыкаліся ў сабе, не стваралі нацыяналістычную дзяржаву. Былі гатовы паслухаць іншага, пастарацца яго зразумець. І гэта такі цывілізацыйны ўзровень, такі ўзлёт Беларусі, як бы яна не называлася ў гісторыі праз вякі, што многія іншыя еўрапейскія грамадзтвы значна пазней прыйшлі да такіх філасофскіх асэнсаванняў і практыкі талеранцыі. А ў нас гэта ўжо было на рынкавым пляцы любога мястэчка, у мадэлі гэтага нашага мікракосмаса ўзаемаразумення. Хрысціянская агульначалавечая любоў да бліжняга, імкненне паразумецца з ім прасякнула наш характар.

Падкрэслю, што такія кантакты Беларусь – Польшча былі вельмі шчыльныя. Вывучаючы музычныя помнікі я дзіву даваўся, наколькі іх шмат. Ужо нават на пакаленне раней, калі Альдона Гедымінаўна выйшла замуж за караля Казімежа Велькего III і прыехала са сваім аршакам, са сваім гуртам музыкаў, нашумела ў Кракаве і потым кракавяне са сваіх камяніц, з другога паверха коса паглядалі, што там за такое вяселле едзе нейкае. Гэта цікавыя факты, каторы Ян Длугаш яшчэ апісвае. Потым усё больш і больш. Ягайла з Сафіяй Гальшанскай, наступныя. Калі мы глядзім рэестры каралеўскага двара і службы каралеўскага двара Ягайлы, каторы прыехаў у Кракаў, а потым яшчэ за ім і наша княжна Сафія Гальшанская, бачым, што дзясяткі, нават сотні гэтых персанажаў, у большасці выхадцы з беларускіх земляў. Мы чытаем у агульным спіску: гродняне, смаляне, потым: лоўчыя, пісары, музыкі, грайкі. Розных спецыяльнасцяў, розных катэгорыі паняцці, але ж мноства і большасць гэтых імён беларускія, можам так гаварыць вывучаючы дэрывацыйны аспект, вывучаючы корань і слова з якога складаецца прозвішча. Мы разумеем, што сама культурная інтэграцыя Беларусь – Польшча пачалася ўжо з тых даўніх часоў і была узаемаўплывовая. Усе гэтыя працэсы падкрэсліваюць не нашую нейкую другаснасць беларусаў (русінаў, ліцвінаў),

нашых продкаў, а адэкватнасць, нармальнасць і адпаведнасць іншым дзяржавам таго часу.
Яшчэ прывяду адзін толькі музычны прыклад: першыя оперы Моцарта італьянскія, ну дык што, вы запішаце яго ў італьянскага кампазітара? Канешне не, гэта Моцарт, гэта вялікі аўстрыйскі геній, яго творчасць – шэдэўры вялікай аўстрыйскай культуры, але на італьянскай мове. І толькі потым ужо Моцарт дайшоў, што можа і па-нямецку сабе дазволіць. Ну і дазволіў! Пры гэтым існаваў жа стэрэатып, што нямецкая мова няспеўная, немілагучная. Ну прабачце, але калі Моцарт напісаў на ёй свае оперы, значыць можна спяваць і яна мае сваю мілагучнасць, і сваю прыгажосць, і сваю музыкальнасць, проста інакшую. Любая мова – жывы арганізм, яна развіваецца. На ёй трэба ствараць і пераствараць! І тое, што робяць перакладчыкі, тое, што робяць ініцыятывы літаратараў па ўшанаванні пяцісотгоддзя вялікага чыну Беларусі ў еўрапейскай цывілізацыі, гэта проста здорава. Яшчэ раз падкрэсліваю, што Беларусь – годны суб'ект на еўрапейскім кан тыненце!

*Міхась* Андрасюк:

Няма лепшых моваў, няма горшых моваў. А ў такім выпадку *panie profesorze*, а можа цікава было б, каб у нашых цэрквах на Падляшшы нашыя мовы, такая ў царкве ў Рыбалах мова як у Рыбалах, у царкве там скажам у Орлі, так як у Орлі і так далей, у Дубічах, як у Дубічах, на гэтых мовах, на гэтых гаворках. Хаця б, каб у царкве маглі вернікі паслухаць ну, не ўсю літургію, гэта немагчыма, але пропаведзь хаця б. Ці такая наша простая гэтая мова яна горшая? Ці яна не заслугоўвае хаця б крыху месца ў нашай гутарцы з Усявышнім, з Богам?

*Уладзімір* Паўлючук:

Заслугоўвае. Толькі святары, можа гэта я брыдка сказаў, бацюшкі не схільны да нейкай рэвалюцыі ў мове. Яны помняць гэтыя поўчаса, калі службу адпраўляюць. І гэта звязана з цэлым краявідам. Свечы, іконы і так далей, і слова, якое азначае заўсёды тое самае, і бацюшка нічога тут не будзе змяняў, бо не патрэбны як бацюшка, а павінен заняцца чымсь іншым, стаць тэолагам, расказваць, інтэрпрэтаваць. Тэалогія, то ўжо смерць, так сказаць, рэлігіі. Так скажу, бо трохі на том знаюся, то ведаю, што то азначае. Была Камуністычна партыя Польскі – КПП, якая па наказу Сталіна трывала некалькі год толькі, існавала. Сталін развязаў і ўсталіў дзве партыі: КПЗБ і КПЗУ.

І ўзнікла такім чынам няўхільная нацыя беларуская ад Нарвы па Буг. Абавязак усіх па-беларуску, усіхураднікаў і так далей, але кніжкі падручнікі біялогіі і фізікі пераведзены на беларускую мову. Гэта выклікала вялікае незадавальненне людзей, дзяцей, якіх у школу пасылаюць, але такая была пастанова. І тут справа беларускасці папсавана застала, бо галоўнай асобай у руху сацыялістычным, камуністычным была Роза Люксембург, якая скрытыкавала Сталіна. І Сталін пастанавіў на ёй замсціцца і замсціўся, выкінуў яе, зліквідаваў тады КПП і паклікаў нацыю беларускую. Так узнікла беларуская нацыя тут.

*Міхась* Андрасюк:

Я думаю, што гэта тэзіс сапраўды для дыскусіі – Сталін як бацька беларускай нацыі. Гадзіннік падказвае, што ў нас ужо паціху падыходзіць гэты панэль да завяршэння, але хвілінак пятнаццаць яшчэ ёсць. І думаю, што тут менавіта будзе час і месца, каб яшчэ з залы паслухаць пытанняў альбо меркаванняў, выказванняў і адносна гэтага, што Кастусь Бандарук заяўляў ахвоту паразважаць пра праваслаўных палякаў у Польшчы.

*Кастусь* Бандарук:

У трэцяй частцы будзем пра гэта гаварыць, неабавязкова цяпер, калі тут культура.

*Міхась* Андрасюк:

Тым не менш, паколькі ў нас хвілінкі яшчэ ёсць... Яшчэ Аляксей слова?

*Аляксей* Фралоў:

Так, калі дазволіце, то ўсё ж такі тэма культуры і мовы, вось гэтага кантэксту, судачыненняў, вельмі аб'ёмная, маштабная і мы можам хадзіць у розныя бакі, дзякуй Богу, у нас вялікая гісторыя і шматлікія помнікі культуры. Мы можам лятаць у розныя эпохі, дык давайце яшчэ раз зірнем на Залаты век. Мы шмат пра яго казалі і будзем казаць у 2017 годзе. Існуе вялікая постаць Скарыны, а следам за ім ідзе наступнае пакаленне – Мікалай Радзівіл Чорны, Сымон Будны, Цыпрыян Базылік, Васіль Цяпінскі... Цікавую натаку на тэму каштоўнасці нашай мовы знаходзім у славутым Нясвіжскім Катэхізісе 1562 года, выдадзеным Мацеем Кавячынскім, Сымонам Будным і Лаўрэнціем Крышкоўскім (едучы сюды, я ўзяў яго перавыданне, якое зрабілі ў 2005

годзе некалькі евангелічных цэркваў Беларусі). Гэты „Катэхізіс” напісаны па-старабеларуску, мовай нават больш набліжанай да жывой гутарковай мовы, чым Біблія Скарыны. Ужо яго аўтары звяртаюцца з ідэйным пасылам да фундатараў выдання гэтага „Катэхізіса” – Мікалая Радзівіла Чорнага і ўсёй радзіны Радзівілаў (а, па сутнасці, да ўсёй арыстакратыі краіны). У ім аўтары даносяць думку, якую праз тры стагоддзі сфармулюе Францішак Багушэвіч: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”! Мацей Кавячынскі, Сымон Будны і Лаўрэнці Крышкоўскі адкрэсліваюць другую пасля самай важнай (першая – каб „з маладосці любоў да Слова Божага ўзнялася і расла”) мэту свайго выдання: „...каб Вашыя Княжацкія Міласці не толькі чужаземнымі мовамі захапляліся, але і каб тую здаўна славутую мову славянскую палюбілі ды ёю захапляцца пачалі. Слушная бо справа, каб Вашыя Княжацкія Міласці любілі мову таго народу, на чале якога здаўна славута стаяць даўнія продкі і Іх Княжацкія Міласці айцы Вашых Княжацкіх Міласцяў”... Здаецца, парадокс асобы Буднага і яго дзейнасці ў тым, што праз некалькі гадоў пасля „Катэхізіса” ён далей працуе над перакладамі ўжо на польскую мову „Новага запавета”. Гэта праца ў Заслаўі, у Лоску, часткова у Кухцічах. І я доўга разважаў: ён герой ці антыгерой для мяне асабіста і для нашай культуры ў цэлым? Але выглядае, што ён не лукавіў, што для евангелікаў, веруючых той эпохі, глыбока перакананых хрысціян, асабліва важным адчуваўся Хрыстовы загад: „Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога”. І ён па сутнасці выконваў гэты Божы запавет. Ён пачынае тлумачыць і друкаваць Слова на мове роднай гэтаму народу. „Катэхізіс” гэта збор хрысціянскіх ведаў, вельмі грунтоўная кніга, ён значна больш разгорнуты чым гайдэльберскі „Катэхізіс”, азы веры евангелічных рэфармацкіх цэркваў, ці тым больш маленькі першы Лютэраўскі „Кароткі катэхізіс”. Гэта капітальная фундаментальная праца. А самім выданнем, словамі пра мову „славенскую”, ён сфармуляваў і падкрэсліў сваю пазіцыю пра важнасць Святога Слова на сваёй мове для народа. Яго далейшая праца ўжо над польскамоўнымі тэкстамі не пярэчыць папярэдняму, а сведчыць толькі пра яго хрысціянскі пасыл, пра алгарытм, якім ён дзейнічаў – „ідзіце і навучайце ўсе народы”. Мы разумеем, што польская мова ў другой палове шаснаццатага стагоддзя, калі працаваў Будны, была вельмі распаўсюджаная ў шырокім арэале сярод некалькіх народаў будучай канфедэрацыі. Ужо наспявала Рэч Паспалітая, і праз сем гадоў пасля „Катэхізіса” яна ўзнікла. Польскамоўны кантэкст быў паўсюдны ў нас, і зразумела, што асветнік хацеў

агульназразумелай (не для простага люду, канешне, а для эліт) мовай, для чытаючых і мысьлячых, для інтэлектуальнага кола, выдаць Біблію, выдаць каментарыі да Бібліі, тэалагічныя разважанні. Ён пераключаецца да працы з польскамоўным насельніцтвам у Польшчы і разумеючымі польскую мову элітамі ў ВКЛ дзеля вышэйшай мэты. Рэфарматы не сакралізавалі мову, а мелі яе за інструмент для нясення Слова Божага. Гэта ўласціва пратэстанцкай свядомасці ў цэлым і евангелічна-рэфармацкай у прыватнасці. Гэта біблейскія прынцыпы: сама мова не ёсць мэта. У выніку – духоўны і культуралагічны эфект на некалькіх мовах.

Мы ехалі, дыскутавалі, чаму ў Каталіцкім касцёле асабліва сёння ёсць спрыянне беларускай мове, а ў розных пратэстанцкіх цэрквах значна менш. А таму, што пратэстанцкія цэрквы можа не так ідэалістычна, а больш прагматычна ставяцца да мовы і разумеюць, што апублікаваўшы кніжкі па-расейску яны сёння (на вялікі жаль гэта аб'ектыўна) знойдуць значна больш чытачоў, а ідэі Рэфармацыі, ідэі рэфармацкага багаслоўя знойдуць большую аўдыторыю. Я хачу прывесці прыклад: вось у нас у Мінску ёсць выдавецтва „Евангелле і рэфармацыя" якраз нашай евангелічна-рэфармацкай канфесіі. Яно выдае фундаментальныя кнігі, выдатнейшых багасловаў і гісторыкаў царквы заходнеяўрапейскіх, выдадзеных найперш па-ангельску, яны выдаюцца ў большасці па-расейску, на жаль. Але гэта што, прадукт расейскай культуры? Не! Гэта прадукт Евангелічнай Рэфармацкай царквы, выкананне ёю сваіх абавязкаў – „ідзеце і навучайце ўсе народы". І ў гэтым сэнсе яны не пярэчаць, яны не супадаюць, гэта розныя ракурсы. Але гэта беларускае выдавецтва, гэта беларускія кнігі. Таксама ў Польшчы, калі нешта робіцца па-польску беларусамі тутэйшымі, гэта не значыць, што гэта толькі польскае, гэта польскамоўная літаратура.

*Ірына* Дубянецкая:

Можна, я на гэта адкажу? Гэта зусім іншая рэч ад той, пра якую я казала, пра шматмоўнасць Вялікага Княства і чатырохмоўнасць першае БССР. Гэта абсалютна іншая рэч, таму што ў вялікакняжскай і бээсэсэраўскай шматмоўнасці, была адна асноўная, „тытульная", ці як цяпер кажуць, „мэйнстрымавая" мова, мова большасці народа і тытульная мова дзяржавы. І менавіта гэтая мова была гэткай дзяржаўнаю „лінгва франка", мовай зносінаў паміж носьбітамі іншых традыцый. Гэта адметнасць, уласцівасць вельмі развітай духоўнай традыцыі Беларусі старажытнай. Што адбываецца цяпер – роўна

наадварот. Гэта ідзе на хвалі разбеларушвання Беларусі і на падмене паняццяў. Гэта зусім не праява шматмоўнасці, калі друкуюцца вельмі важныя рэчы ў Беларусі не па-беларуску. Вельмі добра, каб яны друкаваліся, хай яны друкуюцца на любой мове, калі гэтыя рэчы, ці аналагічныя ім рэчы таксама ёсць па-беларуску. У сучаснай Беларусі беларуская мова – не гледзячы на аптымізм, які я папярэдне выказала, што яе маўляў не раз хавалі, але ніколі не пахаваюць, бо гэта не тое, што можа памерці, – у рэальнай небяспецы. Гэта мова, якую, зноў такі палітычнаю воляю, выцясняюць з публічнага ўжытку. Гэта мова, якая выцесненая з адукацыі, і яна знаходзіцца пад пагрозай. Вось памерці яна не памрэ, але каб мове паўнацэнна жыць, на мове павінны пісацца дысертацыі, на мове павінны пісацца тэксты для ўсіх сфераў чалавечай дзейнасці, на мове павінны размаўляць дзеці ў дзіцячых садочках, на мове павінны прызнавацца ў каханні, сварыцца, лаяцца, спяваць, мова жыве паўсюль, ва ўсіх абсалютна слаях жыцця, думання, мыслення. Пытанне выхавання дзяцей па-беларуску. Паспрабуйце выхаваць дзіцёнка па-беларуску ў Беларусі – гэта сапраўды гераічныя высілкі. Калі ў дзіцёнка няма памкненняў гуманітарных, а зацікаўленні фізічныя, астранамічныя, хімічныя, біялагічныя ці інжынерныя? Паспрабуйце знайсці дзіцячыя кніжкі пра планеты, прыгожа выдадзеныя, сучасна, па-беларуску, гэтага проста няма. І таму нельга казаць, што калі расейская друкаваная кніжная прадукцыя запаланіла абсалютна ўсю беларускую кніжную прастору, дык гэта нейкая праява шматмоўя. Якраз такі ў Беларусі шматмоўныя людзі – гэта носьбіты беларускай мовы.

*Аляксей* Фралоў:

Я цалкам згодны. Даруйце, я проста ў апраўданне рэдактара выдавецтва хачу сказаць, што гэтыя грунтоўныя багаслоўскія кнігі маюць вельмі вузкае кола чытачоў апрыёры. А зрабіць пераклад і выдаць такі каласальны фаліянт дзеля ста чалавек проста немагчыма. Яны арыентаваны на вялікі абшар, на аўдыторыю, геаграфія якой нават шырэй чым вядомая „адна шостая частка сушы”.

*Ірына* Дубянецкая:

Ёсць такое паняцце як індывідуум, і гэта, можа, самае важнае паняцце. Нічога няма важнейшага за чалавека, за чалавечае жыццё і за адносіны паміж чалавекам і Богам. Але ёсць яшчэ такое паняцце як краіны, ёсць такое паняцце

як народы. І вот, калі яно не ўлічваецца, і мы апраўдваем ігнараванне краіны і народа наяўнасцю індывідуумаў, то мы дзесьці робім цывілізацыйны крок назад, а не наперад. Тое, што вы самі раней казалі пра каталіцкую царкву, паглядзіце, які яна і іншыя цэрквы робіць цывілізацыйны выбар. Адкладзем на хвілінку працу царквы ў духоўным сэнсе, і глянем на культурны сэнс. Каталіцкая царква, прыняўшы беларускую мову за сваю асноўную мову, апроч іншага, адыгрывае нацыятворчую, культуратворчую ролю. І гэта адбіваецца на яе святарах, якія ладзяць фэсты беларускай музыкі, мастацкія пленэры, збіраюць этнаграфічныя музеі і гэтак далей, а гэта, у сваю чаргу, фармуе і жыццё навокал іх. А што робіць Руская праваслаўная царква для беларускай ідэнтычнасці? Яна робіць часам разбуральныя рэчы для культуры. І гэта балюча. Пара прыкладаў з маіх вандровак. Праязджаем адно мястэчка, каля праваслаўнай царквы дошка аб'яваў, на гэтай дошцы вісіць аб'ява, дзе вялікімі літарамі напісана: Молодежь Росии, вы должны это знать. Мне робіцца цікава, што беларуская моладзь Расеі павінна знаць, мусіць там нешта такое рускаміравае. Не, там штосьці супраць алкагалізму, наркаманіі, проста, маўляў, вы, тутэйшая, „маладзёж Расеі", вы „далжны знаць", што не трэба быць наркаманамі ці алкаголікамі. Ці можна такое пабачыць на дошцы аб'яваў царквы любой іншай канфесіі ў Беларусі? Не. У Мазыры ў адным з вельмі прыгожых барочных касцёлаў была турма НКВД. Там жа тройка засядала, там жа на нарах трымалі зняволеных, там жа іх расстрэльвалі і там жа ў крыпту іх скідалі. Гэта абсалютна жудасная гісторыя. І зусім нядаўна, ужо ў дваццаць першым стагоддзі, гэты будынак аддалі праваслаўным. Праваслаўныя святары пачалі гэтую крыпту разграбаць, вымаць шкілеты, прастрэленыя, зразумела, што некаторыя з іх паміралі не дастрэленымі, пад грудамі цел. Святары пахавалі парэшткі (нажаль, на розных могілках Мазыра), зрабілі шкляную труну, куды паклалі некалькі прастрэленых чарапоў, і штотыдня па панядзелках у гэтай крыпце служаць за нявінна ўбіенных. Адзін святар, які сам разграбаў тую жахлівую купу костак, падводзіць нас да абраза расейскіх новамучаннікаў і вельмі шчыра, вельмі пранікнёна гаворыць: „Гэта святая Русь, бо яна паліта кроўю новамучанікаў". І мае на ўвазе кроў тых, чые целы ён вымаў. І тут жа паказвае на цэнтр абраза: „Вось гасудар імператар, гасударыня імператрыца, нашы расейскія новамучаннікі..." Гэта поўнае змяшэнне, ён гаворыць абсалютна шчыра, няма ў яго ніякіх ідэяў далучаць Беларусь да Расеі. Бо для яго яна і так там, само сабой зразумела. Гэта на ўзроўні адукацыі, досведу, разумення свету. Ён верыць у тое, што гаворыць. І апошні

прыклад, найгоршы. Старэйшыя людзі, якія ездзілі з Польшчы ці Літвы ў Беларусь, праз Беларусь у Расею, ды любым маршрутам з захаду на ўсход ці наадварот, асабліва, калі не было межаў, маглі лёгка арыентавацца, у якой краіне знаходзяцца, па культавай архітэктуры. Бо культавыя пабудовы заўсёды адметныя для кожнай культуры. Яшчэ больш адметная, відаць, крыжы на іх. У нас людзей прывучылі памылкова думаць, што ёсць праваслаўны крыж, ёсць каталіцкі крыж. Гэта яшчэ адна падмена паняццяў. Не бывае крыжоў праваслаўных, каталіцкіх ці пратэстанцкіх. Форма крыжа звязаная з культурнай традыцыяй. Ёсць крыжы рымскія, польскія, расейскія, румынскія, грэцкія. У Беларусі стагоддзямі выпрацоўвалася свая цікавая традыцыя крыжоў, у аснове якой гэтак званыя сонцакрыжы. Такія крыжы стаялі на цэрквах закону рымскага, на цэрквах закону грэцкага, на пратэстанцкіх цэрквах, на мураўёўках, на раздарожжах, на могілках. І культавая архітэктура беларуская, ад пятнаццатага стагоддзя да Другой сусветнай вайны (у Заходняй Беларусі) развівалася ў практычна неперарыўнай традыцыі. Пачатак дваццатага стагоддзя – згадайце фантастычны выбух нэаготыкі, нэабарока ў Беларусі. Дык вось, калі вы гадоў дваццаць таму ехалі па Беларусі, вы бачылі, што гэта Беларусь, бо там беларуская архітэктура і беларускія крыжы. Цяпер, калі вы едзеце праз Беларусь, вы пабачыце нэапсеўдарускія цэрквы з залатымі цыбулінкамі і з укоснымі крыжамі, і вы не зразумееце, што гэта не Расея. Укосныя крыжы, яшчэ раз кажу, гэта не праваслаўныя, а рускія, адаптаваныя рускай культурай, і яны не лепшыя і не горшыя за беларускія, але яны не беларускія. Нашыя сонцакрыжы цешылі вока мастацкай шматстайнасцю, яны былі розныя, артыстычныя, не толькі кожны крыж быў індывідуальным, але і кожная мясцовасць мела свае асаблівасці. Яны стаялі на ўсіх старых беларускіх цэрквах, у тым ліку тых, што былі ўніяцкімі, а потым сталі праваслаўнымі, і на новых праваслаўных цэрквах ставілі сонцакрыжы. Цяпер вы іх рэдка ўбачыце, іх спрэс замяняюць на рускія. Культурны ландшафт краіны змяніўся. І ўздоўж дарог вы бачыце гэтую „святую Русь", пра якую казаў той мазырскі святар. Я не ведаю, ці робіцца ўсё гэта свядома, ці не, няма сэнсу пра гэта гаварыць, але гэткі выгляд цэркваў таксама нясе культуратворчую функцыю. Толькі гэта ўжо абсалютна іншая візія Беларусі, іншае разуменне Беларусі, упісванне яе ў іншы цывілізацыйны кантэкст. І такое не робіцца стыхійна. А чаму гэта так? – гэта пытанне да ўсіх, таму што ў мяне ніякіх адказаў на яго няма. Я проста на гэта гляджу, і мне балюча. І многім балюча. І краіне балюча. Сапраўднае пытанне, што

адбываецца і чаму яно так адбываецца, і што з гэтым можна зрабіць, і ці можна з гэтым што рабіць наогул.

*а. Георгій* Рой:

Я па-першае прашу прабачэння, я вельмі так узрушаны вось апошнімі вашымі словамі. Лічыце, што я прадстаўнік вось гэтай разбуральнай Рускай праваслаўнай царквы. І што я хачу сказаць? Па-першае, першая тэза, не трэба шукаць ворагаў, шукайце саюзнікаў. Вы глядзіце на сітуацыю маёй Царквы звонку, а я яе назіраю ў рэальным жыцці. І менавіта ў гэтым рэальным жыцці гэтай Царквы я прыйшоў да беларушчыны. І, канешне, калі мы разважаем там над нейкімі культурнымі кантэкстамі, то мы можам так спакойна і адэкватна гаварыць, чаму ўзнікаюць нейкія ўмовы, калі наш народ прымае тыя ці іншыя культурныя ўплывы. Дык я вам скажу, што ёсць зразумела ў кожнай канфесіі, у кожнай культурнай групе ёсць людзі, якія фанатычна настроеныя, якія прымаюць крайнія погляды. Але, ведаеце, тыя працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, Царква менавіта складаецца з тых людзей. І што рабіць, гэта тое пытанне якое ставіце вы, якое стаўлю я. Таму, хоць мне беларуская мова не родная, і беларуская культура можа мне не родная, але я беларус, я выгадаваны беларускай зямлёй і беларускай культурай. Я стаўлю пытанне: што рабіць? І я нешта ў сваёй канкрэтнай дзейнасці раблю для таго, каб Беларусь была беларускай, каб там гучала і развівалася, і ўкаранялася нашая мова. Я ведаю, што так думаюць і многія іншыя і святары, і людзі. І што вось такіх свядомых, там нейкіх людзей, якія ставяцца адназначна варожа да беларускай культуры, ну я іх ведаю некалькі чалавек, але гэта так, як у любой іншай сацыяльнай групе. І вось я як блогер, як святар актыўна ўдзельнічаю ў грамадскай дыскусіі адносна гэтых пытанняў. І тое, што я чую тут, гэта ізноў вось тая самая балючая, самая такая пякучая тэма. Ведаеце, што я заўважыў за апошнія можа некалькі месяцаў? Вось я, беларускамоўны святар, вядзём нейкія дыскуссіі ў інтэрнеце і я раз за разам чую набор стэрыятыпаў, складанне вобраза ворага. Я пытаюся, чаму так здараецца? Прабачце, я скончу.

*Міхась* Андрасюк:

Айцец Георгій, я мушу скарыстацца правам мадэратара, у нас яшчэ адзін дыскусійны панэль будзе і менавіта якраз гэтыя пытанні...

*а. Георгій* Рой:

Мы вернемся да гэтага пытання, прабачце, я вось толькі скончу. Я пра што

хачу сказаць. Паважаныя мае суразмоўцы, мы можам адносіцца да розных канфесій, мы можам адносіцца да розных культурных, палітычных, якіх заўгодна пазіцый, але давайце не будзем шукаць ворагаў, давайце не будзем ствараць вобраз ворага там, дзе яго ствараць не трэба. Калі мы будзем весці дыскусію ў гэтым кірунку, паверце, што нічога добрага з нашай Беларусі не атрымаецца.

*Ірына* Дубянецкая:

Абсалютна згода, і я на гэта мушу адказаць усё ж такі два словы. Я з вамі згодная, што важна шукаць саюзнікаў на ўсіх узроўнях. І я спадзяюся знайсці саюзнікаў сярод праваслаўных святароў, і маё балючае пытанне найперш адрасуецца праваслаўным святарам. Гэта ж наша агульная краіна. Пакуль вы гаварылі, мне падумалася, што адказ на пытанне, што рабіць, палягае ў адукацыі. Тлумачыць, расказваць, паказваць, чытаць, даследаваць розныя традыцыі, і гэта будзе весці да агульнага разумення, што нас лучыць і хто мы такія, і які наш супольны шлях.

*Міхась* Андрасюк:

Спадарыня Ірына, я прапаную, каб гэтую палеміку яшчэ можа пакінуць на заканчэнне ўвогуле нашай сённяшняй дыскусіі, там будзе якраз час, каб адказаць на такія пытанні. Сустракаемся праз гадзіну.





# XVII ТРЫЯЛОГ
## Сімпазіён
## „Ці Бог не разумее па-беларуску?”
## 27 жніўня 2016 г.
## Каўказская сінагога ў Крынках

## частка III
## РЭЛІГІЯ

*Міхась* Андрасюк:

Вітаю ўсіх пасля абеда. Мы тут з новымі сіламі, з новай энергіяй. У нас новыя госці: Сяргей Сурыновіч – паэт, празаік, публіцыст, мастак, святар рымска-каталіцкага абраду, Георгій Рой – настаяцель Свята-Пакроўскага сабора ў Гародні і архімандрыт Гаўрыіл – заснавальнік і апякун скіта Святых Антонія і Феадосія Кіева-Пячэрскіх у Адрынках.

Адмыслова для сёлетніх Трыялогаў Кастусь Бандарук падрыхтаваў тэкст, з якога я хачу прывесці такія радкі: „Ці Бог не разумее па-беларуску? У гэтым пытанні, пастаўленым у загаловак артыкула, наш славуты беластоцкі пісьменнік Сакрат Яновіч змясціў папрок на адрас не Бога, але людзей. Тых людзей, якія беларускую мову, нібыта простую, сялянскую, не лічаць годнай стаць сакральнай мовай.” Менавіта, як прадстаўнікі Царквы і Касцёла, ці адчуваеце сябе адрасатамі гэтых слоў? Можа напачатак айцец Георгій.

*а. Георгій* Рой:

Вялікі дзякуй за запрашэнне. Вельмі цікавая дыскусія ў рамках нашага Трыялогу. Што тычыцца беларускай мовы, буду казаць за сваю Беларускую

Праваслаўную царкву. Калі генеральна адказаць на пастаўленае тут пытанне, то я ўпэўнены, што Бог не толькі чуе, але і патрабуе ад нас, каб мы захавалі гэтую прыгожую, цудоўную мову. Як святар, як хрысціянін я магу сказаць пра мой асабісты досвед – калі паглыбляешся ў нейкую мову, хочаш на ёй маліцца. Я ўжо казаў, што беларуская мова мне не матчына мова. Я не скажу, што яна мне не родная, яна мне не матчына, не першая. Калі я стаў паглыбляцца ў беларускае асяроддзе сваіх парафіян, калі я стаў паглыбляцца ў тэксты літаратуры, то я адчуў патрэбу маліцца па-беларуску. Калі так здарылася, што мяне прызначылі святаром у старажытную Каложскую царкву, то там таксама абшчына складаецца з людзей, якія жадалі маліцца па-беларуску і мы з бласлаўлення архіепіскапа гарадзенскага Арцемія пачалі служыць штотыднёвую беларускамоўную літургію. Але праблема ў нас, у Беларускай царкве такая, што не было поўнага беларускага тэксту літургіі, то бок былі тэксты, якія гучаць у царкве, якія прамаўляе дыякан ці святар, ці спявае хор, вось яны былі па-беларуску, а малітвы, якія чытае святар, так званыя тайныя малітвы – іх не было. І вось я зрабіў такі крытычны пераклад, параўнаўшы пераклады сваіх папярэднікаў, айца Аляксандра Надсана і айца Сергія Горбіка (гэта святар, які зараз служыць у Кіеўскім патрыярхаце). Цяпер я служу ў саборы і сумую без беларускай мовы. Чацвёртага верасня, у Дзень беларускага пісьменства ў гарадзенскім кафедральным саборы адбудзецца літургія на беларускай мове.

*Міхась* Андрасюк:

Ведаем, што ў Каталіцкім касцёле беларуская мова даўно ўжо прысутная, хаця не так даўно чытаў я крытычныя выказванні айца Пётры Рудкоўскага, які звяртаў увагу на залежнасць тэрытарыяльную, што на Гарадзеншчыне ў Каталіцкім касцёле над беларускай мовай значна дамінуе польская. У іншых рэгіёнах Беларусі – беларуская.

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

На Гарадзеншчыне яна і дамінавала з даўніх часоў, таму гэта нікога не дзівіць. Гаворачы пра любую Царкву, ці то каталіцкую, ці ўсходнюю, трэба сабе ўсведамляць, што гэта іерархічная ўстанова. Там пануе тэакратыя. Святар, які рыхтуецца ўвайсці ў Царкву праз сваё пакліканне, усведамляе, што ідзе туды служыць Богу, але паслухмяна супрацоўнічаючы з канкрэтным біскупам. Біскуп з'яўляецца тым, які распараджаецца на сваёй тэрыторыі і ад

яго асобы залежыць практычна ўсё. Напэўна тыя ўмовы на Гарадзеншчыне сведчаць мясцоваму біскупу, там цяпер Кашкевіч, што трэба захоўваць польскую мову. Гэта распараджэнне біскупа і яно не зменіцца. Хаця пэўныя змены, трансфармацыя адбываюцца. Біскуп Кашкевіч 20 жніўня прыехаў на тую тэрыторыю, дзе я зараз знаходжуся – на Браслаўшчыну – адслужыў у санктуарыі беларускую службу і сказаў казань на беларускай мове. Беларуская мова патроху ўвакрочвае на Гарадзеншчыну. Я думаю, што перспектыва Касцёла на Гарадзеншчыне ўсё-такі за беларускай мовай.

На Віцебшчыне, дзе я знаходжуся, зусім іншая сітуацыя. Біскуп Буткевіч цалкам беларускамоўны. Калі едзе на візітацыі, слухае або народныя спевы, або нават *NRM* у сваё машыне. Я зараз канешне ўтрырую, жартую. Тым не менш, вядома, што гэта арыенцір для святароў, бліжэйшых супрацоўнікаў біскупа. Знаходзячыся ў Царкве, мы свядомыя, што цалкам залежым ад біскупа, ад яго бачання Царквы на тэрыторыі, якая яму паверанаяя. Гэтая тэндэнцыя звязаная ў першую чаргу з іерархамі, што яны хочуць. У Каталіцкай царкве звязана таксама з тым, што гэтая Царква прысутная на ўсіх кантынентах, у большасці краінаў свету. „Каталіцкая", гэта значыць таксама адкрытая на рознасці, у тым ліку і культурныя, і моўныя. Усведамляючы гэта, дзе я знаходжуся, – хаця па хросту я праваслаўны, тым не менш лёс пакіраваў мяне так, што стаў каталіцкім святаром, – ведаю, што ў мяне ёсць магчымасці рэалізоўвацца для свайго народа, для сваёй мовы і для сваёй краіны. Гэта мне Каталіцкая царква дазваляе і падтрымлівае. Таму ў нас трошку лепшыя ўмовы, звязаныя з асобамі біскупаў, звязаныя з тым, што я святар Каталіцкай царквы, дзе такі панятак як інкультурызацыя існуе не толькі на паперы, але практычна рэалізуецца. Гэта дае магчымасці многім каталіцкім святарам быць беларусамі і зрабіць, каб беларуская мова дамінавала ў Каталіцкім касцёле.

*Міхась* Андрасюк:

Вялікі дзякуй. Айцец Гаўрыіл, у нас тут падляшскія рэаліі, свая рэчаіснасць. Каталіцкі касцёл на Беласточчыне, нават там, дзе засталіся яшчэ этнічныя беларусы-каталікі, працуе на польскай мове. Але можа больш увагі ў гэтым месцы адвядзем нашай Праваслаўнай царкве ў Польшчы. Яна аўтакефальная, тым не менш такое ўражанне, што асноўнай мовай у Праваслаўнай царкве на Беласточчыне з'яўляецца расейская. Нават не старацаркоўнаславянская.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Я жыву на балотах у Андрынках, на скіту, на пустэльні і гаварыць магу толькі за сябе. Значыць так, я знаю, што продкі Кірыла і Мяфодзія, каторыя прынеслі славянскую мову паходзілі з полацкіх балот, з Беларусі сённяшняй. Яны паехалі за хлебам, так як граждане нашага гасударства Польшчы едуць ха хлебам у Англію, Ірландыю, Галандыю, Немцы і прочыя.

*Міхась* Андрасюк:

У гэтым плане як быццам нічога не змянілася.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Так. Іх дзеці радзілі Кірыла і Мяфодзія, каторыя закончылі свае студыі ў Афінскай акадэміі. Па просьбе князя Расціслава з магутнага Вялікамараўскага княства, што б прыслалі прапаведнікаў слова Божага, тадышні патрыярх Канстантынопаля блаславіў ім выехаць, Кірылу і Мяфодзію. І яны прынеслі гэтую мову. Мову, у каторай многа слоў з беларускага языка, таксама сённяшняга. Гэта вельмі важнае. Так што мы ў сябе ў хаце. Я падрыхтаваў такі тэкст, вельмі для мяне важны: *Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў і хацеў, каб народ кожны мовай роднай гаварыў.* Вяртаюся да пытання, ці мы гаворым па-беларуску. У мяне ў царкве два разы ў месяц пропаведзь па-беларуску чытаецца або гаворыцца. Калі спатыкаюся з жыхарамі, якія жывуць возле Адрынок, то па-беларуску. Калі прыязджаюць беларусы з Рэспублікі Беларусь, тожа гавару на беларускай мове. Толькі хачу зазначыць, што яны вельмі любяць „Белую галерэю" ў Беластоку – ім там трэба царкву пастроіць. Следушчэ, мы рыхтуемся да свята 500-годдзя скіта ў Адрынках. Гэта недалёка ад гэтага месца. Калі землі нашай польскай страны належалі да Вялікага Княства Літоўскага, то польскія каралі, князі, польская магнатэрыя ўсе дакументы пісалі на старабеларускай мове. І вось мы гатовімся да юбілею, у нас ужо ёсць абеліск, на каторым піша: „У 7526 годзе (значыць 2018) ад стварэння свету была ўстаноўлена гэтая мемарыяльная дошка ў памяць 500-годдзя з'яўлення ў гэтым месцы іконы святога Антонія Пячэрскага князю Івану Міхайлавічу Вішнявецкаму ў 7026 (1526). Дошка гэтая была ўстаноўлена верай і воляй спадара Сяргея Мартынюка і яго жонкі Ніны. Слава нашаму Богу ў Тройцы адзінаму. Амін." Ахвярадаўца не хацеў, каб было напісана, што гэта ад яго, але мы напісалі, вось на старабеларускай мове. Так што ўсё ў нас нармальна. У каго як там ёсць – не знаю, у нас – усё нармальна. Гэта залежыць

ад патрэбнасці. Айцец Канстанцін Бандарук і другія пачотныя госці гэтага спаткання знаюць, што не ўсюды можаш прадстаўляцца, таму што людзі не панімаюць. А дзе маеш магчымасць гаварыць па-свойму, калі людзі цябе панімаюць, гавары па-свойму, вось так. Свой свайго заўсёды будзе панімаць. А да другіх мусіш гаварыць такою моваю, якую яны панімаюць. Гэта вельмі важна, каб быць адкрытым чалавекам. Ксёндз казаў, што можна літургію служыць, калі біскуп згодзіцца. У нас такая самая працэдура, еслі епіскап блаславіць служыць па-беларуску, будзе па-беларуску. Трэба знаць сваё меса ў Царкве, тады будзе і кананічны парадак, і парадак з тваёй совесцю ў галаве. А калі не так будзеш пастaупаць, то будзеш мэнчыцца і другія з табой будуць мэнчыцца. Каб не мэнчыцца, то там дзе Бог табе даў жыць, так і старайся жыць. Гэта вельмі важна. Вось колькі Бог палажыў на сэрца, я і стараўся сказаць. Дзякую за ўвагу.

*Міхась* Андрасюк:

У выказванні айца Сяргея і ў вашым прагучала нешта сумеснае. Гэта воля біскупа. А воля вернікаў? Калі вярнуцца ў далёкую гісторыю, дык мовай Каталіцкага касцёла была лаціна і ў Польшчы шляхта дабілася, насуперак біскупам, каб Касцёл пачаў размаўляць на польскай мове. Ці ёсць воля вернікаў у Беларусі, каб у святынях, праваслаўных і каталіцкіх, было больш беларускай мовы?

*а. Георгій* Рой:

Я лічу, што святар павінен быць настаўнікам і ісці не ззаду сваёй паствы, а наперадзе. Трэба сказаць як яно ёсць, што гэта агульны фон культурнага жыцця нашага беларускага народа, што беларусы не надта хочуць і размаўляць па-беларуску, і вучыцца па-беларуску, і маліцца. Увогуле не любяць маліцца, таму і не падабаецца беларуская малітва. Але святар на тое і святар, каб даваць прыклад. Я лічу, што гэта праблема нашай Беларускай праваслаўнай царквы, што мы, святары, рэдка даем такі прылад. Тут нам ёсць над чым працаваць і ёсць куды развівацца. Са свайго досведу я скажу так, што калі паўстала пытанне беларускай службы ў Каложы, то канешне нашы людзі, прывычныя маліцца па-царкоўнаславянску і мы павінны памятаць пра генетычную роднасць беларускай мовы з царкоўнаславянскай – тая ж „Біблія” Францыска Скарыны павязаная з царкоўнаславянсай – канешне былі такія разважанні, як мы, што мы? Але мы праявілі ініцыятыву і пачалі служыць. Потым людзі

ўжо не звярталі ўвагі, на якой мове ідзе служба, царкоўнаславянскай ці беларускай, аднолькава прыходзілі. Было некалькі чалавек, якія прынцыпіяльна хадзілі толькі на царкоўнаславянскую службу, а ў асноўным царкоўная абшчына ўспрыняла гэта спакойна і цяпер у Каложы няма ніякай розніцы для людзей, аднолькава моляцца і на той, і на той мове. Але прыклад, ініцыятыва павінна быць.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Я хацеў бы тут увайсці ў слова, якое сказаў мой прадмоўца і сказаць, што імя Скарыны – Георгій, а Францыск гэта імя, якое атрымаў ад цэха.

*Міхась* Андрасюк:

Калі ўжо пра такія цікавінкі, то варта ўзгадаць, што Скарына, які вучыўся ў Кракаве, ехаў туды праз Крынкі, дзе мы зараз знаходзімся.

*Уладзімір* Арлоў:

Наконт імя Скарыны, ужо шмат гадоў таму даказана рознымі даследнікамі, што Георгій, гэта вынік памылкі, дзе *egrigius* лацінскае было памылкова запісана перапісчыкам як *georgius*. І гэта ўжо аксіёма, над якой не трэба нават дыскутаваць. А названы ён быў у гонар Францішка Асізскага, бо выхоўваўся ў францысканаў полацкіх.

*Міхась* Андрасюк:

Уладзімір Арлоў вельмі шчыльна займаецца беларускай гісторыяй і адтуль яго рыпоста. А ці дзяржава не павінна сумесна з касцёламі падштурхоўваць беларускую мову да першай шарэнгі, каб яна была дзяржаўнай мовай нацыі? Думаю, што тут можна і крануць справу раздзелу Касцёла і дзяржавы, Царквы і дзяржавы. Увогуле, ці Касцёл і Царква аглядаюцца на дзяржаву, на тое якой мовай карыстаюцца чыноўнікі, які прыклад дае дзяржава? На якой мове размаўляюць міністры, на якой мове ў рэшце рэшт размаўляе прэзідэнт? Ці гэта для Касцёла мае значэнне?

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Не мае ніякага значэння, на якой мове размаўляе прэзідэнт, міністры. Мае значэнне, для каго я служу, адкуль я ўзяты і да каго пасланы. Гэта біблійная

цытата: „Узяты з людзей і пасланы да людзей”. Калі я ўзяты з гэтых людзей і пасланы да гэтых людзей, то адбітак гэтага грамадства, яго хваробаў будзе ад часткі і на мне. Наколькі гэтая хвароба будзе вылячальная, залежыць у маім канкрэтным выпадку ад тых спрыяльных умоваў, што я знаходжуся ў Каталіцкай царкве. Што ў мяне ёсць магчымасць вярнуцца да сваіх каранёў, да матчынай мовы. Але з другога боку, усе хваробы Царквы, ад часткі хвароба мовы, гэта таксама хваробы грамадства. Мы ўзятыя з людзей і да гэтых людзей пасланыя. Вядома, што там дзе з'яўляецца беларуская мова і што яна зноў узнікла ў Касцёле, гэта таксама заслуга асобаў. Нам, каталікам у Беларусі, вельмі пашанцавала, бо ў нас беларускамоўныя біскупы. Нават такая тэндэнцыя, што калі святар не беларускамоўны, то ў яго няма шанцаў зрабіць кар'еру ў Касцёле. Прабачце, я зноў жа жартую, але гэта ад часткі так. Тым не менш, гэта залежыць ад асобаў. Мы памятаем пачатак XX стагоддзя, мы памятаем тых асобаў, якія звярнуліся да беларускасці ў Каталіцкі касцёле. Мы памятаем імя ксяндза Ільдэфонса Бобіча, які першым звярнуўся да перакладу Бібліі. Тры яго сшыткі з перакладамі евангельскіх тэкстаў, якія выдала „Крыніца” ўпершыню ў новым часе. Мы памятаем іншых святароў, як хаця б Адама Станкевіча, які тое самае паўтарыў за Ільдэфонсам Бобічам. Потым Гадлеўскі, Татарыновіч, потым апантаны беларускай мовай у Касцёле Чарняўскі, які пераклаў урэшце ўсю Біблію. Нам было крыху цяжэй у пачатку 2000-ых гадоў, калі ў Гродна адчынілася духоўная семінарыя, у якую прыходзілі хлопцы з усёй Беларусі. Я быў адчыслены ў тыя часы з гэтай семінарыі за мову і прабеларускія погляды. Трэба было мне накіравацца ў Санкт Пецярбург, таму што мяне на Гарадзеншчыне лічылі і дагэтуль лічаць беларускім нацыяналістам, хаця мае карані адтуль, бо я родам з Навагрудка. Мне трэба было стаць святаром у Санкт Пецярбургу і адпрацаваць колькі гадоў на Урале. Служыў армянам, немцам, літоўцам у Калінінградзе на літоўскай мове. Дарога дадому, да сваіх прынцыпаў, да сваіх поглядаў – адкуль узяты, куды пасланы – была вельмі доўгай. Ідэалізаваць нічога не трэба. Ёсць усюды праблемы, але трэба звярнуць увагу на асобы. Тое, што цяпер у Касцёле беларуская мова, гэта заслуга не аднаго дзясятка маладых кандыдатаў да святарства, рэзультат стойкасці, вынік прынцыпаў, наступствы таго, што мы ўсведамлялі сябе беларусамі, што Касцёл можа даць магчымасць, каб у ім гэтая мова была. Вядома, што і сёння ёсць небяспекі ў Каталіцкім касцёле, што сёння зрусіфікаванае пакаленне накіроўваецца ў духоўныя семінарыі, прыходзіць да людзей і хоча

размаўляць на рускай мове. Гэта для нас праблема. Мы плацілі доўгім шляхам да нашага беларускага Касцёла ў XX-XXI стагоддзях. З'яўляюцца новыя, якія павінны нас заступіць і яны звяртаюцца да паствы на рускай мове. Мова, гэта вынік прынцыпаў, вынік змагання і гэта асобы, якія тую мову нясуць, уздзейнічаюць на парафію, на людзей, на грамадства, на што заўгодна. Разумеецца, што не так проста і ў прыходзе, каб была гэтая мова. Людзям звычайна патрэбна што? Камфорт. У наш час людзям патрэбны супермаркет, патрэбныя добрыя ўмовы. Ніхто не хоча напружвацца і вывучваць тыя самыя малітвы, калі яны вывучаныя на польскай мове ў дзяцінстве. Трэба шукаць падыходу для святара, які глядзіць у будучыню. Святар, які ўсведамляе сябе беларусам, прыналежным да гэтай зямлі, святар, які павучае шанаваць сваіх продкаў і глядзіць на мову як на Божы дар, які трэба захаваць, за які я нясу адказнасць, павінен знайсці метады як тую мову прышчапіць. Калі чалавек ідзе да лекара, то не заўсёды яму ўсё падабаецца, тыя ўколы, ён можа і не разлічвае на нейкі боль, каб быць здаровым. Чакаць свядомасці, што прыйдзе да цябе ўся парафія і скажа, мы хочам маліцца па-беларуску, гэта не той шлях. Святар таксама павінен расказаць пра тыя дары, якія Бог дае. Дар мовы таксама.

*Міхась* Андрасюк:

Вяртаючыся да майго пытання, ці беларусізацыя дзяржаўных структур паспрыяла б беларусізацыі Царквы? Ёсць жа такія меркаванні, шмат хто так лічыць. Мне па шчырасці таксама здаецца, што паспрыяла б. Хочаце сказаць, што гэта міф?

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Мне падаецца, што так.

*а. Георгій* Рой:

Я пагаджуся з айцом Сяргеем, што гэта міф, што дзяржава вырашыць усе нашыя праблемы. Мне здаецца, гэта ідэалагічныя наступствы яшчэ савецкага часу, што ўсё вырашае дзяржава. Усё вырашаем мы.

*Міхась* Андрасюк:

Можа не вырашае, а паспрыяе.

*а. Георгій* Рой:

Гэта так канешне можна тэарэтычна развеважаць. І дай Бог, каб так было. Сёння ўжо адзначалася, што і дзяржава робіць пэўныя крокі, але не дзяржава вырашае пытанне мовы ў Царкве. Гэта тое, што спее ў самім народзе Божым і не дзяржаўнае гэта пытанне.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Можа цяпер я падзялюся сваімі рэфлексіямі. У палітыцы няма сентыментаў, там хто трымае ў сваіх руках уладу, той жондзіць і накрэслівае пэўныя кірункі. Еслі ў прыходзе ёсць магчымасць служыць на беларускай мове, калі ласка, трэба зрабіць спіс людзей жалаюць сабе, каб было на беларускай мове і ўлада духоўная з епіскапскам сане дасць адказ. Хачу сказаць, што тры лет чакаў візу на Беларусь і цяпер атрымаў на паўроку. Тры лет чакаў на ўезд на Белую Русь, хаця жыву ад яе сем кіламетраў. На тэрыторыі дрэўняй Беларусі.

*Міхась* Андрасюк:

Такім чынам мы ўваходзім на больш слізкую тэрыторыю, тым не менш нам яе не абмінуць – раздзел царквы і дзяржавы. Тут скарыстаюся меркаваннямі згаданага ўжо Пётры Рудкоўскага, які кажа: „Прынцып раздзелу царквы і дзяржавы, гэта вельмі расплывісты прынцып, які дапускае мноства розных інтэрпрэтацыяў. Гэтая расплывістасць спараджае шэраг канфліктных сітуацыяў, тыпу, ці навучанне рэлігіі ў школах, гэта парушэнне гэтага прынцыпу, ці не. Ці прынцып парушыўся б у выніку выступу царкоўных іерархаў у абарону правоў чалавека, ці не?” Гэта, нагадаю, пытанні айца Пётры Рудкоўскага. „Ці прысутнасць патрыяршага экзарха Філарэта і беларускіх каталіцкіх біскупаў на інаўгурацыі прэзідэнта, абранага ў выніку відавочных фальсіфікацыяў, гэта палітычны акт, ці не?” Як з гэтым раздзелам царквы і дзяржавы?

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Даваць маральныя адзнакі таму, да чаго мы не маем доступу, скажам, да тых падлікаў галасавання, вельмі складана. Пагэтаму прысутнасць біскупаў на інаўгурацыі прэзідэнта, гэта прысутнасць сярод таго народа, які таго прэзідэнта абраў. Якім шляхам быў гэты прэзідэнт абраны, – я яшчэ раз паўтаруся, – мы не можам даць гэтаму адзнаку, бо Касцёл не лічыць галасоў. Іншае пытанне, я яго перыфразую, чаму гэты народ і гэтая краіна дае

магчымасць, калі былі напрыклад фальсіфікацыі, прысутнасці біскупаў на інаўгурацыі прэзідэнта, які выбраны неўласцівым шляхам? Чаму гэты народ не змагаецца за тое каб Касцёл ці Царква былі прысутныя на інаўгурацыі годна выбранага прэзідэнта? Тут усё падвойнае.

*а. Георгій* Рой:

Маё меркаванне, што трэба прытрымлівацца прынцыпу катэгарычнага няўдзелу ў палітыцы. Калі ўзгадаць часы Госпада Ісуса Хрыста, якая была складаная палітычная сітуацыя, колькі было партый, якая была вострa палеміка ў габрэйскім народзе і ўсе партыі хацелі б мець на сваім баку такога аўтарытэтнага прапаведніка, якім быў Госпад Ісус Хрыстос. Але мы бачым прыклад няўдзелу ў палітыцы і тое, што ён абраў крыж і не пайшоў у фарватары жаданняў нейкіх сілаў, гэта мне здаецца прыклад. Мы па-першае грамадзяне Царства нябеснага. Што патрэбна нам рабіць як грамадзянам Царства Божага, гэта заўсёды нагадваць пра праўду Божую і гэтай праўды прытрымлівацца. І ўдзел, і няўдзел іерархаў, гэта палітычны крок. Дзе палітыкі больш, ва ўдзеле, ці ў няўдзеле, гэта пытанне.

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Я цалкам згодны, што ў палітыцы Царкве і Касцёлу не месца, але заданне Касцёла гаварыць праўду. І гаварыць праўду, што ёсць фальсіфікацыі, калі гэта даказана, ці лепш гаварыць пра сумленне, гэта адказнасць перад нацыяй, перад Богам. Я думаю, што гэта таксама заданне Касцёла. Заданне Касцёла гаварыць, што было сказана ў тых жа Мёрах падчас рэферэндум, калі была змененая дзяржаўная сімволіка, што пад гэтымі сцягамі нішчылі і зачынялі касцёлы, пад гэтымі сцягамі, пад гэтым гербам вывозілі ў Сібір вашых святароў, якія павінны былі вам служыць, расстрэльвалі вернікаў, якія сведчылі пра сваю веру. Я думаю, што гэта нармальная рэч пра гэта нагадаць. Нармальна нагадаць пра мову.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Калі ласка, дазвольце мне таксама выказацца на гэтую тэму. Калі будзе наступная такая асамблея, запрасіце епіскапаў і прэзідэнтаў і паслухайце, што яны вам скажуць. Амін.

*Міхась* Андрасюк:

Калі б было гэта так проста атрымаць адказ з першакрыніцы. Тым не менш, дыстанцыя ад дзяржавы, гэта на маю думку самападман, бо палітычны нейтралітэт, гэта ілюзія. Займаючы нейтральную пазіцыю падтрымліваем тое, што існуе. Нехта некалі ў гісторыі сказаў: маўчанне – знак згоды. Канешне, мы не маем крыніцаў, каб казаць пра выбарчыя бюлетэні, але бачым няўзброеным вокам, калі парушаюцца правы чалавека. Ці не павінна быць у такіх выпадках рэакцыі царквы, бо хто тады аўтарытэт у такіх выпадках, калі не царква?

*а. Георгій* Рой:

Зноў вяртаемся да Евангелля. Калі мы чытаем Евангелле, ці бачым мы хоць недзе, каб Хрыстос рабіў нейкі палітычны выказванні? Не. А гэта быў вулкан палітычных жарсцей на той час. Мы бачым, што сярод яго вучняў ёсць і рэвалюцыянеры, ёсць і фарысеі, ёсць і здраднікі гэтаму народу, як тыя самыя мытары. Хрысціянства, мне падаецца, палягае ўсё-такі ў іншым. Патрабаванне палітычных адзнак, нейкіх палітычных рашэнняў Царквы, мне здаецца, гэта не па адрасу. Гэта здрада прыродзе Царквы, калі царкоўныя людзі – ці іерархі, ці святары – пачынаюць займацца палітыкай. Мне здаецца, гэта памылка.

*Міхась* Андрасюк:

У Польшчы за першай Салідарнасці і пад час ваеннага становішча (маю на ўвазе 1981 год) Каталіцкі касцёл быў актыўны і заняў адназначную пазіцыю на баку Салідарнасці, а не на баку дзяржавы. Касцёл стаў прыпынішчам для грамадзянскага руху. Першая Салідарнасць, гэта дзесяць мільёнаў і гэта вернікі Касцёла, які стаяў на іх баку.

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Можа я памыляюся, але мне падаецца, што ў Польшчы Касцёл нясе асаблівую адказнасць за саму дзяржаву, таму што Касцёл сфармаваў гэтую дзяржаву. Без Касцёла сучаснай Польшчы не было б. Тое, што вы маеце сёння ў Польшчы, гэта таксама прадукт Каталіцкага касцёла. Магчыма я выказваюся вельмі радыкальна ці скрайна, але гэта маё суб'ектыўнае меркаванне. Беларусь мае зусім іншую гісторыю. Беларусь, гэта тэрыторыя памежжаў і яны праяўляюцца паўсюль. Яны праяўляюцца і ў тым, што Беларусь шмат-

канфесійная, што Беларусь шматмоўная, што ў Беларусі могуць сутыкацца вельмі розныя погляды. Гэта ад часткі прецыруецца на саму ментальнасць беларусаў. Беларусь, гэта краіна, дзе трэба будаваць масты. Праз гэты памежны стан нават маем некалькі беларускіх моваў, некалькі правапісаў, кожная царква мае сваю лексіку. Наступствы ўсяго гэтага маем сёння. Заданне беларусаў, якія вельмі разнастайныя ў сваіх поглядах, у сваёй канфесійнай прыналежнасці, нават у сваіх беларускіх мовах – будаваць масты. Мы павінны будаваць масты.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Я таксама хачу выказацца на гэтую тэму. Што касаецца нашай страны Польшчы, то сто лет да афіцыйнага хрысціянства (прынятага ў 966 годзе) прыйшло да нас хрысціянства васточнае з Вялікай Маравіі і Грэцыі цераз Балгарыю. Калі сёння ў Польшчы большасць вернікаў рымакатолікі, то большая адказнасць на іх ляжыць. А мы за іх плячамі таксама можам нешта сваё сказаць. Хто мацнейшы, ідзёт на первый бой, а мы ўжо канешне, на ўтарой, як праваслаўныя, якія яўляюцца меншынством у Польшчы. Што касаецца Беларусі, то пропаведзь Андрэя Первазванага і яго паследнікаў, якія прынеслі благую весць у беларускую краіну, гэта таксама вельмі важнае. У Беларусі большасць праваслаўных, то канешне Царква ідзе на першы адстрэл. Яна будзе крытыкаваная і прочае, прочае. Таксама як Рымакаталіцкі касцёл у Польшчы. Што касаецца Салідарнасці, то я хачу сказаць сваё. Я пайшоў да *WKU* ў Беластоку (Wojskowa Komenda Uzupełnień – вайсковая камісія) і паслалі мяне ў армію перад ваенныйм палажэннем пад Калбаскова, а гэта гранічны пераход з Германіяй. Падаю дакладны адрас: Шчэцін, вул. Жаўнерска 4. Калі мы прыехалі, што б запісацца як новыя салдаты, стаялі столікі для беларусаў, для ўкраінцаў, для ромаў і кажды падходзіў, як запісаўся ў сваім *WKU*. Так было. На палігоне нас беларусаў, украінцаў, ромаў (значыць, цыганоў) гналі па балоце, а палякі шлі па сушы. І цяпер я не раз сабе думаю, Госпадзі, чаму я на балота прыйшоў? Няўжо палігон свой раньшэ меў у арміі? Вот відзіце, палітыка набрасывает, как должан народ думаць. І што мэдыя скажуць, так і будзе. І шчэ хачу сказаць очань важнае. Калі аднажды давялося мне паехаць у Амерыку, тагда на пропаведзі на беларускай мове гавару ўчастнікам багаслужэння, што ўсе смотрат у Амерыку як у аўтарытэт, а Амерыка смотрыт у тэлевізар як у аўтарытэт. Калі я заехаў у Амерыку, настаяцель таго прыхода, які мяне сустракаў, гаворыць мне

(бі-бі-сі ўжо данесла яму), што Гаўрыіл сказаў так і так. Я канешне прамаўчаў. Наканец, калі я ўязджаў з Амерыкі, сказаў: пацвярджаю, я сказаў тыя слава, што ўсе смотрат у Амерыку як у аўтарытэт, а Амерыка смотрыт у тэлевізар. Так што здзесь нада сахраніць сваю мову, сваю народнасць, свае традыцыі, а зарубежнікі пусць жывут у себя. А нам нада трымацца свайго. Тагда будзет парадак, тагда не будзет насілія, тагда мы будзем імець сваю культуру, захаваем свае традыцыі і беларускасць таксама. Іначэ будзем у плену ў тых, каторыя яўляюцца вялікімі. А мы свабодны народ, па-гэтаму будзем сахраняць сваю нацыянальнасць, сваю народнасць, свае традыцыі, што б ніхто ў наш двор не ўмешваўся. Пусць Амерыка смотрыт у тэлевізар, а мы будзем сматрэць на сваю краіну. Дзякую.

*Міхась* Андрасюк:

Дзякую таксама. Айцец Сяргей сказаў цікавую рэч. Я думаю, што да яе можна вярнуцца, менавіта, што Каталіцкі касцёл у Польшчы адчувае адказнасць за дзяржаву, бо ён яе стварыў. Пытанне да айца Георгія: ці пра расейскую дзяржаву можна сказаць, што яна ў пэўным сэнсе створаная Царквой?

*а. Георгій* Рой:

Ведаеце, не буду я нічога казаць пра расейскую дзяржаву, бо гэта іх гісторыя, іх узаемаадносіны. Што тычыцца Беларускай Праваслаўнай царквы, то канешне, адказнасць вялікая. Не толькі Беларуская Праваслаўная царква, але кожная беларуская лікую адказнасць. Калі так атрымалася, што Беларуская Праваслаўная царква па колькасці прыходаў лічыцца найбольшай, то зразумела і найбольшая адказнасць за краіну, за народ. Будзем адказваць перад Богам і перад людзьмі. Да Божа, каб споўніць тое, што Гасподзь даручыў.

*Міхась* Андрасюк:

Мне здаецца, што гэта не зусім супадае з тым, што мы тут чулі. Нясем адказнасць, а таксама застаемся дзесьці на баку.

*а. Георгій* Рой:

Мы застаемся па-за межамі палітыкі. Я лічу, што палітыка гэта вельмі важная справа ў жыцці дзяржавы, народа, але ёсць мноства іншых, не менш адказных, а можа і больш адказных спраў, якія мы, як грамадзяне, як вернікі, як хрысціяне павінны рабіць. І гэта бяда, яшчэ раз паўтару, гэта бяда, калі

хрысціянская Царква пачынае займацца палітыкай, ці з аднаго, ці з другога боку. Мы павінны быць хрысціянамі, рабіць сваю хрысціянскую справу – аднаўленне чалавечай душы. Мы ідзём да Царства Божага, Уранапалітэна, а тое што тут віры закручваюць народы і людзей, ну мы можам на іх паўплываць, але іншымі сродкамі. У Царквы няма палітычных сродкаў, іх не павінна быць. Калі Царква становіцца палітычным інструментам, гэта бяда. У гісторыі заўсёды так было і так будзе цяпер. У нас іншыя рычагі ўплыву на жыццё, на народы і грамадства і вось тымі рычагамі мы павінны карыстацца.

*Міхась* Андрасюк:

Сыходзім у такім выпадку з палітыкі. Прапаную яшчэ некалькі хвілін пра пэўныя стэрэатыпы. Тое, што ў пэўным сэнсе закранае і мяне як праваслаўнага беларуса, які нарадзіўся ў Польшчы, усё жыццё тут пражыў. Калі сярэднестатыстычны паляк чуе слова „праваслаўе", яму на думку прыходзяць такія асацыяцыі: Расея, царыца Кацярына, падзелы Рэчыпаспалітай і нават парадаксальна, бальшавікі, камуністы, Сталін і ссылка ў Сібір. У маім родным горадзе Гайнаўцы быў такі выпадак, калі гарадскія дэпутаты дыскутавалі аб дзвюхмоўных назовах вуліц, паколькі польскі закон даў такую магчымасць там, дзе меншасць складае дваццаць адсоткаў насельніцтва, устаў адзін з дэпутатаў – каталіцкіх ці правых, няважна – і стаў свой супраціў абгрунтоўваць тым, што ягоных дзядоў-прадзедаў царыца Кацярына вазіла ў Сібір, а Сталін... крацей, усё тое, што я пералічыў. А мы ж размаўлялі нават не пра праваслаўе, не пра Расею, не пра царыцу Кацярыну, а толькі пра дзвюхмоўныя назвы. Атрымліваецца так, што нават кірылічныя літары, беларускі, асацыююцца з праваслаўем, Расеяй, царыцай Кацярынай і з бальшавікамі. Адкуль такія стэрэатыпы, ці можна іх ламаць нейкім чынам?

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Гэта ўнутраны анальфабэтызм. Трэба іх паслаць да школы, каб навучылісь гісторыі. І тагда пазнаюць, якая тут гісторыя была. Таму гавару, што палітыка накідвае з гары сваё мышленне, а з другой стараны, калі ў нас ёсць ахвота, каб павучыцца, пачытаць, то мы канешне дазнаёмся і маем сваё здане, сваё мненіе. Таму вучыцца! У школы над паслаць іх! Калі прыходзіць да мяне окала 500 чалавек дзенне і ставяць такія пытанні, каторыя вы цяпер сказалі

для нас, адкуда мы ўзялісь, што мы возамі з Расеі прывезеныя, я гавару: я рускі, па нацыянальнасці беларус. Па-гэтаму і страдаю, што я беларус. Я рускі, тутэйшы, здзешні, граніцы прасоўваліся, а народ, аўтахтоны жылі на сваіх месцах. Яны прыдумалі сабе, што яны здзешнія, тутэйшыя і праўду сказалі для ўсіх. Калі аднаму старому жыхару блізкага адгэтуль Гарадка адна мадам паставіла пытанне) канешне, яна гаварыла на польскай мове), я з вамі размаўляю ўжо гадзіну, а вы ўсё па-беларуску, на непанятнам языку, а вы ж *obywatel Rzeczypospolitej Polskiej*, ён адказаў: адчапіся ад мяне, я да Польскі не прыйшоў, Польска да мяне прыйшла. Усё.

*Міхась* Андрасюк:

Гэта ў прынцыпе так, вывучаць гісторыю суседзяў абсалютна трэба. Пры чым было б ідэальна, каб палякі вывучалі гісторыю Беларусі, але напісаную беларусамі. Калі б беларусы вывучалі гісторыю Польшчы, напісаную палякамі. Калі б расіяне вывучалі гісторыю Беларусі і ўсіх сваіх суседзяў, напісаную менавіта гэтымі суседзямі. Часта бывае так, што вялікія нацыі, а ўжо крый Божа імперыяльныя, самі пішуць гісторыю сваім суседзям.

*а. Георгій* Рой:

Калі дазволіце, да вашага пытання адносна гэтых літар. Канешне гэтае пытанне з'явілася не сёння і не ўчора. Сёння так цікава распавядалі пра Біблію Францыска Скарыны, выдадзеную на пачатку XVI стагоддзя, але патрэбна было б узгадаць і адну вельмі трагічную дату, калі і гэтая Біблія, і пісьмёны, і літары былі забароненыя. Гэта 1669 год, калі беларуская мова была забароненая ва ўжытку ў Рэчыпаспалітай. Гэта была трагедыя. Здаецца, што там шкодзілі тыя літары, але відаць яны нясуць нейкую нацыянальную адметнасць. Калі хтосьці штосьці забараняе, відаць ёсць пэўны страх ці адчуванне пагрозы ад той культуры, якую няусць тыя літары.

*Міхась* Андрасюк:

Калі я добра зразумеў, вы мелі на ўвазе канфлікт праваслаўе – унія.

*а. Георгій* Рой:

Не, унія таксама прытрымлівалася кірылічнай пісьменнасці. Гэта былі наступствы здрады нашай нацыянальнай эліты. Патрэбна прама казаць, што магнатэрыя, буйная шляхта здраджвала сваёй культуры, роднай мове,

рускай, як яе тады называлі і сталася так (гэтая тэма ўжо сёння гучала), што польская мова, культура была моднай, а беларуская сталася другараднай. І зразумелы вынік, калі тое лепшае, то давайце адмовімся ад свайго і будзем карыстацца тым, што ёсць больш моднае. Што тычыцца канфлікту праваслаўе – унія і пытання, што застаецца нацыянальнай рэлігіяй, я б адказаў так, што кожная канфесія нацыянальная. Ці можам сказаць, што рымакаталікі ці пратэстанты не нацыянальныя? Сама пастаноўка пытання крыху дзіўная і мне незразумелая. Калі пачынаюць прадстаўнікі розных канфесіі вышукоўваць, што ў цябе там нацыянальнага, а што антынацыянальнага, то гэта шкодзіць той справе, пра якую казаў айцец Сяргей – будаваць масты. Трэба будаваць масты і мы ўсе павінны быць у гэтым саюзнікамі.

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Я хачу сказаць пра масты: духоўныя, культурныя і міжнацыянальныя. Па тым пазнаюць, што ты ад Хрыста, калі імееш любоў жа другога чалавека. Але хачу сказаць яшчэ пра што другое, адносна розных культур. Аднаго старца – праведніка духоўнага, азаронага святым духам – з Пскова-Пячэрскага манастыра нядаўна спрасілі, як нада сахраняць культуру. І ён адказвае: калі Расея ўлюбілася ў французскую культуру, Гасподзь Бог ісцаліў расейскі народ – паслаў ім Напалеона з арміей. Калі яны вазлюбілі нямецкую культуру, Гасподзь Бог паслаў ім немца Гітлера і яго брыгаду. Калі яны вазлюбілі амерыканскую культуру, Гасподзь пасылае ім у балтыйскіх краях, каторыя прыналежалі Савецкаму Саюзу і аддзяліліся – амерыканцаў. І асачылі канешна Рускую Федэрацыю. Гасподзь так ісцаляе – гэта слава старца, не мае. Я нават не яго вучанік.

*голас з залы:*

...паслаў Пуціна!

*архімандрыт Гаўрыіл*:

Што касаецца Пуціна, гэта маё мненіе, пусць Расея радуецца, што мае такога начальніка. А Беларусь пусць радуецца, што мае такога начальніка!

*Міхась* Андрасюк:

Я спадзяюся, што ўсе ўважна слухалі выказванні і меркаванні нашых гасцей і можам даць голас, каб вы маглі з намі падыскутаваць.

*Кастусь* БАНДАРУК:

Дзякуй, Міхась. Я слухаў з самага пачатку гэтую дыскусію, спярша літаратура, культура, але мы як быццам забылі пра адну істотную рэч. Калі трыццаць пяць гадоў таму Сакрат Яновіч пісаў па-польску ў бюлетэні Салідарнасці артыкул „Czy Pan Bóg rozumie po białorusku", ён сапраўды накіраваў гэты папрок да людзей, да Царквы, што яна ў недастатковай ступені ўводзіць беларускую мову. Гэта было трыццаць пяць гадоў таму. Ён не мог ведаць, што Каталіцкі касцёл у Беларусі адродзіцца пасля 1991 года, што там беларуская мова стане дамінуючай. Ён не мог змірыцца з тым фактам, што ў праваслаўных храмах не чуе ні трохі беларуска мовы, а добра ведаў, што гэтыя людзі – уключна з ім самім – не прыехалі з Аляскі. Яны заўсёды тут жылі, на Падляшшы і яны беларусы, ці гэта ўсведамляюць, ці недастаткова ўсведамляюць. Ён быў вельмі гэтым расчараваны. Калі ў 1980-ыя гады, у часы Салідарнасці, да Уладыкі Савы прыйшла дэлегацыя беларускіх актывістаў, яны прасілі, дайце нам, Уладыка, хоць нейкую магчымасць пачуць беларускую мову ў царкве. Уладыка Сава даў – у царкве Марыі Магдаліны пачалі служыць Святую Літургію з элементамі беларускай мовы. Я там служыў сваёю сціплай асобай. Там былі Апостал, Евангелле, казань па-беларуску. Аказалася, што акрамя гэтай невялікай групы актывістаў царква не запоўнілася вернікамі. Значыць, гэтая просьба не надта была абгрунтаваная. Гэтыя людзі праўдападобна не ведалі, чаго хацелі, бо калі б пачаць па-беларуску служыць ва ўсіх храмах, то няўжо гэтыя храмы запоўняцца? Так, што часам трэба вінаваціць і саміх людзей, а не толькі іерархію, што яна не дае магчымасці. Калі ёсць попыт, тады будзе і прапанаванне. Калі сапраўды вялікая група людзей пажадае, каб поўнасцю службу служыць па-беларуску, то я маю такі цудоўны службоўнік, выдадзены ў Таронта ў Канадзе, паводле якога я служыў у Чыкага. Гэтыя тэксты гучаць знакаміта. Тое, што я пісаў ва ўводным тэксце, гэта абсалютна праўда. Нашыя выхадцы з Беласточчыны, якія паехалі туды на зарабаткі, пачалі валам валіць у тую царкву ў Чыкага, дзе раней было пятнаццаць-дваццаць старых эмігрантаў. І раптам усе заяўляюць: "а я ўсё разумею, гэта лепей, чымсьці ў нас недзе ў Орлі ці ў іншых парафіях". Аказваецца, іхная беларускасць была не цалкам усвядомленая. Яны там адчулі сябе як рыба ў вадзе . Аказваецца, што можна, толькі трэба спярша прапанаваць, трэба спярша дамагацца ад царкоўнай іерархіі, бо Царква і каталіцкая, і праваслаўная, гэта іерархічная структура. Не дэмакратычная – пра гэта не можа быць і гаворкі. Мы

непатрэбна павялі размову ў бок палітыкі, бо сапраўды, Царква на афіцыйным узроўні ў палітыку не ўмешваецца, але палітыка ўмешваецца ў Царкву. І мы ад гэтага не ўцячэм. У кожным разе я хацеў сказаць, што нашая асноўная бяда ў тым, што няма жадання з боку людзей сапраўды захаваць мову продкаў. Людзі перасяляюцца ў Беласток і становяцца праваслаўнымі палякамі. Калі б я заявіў, што я праваслаўны паляк, мае бацькі ў магіле перавярнуліся б. Яны сказалі б, што ты, здурэў!? Ты не ведаеш, адкуль ты? А хто твае дзяды? Можа ты ведаеш і дзесяць моў, але твая першая мова – беларуская. Значыць і ты беларус. Так што вялікая віна таксама на баку нашых людзей, якія недастаткова ўсведамляюць каштоўнасць роднай культуры і мовы і з гэтае прычыны гіерархі не маюць абавязку ані падставы навязваць беларускую мову нам, калі людзі хочуць па-польску. Цяпер у некалькіх цэрквах чуем польскую мову, а беларускую вельмі мала. Дык калі ласка скажыце, чыя віна? Я калі служу, прапаведваю як гэтага патрабуюць людзі. Пераважна стараюся прапіхнуць беларускую мову і ўсе ўсё разумеюць, кажуць, што цудоўна і на заканчэнне багаслужбы дзякуюць. Можа нават не заўважылі, што гэта на нейкай іншай мове, але ўсё зразумела і ўсе задаволены. Значыць, са свайго боку, дзе магу, там уплішчваю беларускую мову. І не пытаюся архірэя. Калі дасць мне па вушах, тады адмоўлюся, але гэта будзе яго віна, а не мая, праўда?

*Уладзімір* Арлоў:

Калі айцец Георгій гаварыў пра забарону беларускай мовы і кірыліцы, ён відаць меў на ўвазе пастановы Варшаўскага сойму 1696 года, які па сутнасці забараніў беларускую мову як дзяржаўную на абшарах Вялікага Княства Літоўскага ў дзяржаўных і судовых установах. Гэтая пастанова адбылоася роўна сто гадоў пасля Берасцейскай уніі царкоўнай. У мяне такая думка кволіцца, што можа быць дзейнасць ордэна базыльянаў і Уніяцкай царквы, у якой паланізатары бачылі небяспеку для сваёй дзейнасці, прычынілася да гэтай пастановы.

*Мікола* Ваўранюк:

Я хацеў бы аднесціся да айца Кастуся Бандарука. Маеце абсалютную рацыю, што калі народ будзе патрабаваць, то пэўна святары і іерархі не пойдуць супраць народу. Але ёсць праблема і крыху на іншым узроўні: няма ніякай зычлівасці з боку іерархаў, няма ніякай падтрымкі. А часам прыходзіць да

такіх кур'ёзных падзей, як хаця б у Рыбалах, дзе вы служылі апошнім часам. Памёр айцец Рыгор Сасна, які ўсё жыццё служыў і Богу, і людзям, мясцоваму народу і беларускай культуры – сваімі кнігамі і душпастырскай дзейнасцю. Ці сапраўды іерарх, які прыехаў на паховіны, не ведаў, якога чалавека хаваюць? Ці сапраўды епіскап павінен быў выступаць там па-польску? Гэта як быццам перакрэсліла ўсю тую цяжкую работу, цяжкі шлях бацюшкі. Так я гэта ўспрыняў.

*Кастусь* Бандарук:

Гэта праўда.

*а. Георгій* Рой:

Я пад час сённяшняй дыскусіі пачуў шмат пытанняў, вострых і справядлівых, якія былі пастаўленыя да Беларускай Праваслаўнай царквы. Канешне, адказаць на іх зараз вельмі цяжка, нават немагчыма. Я што хацеў бы сказаць. Становішча маё, як беларускага праваслаўнага, беларускамоўнага святара і маіх братоў, якія ў такой самай сітуацыі знаходзяцца не вельмі простае. Што я асабіста адчуваю, якую галоўную праблему? Адсутнасць спакойнага дыялогу, уважлівага паміж святарствам беларускім праваслаўным і нашай беларускамоўнай інтэлігенцыяй. Вельмі хацелася б, каб мы ўсё ж такі знайшлі нейкую агульную глебу, агульную пляцоўку для дыялогу. Мы паспрабавалі ўсё ж такі намацаць галоўныя кропкі для ўзаемадзеяння. На пачатку гэтага года у рамках працы Біблійнай камісіі БПЦ была ідэя арганізаваць сустрэчу праваслаўных святароў, якія служаць па беларуску для агульнага абмеркавання літургічнай тэрміналогіі. Зразумела, што пытанні якія стаяць перад намі не абмяжоўваюцца толькі пытаннем беларускамоўнай тэрміналогіі. Нам патрэбная пляцоўка для абмену думкамі. Можа дасць Бог, будзе такая магчымасць і тады будзем шукаць суразмоўцаў і разам спрабаваць усведамляць, у якой сітуацыі мы знаходзімся. Гэта першае. Другое, гэта можа не самая лепшая адметнасць нашага беларускага народа, але я непакоюся, што любім мы пасварыцца, абвінавачваць адзін аднаго, а тут трэба – яшчэ раз працытую айца Сяргея – масты, масты, масты. Без гэтага ніяк.

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Я таксама дадам. Вось, ці разумее Бог па-беларуску? Бог гаворыць гэтым словам, пачынаючы ад Францыска Скарыны, ад 1517 года, калі Бог прамовіў

да беларусаў „Кнігай псалмоў" з Прагі далёкай. Астатняе выданне, гэта „Псалтыр" айца Аляксандра Надсана. Ён да канца жыцця перакладаў „Кнігу псалмоў", каб Бог надалей гаварыў да беларусаў па-беларуску. У гэтым выданні я выступіў як рэдактар. Я чую розныя тытулы ў мой адрас, але тое, што я займаюся біблістыкай, з'яўляюся дактарантам біблістыкі, гэта не гучыць. Не важна, тым не меш, я займаўся рэдагаваннем гэтага выдання, яно ўбачыла свет, дзякуй Богу. Я думаю, што ў хуткім часе свет пабачыць „Новы запавет" у Праваслаўнай царкве. Ужо кніга „Апакаліпсіс" амаль што скончана, так? Ну, дзевятнаццаты раздзел, да дваццаць першага вельмі мала застаецца. У Рымакаталіцкай царкве таксама вядзецца пераклад, „Новы запавет" таксама хутка выйдзе. Па-гэтаму Бог не толькі разумее па-беларуску, Ён увесь час гаворыць, гаворыць, гаворыць. Я спадзяюся таксама, што праект спадарыні Ірыны, які яна распачала – запаліла Беларусь увагай да біблістыкі, за дзесяць гадоў распаліла зацікаўленне беларускай Бібліяй – таксама прынясе карысць.

*Ірына* Дубянецкая:

Гэта ж і ваш праект.

*кс. Сяргей* Сурыновіч:

Гэта не так і важна, што я там знаходжуся, я сціплы чалавек. Важна, каб праект прынёс карысць.

*Ірына* Дубянецкая:

Дзякуй, айцец Сяргей, вы так нечакана пра гэта расказалі. Я хацела крыху пра іншае, вярнуцца да Скарыны. Вось тут казалі, што Скарына змясціў свой партрэт у Бібліі. Ён рабіў шмат незвычайных рэчаў. Саму традыцыю друкавання прасунуў наперад, падзяліў тэкст на абзацы, увёў нумарацыю старонак, тое да яго не рабілі. Але ён зрабіў яшчэ адну рэч, якую і пасля яго не рабілі. Мы з вамі ведаем, калі быў надрукаваны „Псалтыр", калі пачалося беларускае кнігадрукаванне, кал пачалася беларуская Біблія. Мы ўжо сёння шмат разоў казалі: 1517 год. Але гэта не проста 1517 год, а 6 жніўня 1517 года. На кнігах дату выдання не пісалі да Скарыны і не пішуць пасля Скарыны. Скарына паставіў дату. Вядома, што гэтым ён зрабіў пасланне ўсяму свету, і ўвесь тагачасны свет гэтае пасланне зразумеў. У нашым часе беларусам гэта зразумець цяжка, бо мы на розных календарах сядзім. Няхай усходнія хрысціяне, якія карыстаюцца Юльянскім календаром, згадаюць, што такое

6 жніўня – гэта Перамяненне Госпада Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста, па-славянску Праабражэнне. Гэта адна з дзвюх галоўных датаў царкоўнага календара – Богаяўленне 6 студзеня і Перамяненне 6 жніўня. Можа ён надрукаваў гэта 5 або 15 жніўня, але дата была вельмі важнай, бо гэтай датаю ён заявіў Перамяненне. Ён заявіў трансфармацыю, ён заявіў, што ад гэтага часу святло слова Божага, святло адукацыі будзе на ягонай зямлі. Мы гэтую дату 6 жніўня можам прыняць як пачатак станаўлення беларускай свядомасці. На завяршэнне хачу сказаць, што Скарынавае Перамяненне не адбылося імгнення. Але тое, пра што мы сёння гутарым, што робіцца цяпер цягам пэўнага часу, гэта таксама працяг таго Перамянення. Ці Перамяненне падзея, ці працэс – невядома, але ці адбудзецца наогул гэтае Перамяненне, залежыць таксама ад нас. Таму добра, што згадваем тыя масты. Я хачу шчыра падзякаваць арганізатарам за такое цудоўнае вядзенне, за цярплівасць, за ўсё, што тут адбылося і ўсім, хто браў удзел у дыскусіі. У мяне ёсць такое цьмянае спадзяванне, што можа нейкае Перамяненне адбылося і можа яно будзе мець працяг.

*Міхась* Андрасюк:

Такім чынам мы прыйшлі да завяршэння дыскусійнай часткі Трыялогу. Але не ўсё было б поўнае, каб я не працытаваў яшчэ адну справу. Сакрат Яновіч заклікаў нас сёння сюды сваім пытаннем. Tomasz Danilecki, IPN Białystok „Białorusini i pierwsza Solidarność": *Z inicjatywy białoruskiego pisarza Sokrata Janowicza na łamach 17 nr. „Biuletynu Informacyjnego" białostockiej Solidarności 24 marca 1981 roku pojawił się artykuł „Czy Pan Bóg nie rozumie po białorusku". Jego radykalizm, w tekście został poruszony problem używania języków narodowych w liturgii, autor domagał się między innymi odprawiania nabożeństw w cerkwiach i kościołach w takim języku, w jakim mówią parafianie, nie mógł być zaakceptowany przez kierownictwo białostockiej Solidarności. Rubryka białoruska została zlikwidowana, a redaktor naczelny pisma Tadeusz Masłowiecki otrzymał ostrą reprymendę i został wkrótce odwołany.* Чаму я гэта працытаваў. Таму, што не ўсё такое простае, наадварот – вельмі складанае. Але Сакрат Яновіч не раз, не два і не тры паўтараў: *Białoruś, to nie jest sprawa dla mięczaków!*

*Кастусь* Бандарук:

Дазвольце, што я на канец зачытаю малітву, каб мы пачулі як яна гучыць: *Уладару неба й зямлі, Спрадвечны Божа! Ты ўвесь сьвет стварыў Духам*

*Сьвятым усё прасьвятляеш, ажыўляеш і мацуеш. А людзкі род гэтак палюбіў, што Свайго Сына адзінароднага на зямлю паслаў, каб усе, што ўвераць у Яго, сталі дзяцьмі Тваймі, удзельнікамі Твайго нябеснага валадарства. Мы, дзеці Беларускага Народу, у шчырай пакоры просім Цябе, Божа: выбач нам сьвядомыя і несьвядомыя правіны. Госпадзе, збаў нас ад усялякіх напасьцяў варожых, пашлі нам еднасьць, згоду і паразуменьне. Умацуй, Госпадзе, Сьвятым Духам Тваім зьняволеных братоў і сёстраў нашых – працай абцяжараных, і тых, хто ў турмах пакутуе. Дабраславі, Божа, сьвятарства нашае, працу сялянства, работнікаў, настаўнікаў, пісьменьнікаў і вучоных, каб наш народ мог разумна й добра жыць і Цябе, Айца нашага нябеснага, увесь час славіць. Асьвяці наш розум Сваім евангельскім сьвятлом, каб мы, бы анёлы нябесныя, заўсёды былі з Табою. Пашлі Беларускаму Народу слугаў Сваіх, якія пабожным жыцьцём і дзейнасьцю вялі б наш народ да лепшае долі. Пашлі нам, Госпадзе, ласку Тваю, каб мы сталіся народам сьвятым і сваё пасланства выканалі, і Табе, спрадвечнаму Ўладару й Богу нашаму, у Сьвятой Тройцы адзінаму: вернасьць, падзяку, любоў і славу аддавалі: Богу Айцу, Богу Сыну, і Богу Духу Сьвятому, цяпер, і на ўвесь час, і на векі вякоў. Амін.* („Малітва за Беларусь” на заканчэньне багаслужбы: з праваслаўнага службоўніка Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Таронта, 1980 г.)





# Мастацтва

## „Сплятанне"

12 хв. 21 сек., 2006/2016

Відэа „Сплятанне" прадстаўляе павольны працэс сплятання Бабуляй касы маёй маладзейшай сястры.

Запіс карціны быў зроблены некалькі гадоў таму. Я вярнулася да яго зараз калі мяне папрасілі паказаць яго падчас XVII Трыялогу ў Крынках.

Я моцна звязаная з жанчынамі ў маёй сям'і. І хаця намагаюся жыць сваім жыццём, ад гэтых сувязяў ніяк не ўцячы.

Назіраю за дзеяннямі блізкіх мне асоб. Шматкроць паўтораныя, будзённыя і на першы погляд – банальныя, яны становяццанейкім рытуалам. Гэта час прысвечаны толькі на гэтае дзеянне. Дотык, паўторнасць рухаў, велічная цішыня.

Валасы – як сімвал свабоды, бунту і незалежнасці. Сімвал існавання. Валасы як ахова. Ізаляцыя. Носьбіт тоеснасці. Мне падалося цікавым паказаць дзеянне над імі: амаль інтымнае, асабістае.

Аднак у кожнага з гледачоў можа быць сваё ўражанне, знаёмай сітуацыі, штодзённай, так бы сказаць – звычайнай.

Гэта мяне моцна інтрыгуе. На колькі будзёншчына, што незаўважна прамінае – выключная. Паўтаральная, але выключная.

Відэазапіс – бязгучны, што толькі ўзмацняеяго парадакументальны характар. Відэа паказваецца ў выглядзе пятлі каса заплятаецца зноў і зноў. Не маючы пачатку ні канца дзеянне існуе як быццам у падвешаным стане.

Мае відэапрацы можна ўспрымаць як „фатаграфію якая дыхае". У сэнсе вобразаў там няшмат адбываецца. Запісваю нешта, што мне падаецца цікавым, што можа неўзабаве перастане існаваць альбо зменіцца: чыйсьці позірк, дзеянне. Неаднойчы спавальняю рух у працэсе апрацоўкі запісу, каб яшчэ мацней падкрэсліць крохкасць гэтых злоўленых, асобных хвілін.

Мяркую, што праца атрымала дадатковую моц, бо паказаная ў інтэр'еры Каўказскай сінагогі яна набыла сакральную значнасць.

*Марта* Марыянская (Польшча)
(нар. 1984 г. у Беластоку) – скончыла Мултымэдыйную Акадэмію Мастацтваў у Познані. У 2011 г. атрымала стыпендыю прэзідэнта Беластоку „Маладыя творцы". Ад 2010 г. настаўніца фатаграфіі і кіно ў Мастацкім Ліцэі ў Супраслі. Яе некаторыя выставы: „Delayed but on time" (Галерэя Rekursja, Познань 2014), „Rzeczy i ludzie" (Галерэя Arsenał, Беласток 2013), „Zapach kobiety" (Галерэя імя Следзінскіх, Беласток 2012), „Włosy. Więzy" (Галерэя Arsenał, Беласток 2011), „Spójnia" (BWA, Зялёная Гара 2011), „Osiem Dni Tygodnia" (Галерэя 13muz, Шчэцін 2011), „Protoplazma" (Галерэя Arsenał, Беласток 2010), „Girl Power!" (Галерэя Arsenał, Białystok 2010).

# Sztuka

## „Splatanie"

12 min. 21sec., 2006/2016
Wideo „Splatanie" przedstawia powolny proces zaplatania warkoczyka mojej młodszej siostrze przez Babcię.
Zapis obrazu pochodzi sprzed kilku lat. Wróciłam do niego teraz, gdy zostałam zaproszona do zaprezentowania „Splatania" na XVII Trialogu w Krynkach.
Jestem z kobietami w mojej rodzinie silnie związana i choć próbuję być osobnym bytem, od powiązań tych nie ucieknę.
Obserwuję czynności bliskich mi osób. Wielokrotnie powtarzane, codzienne i na pozór banalne stają się niejako rytuałem. To czas pozostawiony tylko na tę czynność. Dotyk, powtarzalność ruchów, majestatyczna cisza.
Włosy – jako symbol wolności; buntu i niezależności. Symbol trwania. Włosy jako ochrona. Izolacja. Nośnik tożsamości.
Wydało mi się interesujące pokazać czynność dokonywaną na nich; wręcz intymną – prywatną.
Jednak każdy z oglądających może mieć wrażenie – sytuację znajomą, codzienną – można by rzec zwykłą.
To mnie mocno frapuje. Na ile codzienność, która umyka nam każdego dnia jest wyjątkowa. Powtarzalna, ale wyjątkowa.
Zapis jest niemy – wzmacnia się tym samym jego paradokumentalny charakter.

Wideo odtwarzane jest w pętli, warkocz splatany jest wciąż. Nie posiadając początku ani końca trwa w swoistym zawieszeniu.
Moje prace wideo można odbierać jako „oddychającą fotografię" – nie dzieje się w nich za wiele w sferze obrazowej. Rejestruję coś, co wydało mi się ciekawe, coś co może niedługo przestanie istnieć bądź się zmieni; czyjeś spojrzenie, czynność. Nierzadko spowalniam ruch w procesie postprodukcji; po to, by jeszcze silniej podkreślić kruchość tych utrwalonych pojedynczych chwil.
Mam wrażenie, że praca dostała dodatkowej siły, prezentowana bowiem we wnętrzu Synagogi Kaukaskiej nabrała wręcz sakralnej powagi.

*Marta* Mariańska (Polska)

(ur. 1984 r. w Białymstoku) – ukończyła studia na Wydziale Komunikacji Multimedialnej ASP w Poznaniu. W 2011 roku otrzymała stypendium Prezydenta Miasta Białegostoku „Młodzi twórcy". Od 2010. nauczyciel fotografii i filmu w Liceum Plastycznym w Supraślu. Wybrane wystawy: „Delayed but on time", (Galeria Rekursja, Poznań 2014), „Rzeczy i ludzie" (Galeria Arsenał, Białystok 2013), „Zapach kobiety" (Galeria im. Sleńdzińskich, Białystok 2012), „Włosy. Więzy" (Galeria Arsenał, Białystok 2011), „Spójnia" (BWA, Zielona Góra 2011), „Osiem Dni Tygodnia" (Galeria 13muz, Szczecin 2011), „Protoplazma" (Galeria Arsenał, Białystok 2010), „Girl Power!" (Galeria Arsenał, Białystok 2010).

# Фатаграфія

## „Паганства"

Каляды, Стрэчанне, Гуканне вясны, Вербніца, Вялікдзень і Радаўніца, Юр'я, Сёмуха, Купалле, Спас, Зажынкі, Дажынкі, Дзяды. Цяпер мы завём гэта народнымі святамі або абрадамі, апісанне якіх уключана нават у школьныя падручнікі. У раздзелах „Беларускія легенды, міфы і паданні" апісваецца, як нашыя далёкія продкі ўсе з'явішчы прыроды і жыцця тлумачылі існаваннем жывых істот – духаў. Дом, лес і поле мелі свае духі. У доме гаспадарыў дамавік, у лесе – лесавік, у рацэ – русалкі. Маланка – гэта злосны Бог, а зоркі – людскія душы. Людзі пакланяліся пням і камяням, сонцу і грымотам, звярам і птушкам, раслінам і вадаёмам, шанавалі іх, баяліся і прасілі дапамогі.

Іншы раз для больш блізкага знаёмства з традыцыямі ў школах і фальклорных гуртках рэканструююць найбольш яскравыя народны абрады, як рэканструююць рыцарскія турніры аматары сярэднявечнай гісторыі: масленіцу з урачыстым спальваннем саламянага пудзіла альбо калядны абыход групы ражаных калядоўшчыкаў, якія пяюць песні-калядкі, зычачы людзям багатага ўраджаю і просячы за гэта падарункі. Можна таксама захапіцца рамантыкай Купалля, пабываўшы аднойчы на гуляннях у гарадскім парку альбо выехаўшы за горад на карпаратыўную вечарынку ў гэтую самую кароткую ноч у годзе, калі шукаюць папараць-кветку, скачуць праз вогнішча, водзяць карагоды, плятуць вянкі і варожаць. Вось, бадай, і ўсё знаёмства з народнымі святамі, якое чакае гарадскога жыхара сучаснай Беларусі.

Аднак, у адрозненні ад рыцарскай культуры, якая даўно засталася ў мінулым, народныя, альбо паганскія, традыцыі працягваюць існаваць у вёсках, нейкім чынам вытрымаўшы нават семдзесят гадоў камуністычнага атэізму, які перайначыў на свой лад усе сферы паўсядзённага жыцця. Сяляне дагэтуль прыносяць у дом галінкі бярозы і аеру на Сёмуху, не выпускаюць жывёлу на пашу да Юр'я, не ядуць яблыкаў да Спасу, пакідаюць у полі нязжаты сноп, завязваючы каласкі ў „бараду", не ходзяць у лес і не купаюцца ў русальны тыдзень. Варта хоць бы раз сутыкнуцца з гэтай логікай сялянскага мыслення, для якой аказваюцца важнымі шматлікія незвычайныя абмежаванні і правілы, каб зразумець, што школьны матэрыял пра „далёкіх продкаў" перастае быць падобным на народную казку.

Паганства перажыло ўсе сацыяльна-палітычныя рэжымы і захавала галоўнае: асаблівую ўвагу да прыроды і яе шанаванне. Усякі банальны на першы погляд аб'ект, як камень, дрэва, расліна, вянок ці дарога, аказваецца надзеленым сімвалічным значэннем і адушаўляецца: прыносіць удачу, аблягчае пераход у тагасветнае жыццё, вылечвае ад хваробаў, аберагае ад ліха, дае прыгажосць, сурочыць, прадказвае будучыню. Прырода патрабуе шанавання, таму што толькі так магчымае гарманічнае і бесканфліктнае існаванне чалавека ўнутры прыроды. Чалавек сінхранізуе сваё жыццё з натуральнымі прыроднымі цыкламі, акружаючы рытуаламі лімінальныя зоны гэтага руху. І ў гэтай сувязі менавіта адлучэнне чалавека ад прыроды ў сілу канчатковай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі зводзіць у нівошта як значнасць аўтэнтычных народных традыцый, гэтак і колькасць людзей, якія захоўваюць гэтыя традыцыі.

Адпраўляючыся ў падарожжа па беларускіх вёсках, Андрэй Лянкевіч вырашыў сабраць сведчанні аб гэтай усё яшчэ існай у многіх куточках краіны паганскай культуры. У кнігу ўвайшло апісанне дзесяці абрадаў: Жаніцьба

коміна, Каляды, Гуканне вясны, Юр'я, Пахаванне стралы, Куст, Провады русалкі, Купалле, Дажынкі, Перанос свячы, а таксама прадстаўленая цэлая калекцыя свяшчэнных раслін, жывёл і аб'ектаў. Праект нясе яскрава выражаны антрапалагічны характар, што адлюстроўваецца ў спецыфіцы партрэтаў: франтальныя партрэты з цэнтральным месцам фігуры ў натуральных абставінах, стыль, добра вядомы нам па класічных працах Дыяны Арбюс і Аўгуста Зандэра. Такія партрэты заяўляюць аб прысутнасці псіхалагічнага, сацыяльнага і нават самога фізічнага існавання чалавека. І ўсё гэта агулам робіць свет паганскай культуры абсалютна рэальным для нас.

Але ў той самы час праект не абмяжоўваецца ўкладаннем энцыклапедыі матэрыяльнай культуры паганства. Мы становімся сведкамі абрадаў і сэнсаў, не да канца нам зразумелых, а таму і не да канца даступных. Дзякуючы высілкам фатографа, культура паганства прыадкрываецца для нас, але тут жа раптоўна знікае. Сяляне ў святочных строях спакойна пазіруюць перад камерай, але ўжо праз імгненне выходзяць з кадру, знікаюць з поля бачнасці, растварающца ў прыродзе, кінуўшы на гледачоў апошні погляд, загадкавы і невытлумачальны. Нешта адбываецца і з самімі кадрамі: яны засвечваюцца, зацямняюцца, губляюць рэзкасць, раптоўна абрываюцца, пераносяць нас з шумных святкаванняў наўпрост да поля ці ў лясныя гушчары.

Андрэй патрапіў вельмі дакладна перадаць сам характар паганства: ягоная адначасовая прысутнасць і адсутнасць, заўважнасць і скрытнасць, відавочнасць і патаемнасць, літаральнасць і містыцызм. Народныя строі могуць прывабліваць сваёй экзотыкай, але буйныя карды раслінаў і жывёл прымушаюць думаць пра нешта большае, чым экзатычная форма рэчаў. Праглядаючы фатаграфію за фатаграфіяй, паступова пачынаеш даваць веры ў існаванне паралельнага свету, які тонкай плеўкай наслойваецца на звыклае нам асяроддзе. І вось бяроза – гэта ўжо не проста дрэва, але сімвал жаночага пачатку, выпечаны блін – не проста ежа, але сімвал сонца, травінка, якая выглядвае з-пад снегу, – складовы элемент складанага рытуалу.

Пранікненне ў таямніцы народных традыцый і стварэнне незвычайнага, амаль містычнага вобразу беларускай вёскі адрозніваюць Андрэеў праект ад усяго, што рабілася дагэтуль і ў беларускай фатаграфіі, і ў фатаграфіі аб Беларусі. Перад намі не серыя псіхалагічных партрэтаў і не простая дакументацыя быту, перад намі асцярожнае і ўважлівае даследаванне цэлага культурнага пласту пры адмысловым ухіленні ад margin рознага роду палітызацыі, якая стала ўжо тыповай пры асвятленні беларускіх тэм. „Я спрабаваў даць адказ на пытанне, кім мы былі і кім мы ёсць цяпер як беларусы", – кажа Андрэй

Лянкевіч. Гэтае пытанне можа задаць сабе і кожны чытач, які адкрывае кнігу. І, магчыма, уваходжанне ў свет страчаных сэнсаў дапаможа нам запоўніць пустэчы ў разуменні нашай уласнай цяперашчыны.

*Андрэй* Лянкевіч (Беларусь)

(нар. 1982 г. у Гродне) – беларускі фатограф. Мае ступень бакалаўра гуманітарных навук у галіне эканомікі, атрыманую ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У 2004-2005 вучыўся ў Caucasus Media Institute на семінары „World Press Photo" ў Ерэване (Арменія). У якасці адной з частак праграмы некалькі месяцаў жыў і вандраваў з меншасцю езідаў у Арменіі. Ягоны выніковы фотапраект пра жыццё езідаў быў уганараваны прэміяй. У верасні 2007 г. быў запрошаны для ўдзелу ў майстар-класе праекту „Focus on Monferrato" ў Таскане (Італія). У чэрвені 2008 г. браў удзел у праграме, якая падтрымліваецца „French Association Pour l'Instant", у рамках якой працаваў над праектам „Сучасныя інстытуты сям'і". У 2009 г. атрымаў Humanity Photo Awards за працу над праектам, прысвечаным беларускім паганскім традыцыям. У гэтым жа годзе праект увайшоў у 10-ку фіналістаў „Magnum Expression Award". У 2009 г. Андрэй атрымоўвае гран-пры ў Польскім конкурсе фатаграфіі, прысвечаным 170-годдзю фатаграфіі. У 2010 г. перамагае ў фотаконкурсе АБСЕ. У 2011 г. атрымоўвае 6 узнагарод у Belarus Press Photo. У 2010 г. выдае сваю першую кнігу – „Паганства". У 2012 г. удзельнічаў у праекце „Радыюс нуля" як адзін з 15-ці найбольш значных мастакоў Беларусі за 2000-2010 г. Пазней у гэтым годзе праект Андрэя „Бывай, Радзіма" атрымоўвае гран-пры на партфоліа-рэвью „Kaunas Photo Star" у Каўна (Літва). З 2007 г. выкладае курс па фотажурналістыцы ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, беларускім універсітэце ў Вільні (Літва). З 2005 па 2010 г. супрацоўнічае з „European Press Photo Agency" (EPA), у 2007 далучыўся да „Anzenberger agency". У 2008 г. увайшоў у калектыў маладых фатографаў SPUTNIK.

Яго працы выстаўляліся на больш як 60 персанальных і калектыўных выставах у Еўропе, Азіі і ЗША, сярод іх – з праектам „Unknown Country" ў рамках 3-га месяца Еўрапейскай фатаграфіі ў цэнтры культуры і мастацтва „Uferhallen", (Берлін, Германія), з праектам „У яго жаночае імя" у музеі сучаснага мастацтва MUMOK у Вене (Аўстрыя) і музеі сучаснага мастацтва „Zachęta" ў Варшаве (Польшча), браў удзел у Беларускім павільёне Венецыянскай біенале ў Мінску (Беларусь). Таксама працы Андрэя былі паказаны на фестывалі ў Арлі ў 2012 г. У 2013 г. Андрэй ініцыяваў выданне першай у гісторыі Беларусі кнігі пра маладую фатаграфіі „BY NOW", якая выйшла ў нямецкім выдавецтве Kehrer.

У кастрычніку 2014 г. Андрэй ініцыяваў Месяц фатаграфіі ў Мінску, у межах якога на 8-мі пляцоўках прайшло 12 выстаў, 7 лекцый і прэзентацый, мультымедыя-паказы і фотапрэмія.

# Fotografia

# „Pahanstva"

Boże Narodzenie, Nawoływanie wiosny, Niedziela Palmowa, Wielkanoc i „Radaunica", Jerzego (Juryja), Pięćdziesiątnica (Siomucha) „Spas", Zażynki (Podżynki), Dożynki, „Dziady". Obecnie nazywamy je ludowymi świętami lub obrzędami, a ich opis został włączony do podręczników szkolnych. W rozdziałach „Białoruskie legendy, mity i podania" opisuje się – jak nasi dalecy przodkowie, wszystkie zjawiska przyrody i życia tłumaczyli istnieniem żywych istot – duchów. Dom, las i pole miały swoich. W domu panował „domowik", duch zwany także „gospodarzem", „dziadkiem" lub „ojczulkiem". Swego bożka „leśnika" zwanego również „Leszy", „Borowy" lub „Boruta" miał las. W rzece panowały „Rusałki" znane również jako „Topielice", „Utopcy" i „Wodnicy". Błyskawice to gniewny bóg, a gwiazdy – ludzkie dusze. Ludzie oddawali hołd pniom, kamieniom, słońcu i grzmotom, zwierzętom i ptakom, roślinom i zbiornikom wodnym, czcili je, bali się ich i prosili o pomoc.
Niekiedy w celu lepszego poznania tradycji, w szkołach i kółkach folklorystycznych odbywają się rekonstrukcje niektórych obrzędów ludowych na podobieństwo rekonstrukcji średniowiecznych turniejów rycerskich. O okresie „tłustego tygodnia" (Maślenicy) palono słomianą kukłę, w okresie bożonarodzeniowym kolędnicy-przebierańcy odwiedzają domy ze śpiewem kolęd i życzeniami obfitego urodzaju oczekując w zamian od gospodarzy podarunków. Można przeżyć wiele przyjemnych doznań podczas romantycznej nocy świętojańskiej, kiedy szuka się kwiaty paproci, skacze przez ognisko, urządza korowody, splata się wianki i wróży. Dla mieszkańca miasta we współczesnej Białorusi praktycznie do tego ogranicza się znajomość ze świętami ludowymi.
A jednak w odróżnieniu od zapomnianych rycerskich tradycji, ludowe albo pogańskie tradycji nadal zachowują się na wsi pomimo 70-ciu lat komunistycznego ateizmu, które przerobił na swój lad wszystkie sfery życia codziennego. Mieszkańcy wsi nadal w „Zielone świątki" przynoszą do domów gałązki brzozy i tataraku, nie wyganiają

bydła na pastwiska do św. Jerzego (6 maja), nie jedzą jabłek do „Spasa" (19 sierpnia), pozostawiają na polu jeden nieżżęty snop, zawiązując kłosy w „brodę", nie chodzą do lasu i nie kąpią się w tygodniu rusałek, na przełomie wiosny i lata. Warto choćby jeden raz przyjrzeć się tej logice wiejskiego myślenia, dla którego tak ważne są liczne, niezwykłe ograniczenia i normy, aby zrozumieć, że to, o czym uczymy się w szkole, dla naszych przodków nie było baśnią.

Pogaństwo przetrwało wszystkie socjalno-ekonomiczne reżymy i zachowało to, co najważniejsze: niezwykłą atencję i cześć dla przyrody. Każdy, na pozór banalny przedmiot jak kamień, drzewo, roślina, wianek albo droga okazują się mieć symboliczne znaczenie i są uduchowione: przynoszą szczęście, ułatwiają przejście na tamten świat, uzdrawiają, chronią od zła, dają urodę, zaklinają i przepowiadają przyszłość. Przyroda potrzebuje czci, ponieważ tylko wtedy możliwe harmonijne, zgodne istnienie człowieka w obrębie przyrody. Człowiek synchronizuje swe życie z naturalnymi cyklami przyrody otaczając się liminalnymi sferami tego ruchu. Mianowicie w związku z oderwaniem się człowieka od przyrody wskutek industrializacji i urbanizacji, tracą na znaczeniu autentyczne tradycje ludowe i zmniejsza się liczba ludzi chcących zachowywać te tradycje.

Udając się w podróż po białoruskich wsiach Andrej Liankiewicz postanowił zebrać świadectwa jeszcze żywej w tych zakątkach kraju kultury pogańskiej. W książce znalazł się opis 10-ciu obrzędów: ożenek komina, Boże Narodzenie, przywoływanie wiosny, święto Jerzego, pogrzeb strzały, krzak, orszak rusałki, noc Kupały, dożynki, przeniesienie świecy, jak również cała kolekcja świętych roślin, zwierząt i obiektów. Projekt ma jasno podkreślony antropologiczny charakter, co znalazło swój wyraz w specyfice portretów: frontalne portrety z centralnym miejscem postaci w naturalnej scenerii. Jest to styl dobrze znany w klasycznych pracach Diany Arbois i Augusta Zandera. Takie portrety uwypuklają psychologiczny, socjalny status i nawet sam fakt istnienia człowieka. Wszystko to razem wzięte czyni dla nas świat kultury pogańskiej absolutnie realnym.

Jednocześnie projekt nie ogranicza się do encyklopedycznych danych dotyczących kultury materialnej pogaństwa. Widzowie stają się świadkami obrzędów i znaczeń, nie całkiem zrozumiałych, a zatem i nie całkiem dostępnych. Dzięki pracy fotografa kultura pogaństwa częściowo ukazuje się nam, ale zaraz znika. Chłopi w świątecznych strojach spokojnie pozują przed obiektywem, by po chwili wyjść z kadru, zniknąć z pola widzenia, rozpłynąć się w przyrodzie rzucając na widzów ostatnie tajemnicze, zagadkowe spojrzenie. Coś dzieje się także z samymi kadrami: rozbłyskują, potem blakną, tracą ostrość, nagle urywają się, przenoszą nas z gwarnego świętowania wprost na pole albo w leśną gęstwinę.

Andrej zdołał bardzo dokładnie wyrazić sam charakter pogaństwa: jego jednoczesną obecność i nieobecność, zauważalność i skrytość, oczywistość i zagadkowość, dosłowność i mistycyzm. Stroje ludowe mogą pociągać swą egzotyką, ale przybliżone kadry roślin i zwierząt skłaniają ku myśli, że istnieje cos więcej aniżeli egzotyczna forma przedmiotów. Przeglądając zdjęcie za zdjęciem, stopniowo zaczynasz wierzyć w istnienie równoległego świata, który cienką powłoką kładzie się na znajomą nam rzeczywistość. Oto brzoza: to już nie tylko drzewo, ale symbol kobiecego pierwiastka. Wypieczony placek to już nie tylko jedzenie, ale symbol słońca; źdźbło trawy, które wyziera spod śniegu, to element składowy skomplikowanego rytuału.

Przeniknięcie w tajemnice tradycji ludowych i stworzenie niezwykłej, nieomal mistycznej wizji białoruskiej wsi odróżnia projekt Andreja od wszystkiego, co robiło się dotąd w białoruskiej fotografii i w fotografii o Białorusi. Oto przed nami nie seria portretów psychologicznych, niezwyczajna dokumentacja bytu, ale ostrożne i uważne badanie całej kulturowej warstwy bez żadnej polityzacji typowej dla białoruskiej tematyki. „Spróbowałem odpowiedzieć na pytanie: kim byliśmy i kim jesteśmy jako Białorusini" – mówi Andrej Liankiewicz. To pytanie może sobie zadać każdy czytelnik, który otwiera książkę. I, być może, wejście w świat utraconych znaczeń pomoże nam wypełnić luki w rozumieniu naszej własnej teraźniejszości.

*Andrei* LIANKEVICH (BIAŁORUŚ)

(ur. 1981 r. w Grodnie) – białoruski fotograf. Ma stopień bakałarza nauk humanistycznych w dziedzinie ekonomii uzyskany w Białoruskim Uniwersytecie Państwowym. W 2004-2005 r. studiował na Caucasus Media Institute na seminarium „World Press Photo" w Erewaniu (Armenia). W ramach programu przez kilka miesięcy mieszkał i wędrował z mniejszością jazydów w Armenii. Jego końcowy fotoprojekt był uhonorowany premią. We wrześniu 2007 r. był zaproszony do udziału w warsztatach projektu „Focus on Monferrato" w Toscano (Włochy). W czerwcu 2008 r. uczestniczył w programie wspieranym przez „French Association Pour l'Instant", w ramach którego pracował nad projektem „Współczesne instytuty rodziny". W 2009 r. otrzymał Humanity Photo Awards za pracę nad projektem poświęconym białoruskim tradycjom pogańskim. W tymże roku projekt znalazł się w 10. finalistów „Magnum Expression Award". W 2009 r. Andrei otrzymał Grand-Prize w polskim konkursie fotografii. W 2010 r. zwyciężył w konkursie fotograficznym OBWE. W 2011 r. otrzymał 6 nagród w Belarus Press Photo. W 2010 r. wydal swą pierwszą książkę „Pogaństwo". W 2012 r. uczestniczył w projekcie „Promień zera" jako jeden z 15 najlepszych artystów Białorusi w latach 2000-2010. Następnie w tymże roku projekt Andreja „Zegnaj, Ojczyzno" został uhonorowany nagrodą główną na portfolio-review „Kaunas

Photo Star" w Kownie (Litwa) Od 2007 r. wykłada na kursach fotodziennikarstwa w Europejskim Uniwersytecie Humanistycznym w Wilnie (Litwa). W latach 2005-2010 współpracował z „European Press Photo Agency" (EPA), w 2007 dołączył do „Anzenberger agency". W 2008 r. został członkiem kolektywu młodych fotografów SPUTNIK. Jego prace były wystawiane na ponad 60 indywidualnych i zbiorowych wystaw w Europie, Azji, USA m.in. z projektem „Unknown Country" w ramach 3. miesiąca fotografii europejskiej w Centrum kultury i sztuki „Uferhallen", (Berlin, RFN), z projektem „On ma żeńskie imię" w Muzeum sztuki współczesnej „MUMOK w Wiedniu (Austria) i Muzeum sztuki współczesnej „Zachęta" w Warszawie. Uczestniczył w Białoruskim pawilonie Wenecjańskiego Biennale w Mińsku. Prace Andreja były także eksponowane na Festiwalu w Arli w 2012 r. W 2013 r. zainicjował wydanie pierwszej na Białorusi książki o młodej fotografii „BY NOW", która ukazała się w niemieckim wydawnictwie Kehrer. W październiku 2014 r. Andrej był inicjatorem Miesiąca fotografii w Mińsku, w ramach którego w 8 miejscach odbyło się 12 wystaw, 7 referatów i prezentacji, multimedialne pokazy i fotopremiera.





# Музыка

**Re1ikt (Беларусь)**

Па сваёй стылістыцы гурт блізкі да такіх накірункаў, як progressive rock, post rock, art rock, alternative rock і folk rock. Re1ikt крэатыўна выкарыстоўвае незвычайныя гітарныя эфекты, а таксама народныя духавыя і перкусійныя інструменты.

На рахунку Re1ikt-a 5 студыйных альбомаў. „Рэкі прабілі лёд" (2011, бэстсэлер „Vigma", перавыданне ў 2012) і „Клініка" (2009, Go Records) былі афіцыйна выпушчаны на лэйблах. У чарговым альбоме „Лекавыя травы" (2015) можна адшукаць народныя песні з розных куткоў палескага і іншых рэгіёнаў Беларусі, а таксама кампазіцыі, складзеныя ўдзельнікамі каманды паводле твораў класікаў беларускай літаратуры: Альбом паказвае новае гучанне Re1ikt – не толькі лірычнае і атмасфернае, але пазітыўнае і лёгкае. Рэліз „Куфару" (2016) адбыўся роўна праз год пасля выхаду дыска „Лекавыя травы", прызнанага беларускімі экспертамі найлепшым рок-альбомам 2015 г. Як і яго папярэднік, „Лекавыя травы", дыск быў запісаны ў польскай Studio-X. На дыску сабранае ўсё тое каштоўнае, чым могуць ганарыцца беларусы: традыцыя, прырода, культура, перамогі, уменне сябраваць і рабіць добрыя справы талакой.

Гурт грае як электрычныя, так і акустычныя канцэрты. І, у залежнасці ад фармата выступаў, музыка каманды з драйвовай і завадной пераўтвараецца ў паветраную і лірычную. Гурт выступаў на шматлікіх фестывалях ды імпрэзах, сярод якіх Halfway Festival, Басовішча, Camera!ta, Rockowisko, Wschodni Horyzont, Around the rock, WakeUp Bialystok, Бардаўская восень (Польшча), Tautu muge (Літва), Be Free, Respublika, Німі Ночі (Украіна), Камяніца, Дах, Наш Грюнвальд, Metalcrowd, Амбасовішча, Men's Fest, Вольнае Паветра, Рок па вакацыях (Беларусь) і інш.

**Яцашэк (Польшча)**

(нар. 1984 г. у Мрангове) – кампазітар і прадзюсар электраакустычнай музыкі, аўтар музыкі для фільму і тэатру. У 2002 г. пачаў супрацоўніцтва з паэтэсай і спявачкай Мілкай Мальзан запісваючы выдадзеную ў 2004 г. кружэлку „Мапа". У тым жа годзе выпусціў кружэлку „Lo–Fi Stories. Гэта вынік зацікаўлення аўтара эстэтыкай старых, запісаных на вінылявых кружэлках і стужкавых магнітафонах казак для дзяцей. У 2005 г. На польскім і замежным рынку з'явіўся альбом „Sequel" – другі альбом запісаны з Мілкай Мальзан з далікатнымі песнямі заснаваных на моцных, электронных рытмах. У 2006 г. Прыняў удзел у праекце Стэфана Весялоўскага пад назвай „Камплета" які спалучыў тэкст святарскага малітоўніка-брэвярыя выконванай двума вакалістамі ў суправаджэнні смычковага квартэту і электронікі. Пасля 2-гадовай працы ў 2008 г. у нарвэскім выдавецтве Miasmah выпусціў свой новы альбом пад назвай „Трэны" прэм'ера якога адбылася ў 2008 г. Кружэлка на якой электроніка спалучаная са смычковымі інструментамі была ўспрынятая з вялікім зацікаўленнем з боку слухачоў і крытыкаў ва ўсім свеце. Чарговай кружэлкай Яцашка з'яўляецца „Pentral" з 2009 г. – альбом з памежжа абіенту і канкрэтнай музыкі, заснаваны на запісах гукаў у інтэр'ерах гатычных храмаў. У 2011 г. амерыканская музычная камапнія Ghostly International выдала „Glimmer" – альбом, дзе чарговы раз электроніцы спадарожнічае акустычнае гучанне, гэтым разам клавесіна і кларнета ствараючы ў цэлым клімат з памежжа барока і сучаснай музыкі. Альбом становча ацаніў між іншымі партал Pitchfork. Вынікам супрацоўніцтва Яцашка з квартэтам Kwartludium была кружэлка „Catalogue des Arbres" выпушчаная ў 2014 г. Лонданскай фірмай Touch. Гэта сумесь натуральных гукаў, акустычных імправізацый і цытатаў з кампазіцый Oliviera Messiaena.

У 2015 г. Яцашэк пачаў супрацоўніцтва з Томашам Будзыньскім (Армія, Сякера) і Мікалаем Тжаскам (Łoskot, Cukunft, Ircha). Трыо ўзяло назву Rimbaud, а вынікам працы гурта была кружэлка „Rimbaud" – музычны адказ на празорлівыя творы французскага паэта Артура Рымабуда.

Яцашэк выступаў у Вялікай Брытаніі, ЗША, Кітаі, Галандыі, Бельгіі, Партугаліі, Украіне, Швецыі, Славаччыне і ў Польшчы (між інш. Unsound, Avant Art, Off Festival, Heineken Opener Festival, Up to Date, Tauron Nowa).

## Port Mone (Беларусь)

Група заснаваная ў Мінску ў 2006 г. Аляксеем Варсобай (акардэон), Сяргеем Краўчанка (перкусія) і Аляксеем Ванчуком (бас-гітара).
Французская эстэтыка – славянская ўражлівасць. Музыка Port Mone гэта інструментальныя нарысы з багатай ды інтымнай афарбоўкай. Інструментальнае трыо Port Mone вядомае сваімі незвычайнымі, заблытанымі і складанымі мелодыямі з пашыранай роляй гармоніі. Музыкі любяць імправізаваць, чэрпаюць з фальклору, noise, адначасова дазваляюць сабе несціся мелодыяй. Творчая ідэя групы, гэта пошукі агульнага хаосу і яго ўпарадкаванне ў аскетычныя аранжыроўкі і простыя формы. Дзякуючы свабодным зменам тэмаў і ператварэнням акустычнай прасторы, кампазіцыі гурта гіпнатычныя і адкрытыя для адрасата. З дапамогай толькі трох інструментаў гурт умее аб'яднаць і паказаць у новай стылістычнай форме сутнасць сучаснай музыкі. У майстэрскім выкананні ўводзіць новае ў падставы культурнай спадчыны, што адначасова цалкам не супадае з якой колечы нудою. Port Mone імкнецца да таго, каб слухачы адчулі іхную музыку як падвешаную, бясконцую хвіліну, каб пагружаліся ў ёй, адкрывалі сябе нанава ў цэнтры вярчэння хаосу.
Альбом „DiP" (2009) беларуская, музычная крытыка назвала найлепшай інструментальнай кружэлкай году. „Thou" (2014) гэта другі аўтарскі альбом трыо музыкаў, якія вырашылі адкрыць сябе на прыроду і навакольную рэчаіснасць запісваючы альбом з выкарыстаннем неверагоднай акустыкі „студыі" якой зрабілі... лес. Сціпласць, прастата, павага да духоўных каштоўнасцяў і дэманстратыўнае адмаўленне ад раскошы стала лейтматывам твору.
Група выступала ў Польшчы, Расеі, Украіне, Літве, Швецыі, Партугаліі, Фінляндыі, Швейцарыі ды Іране. Іх музыка скарыстоўвалася ў многіх мульт-фільмах і выдавалася ў музычных зборніках у еўрапейскіх краінах і ЗША.
Музыкі супрацоўнічалі з украінскім гуртом ДахаБраха, пісалі музыку для кіна- і тэатральных праектаў. У 2014 падпісалі кантракт са славацкім лейблам Hevhetia і канцэртным агенцтвам Charmenko.

## „Мініяцюры"

Задуменнасць, інтымнасць, далікатнасць і неабсяжны краявід. Кароткія, рэфлексіўныя формы Сакрата Яновіча патрабуюць музычнага фону. Разам з менскім трыо Port Mone Яцашэк узяўся за гукавую ілюстрацыю гэтай паэзіі. Праект з'ўляецца вынікам інспірацыі тэкстамі беларускага пісьменніка

з Польшчы – Сакрата Яновіча. „Мініяцюры" званыя „сакраткамі", гэта скупыя ў сэнсе формы празаічныя, лірычныя творы пісаныя з дапамогай падбору слоў з вялікім патэнцыялам шматзначнасці. Праект Яцашка і Port Mone – музычны адказ на візіянерскія творы беларускага пісьменніка. Насычаныя і каляровыя літаратурныя вобразы Сакрата Яновіча падштурхнулі мастакоў да пошуку гукавых эквівалентаў прысутнай у мініяцюрах інтымнасці, падляскіх пейзажаў і ўсходняга духу Праваслаўя. Падсумаваннем дзеянняў музыкаў быў прэм'ерны канцэрт разам з Юркай Асеннікам у Крынках і кружэлка з запісам канцэрту.

# Muzyka

## Re1ikt (Białoruś)

Stylistycznie bliski jest takim nurtom muzycznym jak progressive rock, post rock, art rock, folk rock i alternative rock. Re1ikt kreatywnie wykorzystuje niezwyczajne gitarowe efekty, również tradycyjne instrumenty dęte i perkusyjne.
Re1ikt ma na swoim koncie 5 studyjnych albumów. „Reki prabili lod" (2011, bestseller „Vigma", drugie wydanie w 2012) i „Klinika" (2009, Go Records) były oficjalnie wydane na studyjnych albumach. W kolejnym albumie „Liekawyja trawy" (2015) można znaleźć pieśni ludowe z różnych zakątków Polesia i innych regionów Białorusi, a także kompozycje członków zespołu według klasyków literatury białoruskiej. Album prezentuje nowe brzmienie Re1iktu: nie tylko liryczne i nastrojowe, ale optymistyczne i lekkie. Wydanie „Kufaru" (2016) odbyło się dokładnie rok po ukazaniu się „Liekawyja trawy", który to dysk został uznany przez białoruskich ekspertów za najlepszy album rockowy w 2015 r. „Kufar" podobnie jak „Liekawyja trawy" był nagrany w polskim Studio-X. Na dysku zgromadzone zostało wszystko co najcenniejsze, z czego Białorusini mogą być dumni: tradycja, przyroda, kultura, kultywowanie przyjaźni oraz wspólne działanie w dobrej sprawie.
Zespół wykonuje elektryczne oraz akustyczne koncerty. I w zależności od formatu występu muzyka zespołu z energetycznej i porywającej przekształca się w lekką i liryczną. Zespół występował na wielu festiwalach oraz muzycznych wydarzeniach, w tym Halfway Festival, Basowiszcza, Camera!TA, Rockowisko, Wschodni Horyzont, Around the rock, WakeUp Bialystok, Bardauskaja wosień (Polska), Tautų mugė (Litwa), be Free, Respublika, Nimi Noczi (Ukraina), Kamianica, Dach, Grunwald, Metalcrowd, Ambasowiszcza, Men's Fest, Wolnaje Pawietra, Rok pa wakacjach (Białoruś) i inne.

## Jacaszek (Polska)

(ur. 1972 r. w Mrągowie) – kompozytor i producent muzyki elektroakustycznej, autor ścieżek dźwiękowych do filmu i teatru. W 2002 r. rozpoczął współpracę z poetką i wokalistką Miłką Malzahn, nagrywając wydaną w 2004 r. płytę „Mapa". W tym samym roku wydał płytę „Lo¬Fi Stories" – efekt zainteresowania autora estetyką starych, wydawanych na płytach winylowych i magnetofonach szpulowych bajek dla dzieci. W 2005 r. na polskim i zagranicznym rynku ukazał się album „Sequel" – drugi album nagrany z Miłką Malzahn, zawierający delikatne piosenki oparte na zdecydowanych, elektronicznych rytmach. W 2006 r. wziął udział w projekcie Stefana Wesołowskiego, pt. „Kompleta", który łączył tekst modlitwy brewiarzowej śpiewanej przez dwoje wokalistów z towarzyszeniem kwartetu smyczkowego i elektroniki. Po dwuletniej pracy w 2008 r. w norweskiej wytwórni Miasmah wydał swój nowy album, pt. „Treny", którego premiera miała miejsce w 2008 r. Płyta będąca połączeniem elektroniki z partiami instrumentów smyczkowych spotkała się z bardzo dużym zainteresowaniem słuchaczy i krytyków na całym świecie. Kolejną płytą Jacaszka jest „Pentral" z 2009 r. – album z pogranicza ambientu i muzyki konkretnej, oparty na nagraniach dźwięków terenowych: odgłosach we wnętrzach gotyckich kościołów. W 2011 r. amerykańska wytwórnia Ghostly International opublikowała „Glimmer" – album, na którym po raz kolejny elektronika towarzyszy brzmieniom akustycznym: tym razem klawesynu i klarnetu, nadając całości klimat z pogranicza baroku i muzyki współczesnej. Album pozytywnie recenzował m.in. portal Pitchfork. Wynikiem współpracy Jacaszka z kwartetem Kwartludium była płyta „Catalogue des Arbres" wydana w 2014 r. przez londyńską oficynę Touch – album będący fuzją nagrań terenowych, akustycznych improwizacji i cytatów z kompozycji Oliviera Messiaena.

W 2015 r. Jacaszek rozpoczął współpracę z Tomaszem Budzyńskim (Armia, Siekiera) i Mikołajem Trzaską (Łoskot, Cukunft, Ircha) Trio przyjęło nazwę Rimbaud, a efektem działań zespołu była płyta pt. „Rimbaud" – muzyczna odpowiedź na wizjonerskie utwory francuskiego poety Artura Rimabud.

Jacaszek koncertował w Wielkiej Brytanii, w Stanach Zjednoczonych, Chinach, Holandii, Belgii, Portugalii, Ukrainie, Szwecji, Słowacji i Czechach, Niemczech, Ukrainie, Białorusi, a także na najbardziej znaczących festiwalach w Polsce (m.in. Unsound, Avant Art, Off Festival, Heineken Opener Festival, Up to Date, Tauron Nowa Muzyka, Męskie Granie).

## Port Mone (Białoruś)

Zespół założony w 2006 r. w Mińsku przez Alaksieja Varsobu (akordeon), Siarhieja Krauczanka (perkusja) i Alaksieja Vanchuka (gitara basowa).

Francuska estetyka – słowiańska wrażliwśoć. Muzyka Port Mone to instrumentalne szkice o intymnej i bogatej barwie. Trio instrumentalne Port Mone znane jest ze swoich wyjątkowych, zawiłych i skomplikowanych melodii z rozpowszechnionego użycia akordeonu. Lubią improwizować, czerpiąc z folkloru, noise, ale równie chętnie dają się ponieść melodii. Twórcza koncepcja zespołu to tropienie ogólnego chaosu i porządkowanie go w ascetyczne aranżacje i proste formy. Poprzez płynne zmiany tematu i przeobrażenia przestrzeni akustycznej kompozycje są hipnotyzujące i otwarte dla odbiorcy. Przy pomocy tylko trzech instrumentów zespół potrafi scalić i przedstawić w nowej formie stylistycznej esencję współczesnej muzyki. W mistrzowskim wykonaniu wprowadza coś nowego do podstaw kulturowej spuścizny, co jednocześnie jest absolutnie niezbieżne z jakąkolwiek nudą. Port Mone dąży do tego, by słuchacze odczuli ich muzykę jako zawieszoną niekończącą się chwilę, by zapadali się w niej, odkrywając siebie na nowo w centrum wirującego chaosu.
Album „DiP" (2009) białoruska krytyka muzyczna określiła najlepszą płyta instrumentalną roku.
„Thou" (2014) jest drugim autorskim albumem trio muzyków, którzy postanowili otworzyć się na naturę i otaczającą rzeczywistość, nagrywając album przy wykorzystaniu niesamowitej akustyki „studia", jakim uczynili oni... las. Skromność, prostota, poszanowanie wartości duchowych oraz manifestacyjne odwrócenie się od przepychu stają się hasłem przewodnim dla dzieła.
Grupa koncertowała w Polsce, Rosji, Ukrainie, Litwie, Szwecji, Portugalii, Finlandii, Szwajcarii, Iranie. Ich muzyka była wykorzystywana w wielu filmach animowanych oraz wydawana na muzycznych kompilacjach w państwach Europy oraz w USA.
Muzycy współpracowali z ukraińskim zespołem DakhaBrakha, tworzyli muzykę do filmów i teatralnych projektów. W 2014 r. podpisali kontrakt ze słowacką wytwórnią płytową Hevhetia i Agencją koncertową Charmenko.

## „Miniatury"

Melancholia, intymność, delikatność i bezkresny krajobraz. Krótkie refleksyjne formy Sokrata Janowicza domagają się muzycznego tła.
Razem z mińskim trio Port Mone, Jacaszek podjął się zilustrowania dźwiękowego tej poezji.
Projekt jest wynikiem inspiracji tekstami autorstwa białoruskiego pisarza tworzącego przed laty w Polsce – Sokrata Janowicza. „Miniatury" zwane „sokratkami" to oszczędne w formie prozatorskie miniatury liryczne, pisane za pomocą starannie wyselekcjonowanych słów o dużym ładunku semantycznym.

Projekt Jacaszka i Port Mone stanowi muzyczną odpowiedź na wizjonerskie utwory białoruskiego prozaika. Intensywne i barwne wizje literackie Sokrata Janowicza sprowokowały artystów do poszukiwania dźwiękowych ekwiwalentów obecnej w miniaturach intymności, podlaskich pejzaży i wschodniego ducha prawosławia.
Podsumowaniem działań muzyków był premierowy koncert razem z Jerzym Osiennikiem w Krynkach oraz płyta z zapisem z koncertu.



## Лекавыя травы

Золак не заспаў,
Мяне вецер абудзіў
Морак не растаў,
Сон яшчэ не адпусціў

Памятаю я,
Што зрабіць наканавана
Зруйнаваць хваробу,
Што была начаравана

Паасобку мы былі
Існавалі, не жылі

Сабірайма разам
Зёлкі ды карэнні
Адмыкаем дзьверы
Цёмных сутарэнняў

Прыцішаю крок
Пад нагамі ціхі мох
Ранішны туман
Над імшарай, у барох

Я на месцы, тут
Пачынаю пошук.
Што патрэбна нам
Пакладу ў кошык

Каб акрыяць – выпі
нашае травы

## Lucerna

Ты бачыш свет не такім, як іншыя,
Чуеш колераў гук.
Хай не парушыць спакой і цішу
Сусвету вонкавы грук.

Прыдзе час і старое лісце
Ссыпле самое сябе.
Пачварына пастку расцісне
І адпусціць цябе.

Станеш ты
Зоркай з самых глыбокіх сноў.
Станеш ты
Возерам з самых далёкіх краёў.

Было так, што пражыты час
Раздіраў ды шкодзіў.
Магло адбыцца і ў мінулы раз,
Але я не сыходзіў.

Пакуты больш не пагражаюць,
Дома не сядзі.
Абалонка трэснула –
У свет выходзь.
Ідзі!

## Хадзіла галота

Хадзіла галота да кругом балота,
Дый крачэ, дый крачэ. У!
Ходзіла Манечка дый кругом Іванка,
Дый плачэ, дый плачэ. У!

Мой баценько роднесенькі,
Не гневайса, розмілуйса,
Шо я ў хмелю провініўса,
Да не я гаварiў, хмель мене адурiў.
А хмель дурны, зяць не разумны.
Я, й а я ж молода, й а ты стар з бородой.

Ох, Іваночко, мой саколічку,
Возьмі мене за себе. У!
Ох, Манечко, ты моя голубка,
Не возьму я цебе. У!

Мой баценько роднесенькі,
Не гневайса, розмілуйса,
Шо я ў хмелю провініўса,
Да не я гаварiў, хмель мене адурiў.
А хмель дурны, зяць не разумны.
Я, й а я ж молода, й а ты стар з бородой.

## Яшчарка

Яшчарка плыве па блакітнай артэрыі,
Гэткая ж самотная, як далёкая гатэрыя.
Адчуваю роднасць з ёй і балотаў прыгажосць,
Разумеем толькі мы і паверым у яе.

Вербы кволы ліст нам падорыць Волма,
Вербы кволы ліст возьме Слоўсць.
Уратуй ад змовы нас, празрыстае голле.
Назаві сваё імя ды вазьмі наш боль.

Над чырвонай кнігай узнята рука.
Мы доўга знікалі – з нараджэння.

Цела на кавалкі парэзалі – прыбралі.
За даляглядам дзетак прыхавалі.

Той будзе шанаваць твае старыя косці,
А гэты абрасце чужою поўсцю.

## Чаго ты, лося...

Чаго ты, лося, чаго ты, дзікі,
К зямле прылігаіш?
А ці ты, лося, ці ты, дзікі,
Сцідзёну зіму чуіш?
Чую-ня чую, віджу-не віджу
Не цёплыя будзіць.
Лісточак рыіць, земельку крыіць,
Сцідзёна зіма будзіць.

Чаго, Манічка, чаго молада,
Ліхую свякроў чуіш?
А ці Манічка, ці ты молада?
Ні маманька будзіць,
Чую-ня чую, віджу-не віджу
Не родная будзіць.
Лісточак рыіць, земельку крыіць,
Сцідзёна зіма будзіць.

## Балотныя агні

Што шукаеш у цемры?
У вадзе блішчаць яны,
Твае рукі-лісце
Цягнуцца да іх.

Глядзяць суседзі,
Не разумеюць,
Каго чакаеш
У тым люстэрку?

Хай ён заве агні гнілякамі,
Хай кажа, плюнь на іх, не глядзі.
Хай кажа, што ў цябе дзве дарогі:
Да сонца ўвысь, долу да зямлі, нібы рогі.

Было неба цёмным.
Дрэва запытала –
На тваё маўчанне
Праўдаю адказала.

Глядзяць суседзі,
Не разумеюць,
Каго кахаеш
За тым люстэркам?

## Зрушаны свет

Сонца садзіцца каб ўзняцца
да новых нас вяртацца
шанец дае зямлі аднавіцца
робіць сваю пільную працу

Атлас згубіу свой шар, трава расце
Мы адмяняем страх, крочым па вадзе

Сонца садзіцца каб узняцца
як дрэнна не было б усе паправіцца
скрозь шэры асфальт сцябло прабьецца
іншым чалавек раніцай прачнецца

Сонца садзіцца каб узняцца
Ніколі ў сабе не сумнявайся
Цемра адыйдзе святло адрадзіцца
Сонца усходзіць
Атлас згубіу свой шар, жыццё ідзе
Самае добрае наперадзе

## Кабета Інсекта

Крыламі крохкімі
Праз калодзеж да нас ляціш.
Кім была ты раней?
Што цяпер пішчыш?

Жах наганяеш,
Зданей збіраеш
Каля сябе
Праз шчыліну ў сцяне.

Хто твае сябры? Мухі ды камары!
Хто твае сябры? Мухі ды камары!

З сценаў твае грахі
Вылятaлі матылямі.
А ты знікаеш,
Ад нас хаваешся.

Але ў сэрца трапіла іскра,
З яе вуснаў вылятaлі словы.
На ёй белая вопратка была,
Душа, падобная да анёла.

## Дождж ідзець

Дождж ідзець, раса падзець
на куміну хату.
Кумочак, касі мяту –
накрый куме хату.

# Роднае

Я іду сваім полем.
Дзяцінства маё маячыць на небакраі; клёны ля дарогі надта ж выраслі.
Уваходжу ў дом. На сценах яго іканастас успамінаў маіх, з матчынай усмешкай далёкай. Пшанічнае сонца.
За акном сад маладосці адцвіў, расчырванеўшыся спеласцю. На лугах кахання косяць атаву ў кашулях прапацелых. У малатарных прыгуменнях плён пыліць умалотам. І дзесьці рохканне пудовае, і рыканне белапеннае...
Добры конь жаданняў не скапыціўся.
У зелені задаволенасці і пад блакітам радасці буйнее шчасце неветрагоннае.
І гэтак думаю сабе, што Айчынай з'яўляецца не толькі вялікі супольны абавязак – і мае яе не адзін той, хто хоць
раз заплакаў...

## Ojczystość

Idę swoim polem.
Dzieciństwo moje snuje się na widnokręgu, klony u drogi wyrosły nad podziw.
Wchodzę do domu. Na ścianach ikonostas: zapamiętał moich najbliższych i daleki uśmiech matczyny.
Pszeniczne słońce.
Za oknem sad młodości; przekwitły, rozczerwienia się dojrzałością. Na łąkach kochania drugi pokos koszą; w przepoconych koszulach. Na gumnie kurzawi się młocka.
I skądś dolatuje chrząkanie pudowe i porykiwanie białopienne...
Dobry koń się nie potknie.
W zieleni zadowolenia i pod błękitem radości szczęście nielekkomyślne. I wiem, że Ojczyzna, to nie tylko wielki zbiorowy obowiązek – i że ma ją nie tylko ten jeden, kto chociaż raz zapłakał...

*Przeł. Jan Czopik*

# Фэст

Цень Візантыі ў пошуме клёнаў, бяроз. Гнілыя дранкі зелянеюць мохам у месячнай блякласці.
Капліца...
Тырчыць праваслаўе над злежаным пяском магіл. Асколак Русі ля падножжа дзевятай хвалі ўбогіх пагоркаў. Матчын енк і плач дзіцяці тоіцца ў пацямнелай выспе зеляніны, заціснутай каменным абручом – у чыстым полі, за дарогай, пад высокім небам. Маці забрала з сабою горыч жыцця; краскі свету ў вачах дзіцяці рассыпаліся ў прах.
Топчуцца і поўзаюць па іх сваякі ў экстазе – госці фэставай традыцыі. Жальба разменена на дробныя манеты, малебны па чарзе становяць на калені жывых. Да змяркання, да позняга вечара...
Гора хаваецца ў бяссоннай ночы. Спачуванне здаровым сном храпе да світання.

## Odpust

Cień Bizancjum w poszumie klonów i brzóz. Na zbutwiałych gontach zieleni się mech w miesięcznej bladości.
Kaplica.
Ze zleżałego piasku mogił wystercza prawosławie. Odprysk Rusi u podnóża dziewiątej fali ubogich pagórków. Matczyny jęk i dziecięcy płacz tai się w wyspie
pociemniałej zieleni zaciśniętej obręczą – pod dziewiątą falą zapomnielisk. Matka wzięła gorycz życia ze sobą; barwy świata w
dziecięcych oczach rozsypały się w proch.
Cisną się i pełzają po nich w ekstazie swoi – goście świątecznej tradycji. Żal rozmieniony na grosze, nabożeństwa kolejno rzucają na kolana żywych. Do zmierzchu, do późnego wieczora...
Rozpacz chowa się w bezsennej nocy, współczucie ma zdrowy sen i chrapie do świtania.

*Przeł. Jan Czopik*

## Адрачэнне

Куды ж ты паперла, дзяўчына?! Чаго гэта панясло цябе ў горад далёкі? Шукаць лёс спадзяваны?.. Уцякла дзяўчына ад спакою вёскі, ад палёў васільковых, ад лугоў зарэчных... Прышлі, Кірачка, хоць ліст! Без цябе пуста тут.

## Odpust

Gdzieżeś ty powędrowała, dziewczyno? Co cię pociągnęło do odległego miasta? Czyżbyś szukała losu, co ci przypadł? Uciekła dziewczyna od ciszy wioski, od pól malowanych chabrami, od nadrzecznych łąk... Napisz choć list, Kireczko, smutno tu bez ciebie.

*Przeł. Jan Czopik*

# Трэцяя пара

Ядзя выйшла замуж. Яна пайшла за Стася. Пайшла за яго таму, што ён хацеў жаніцца. І яшчэ таму, што Ядзя дайшла да таго месца ў жыцці, дзе канчаецца вясна і пачынаецца лета.
Тады ўбачылі Ядзю. Убачылі яе кветкаю сярод урачыстай нядзелі.
Кветкаю, калі глядзець на яе ў цішы палёў (далека звоняць у касцёле).
Ядзя кахае Стася. Яна кахае яго да таго моцна, што аж не думае. Усё роўна бы тая вішанька, што, расчырванелая шчасцем даспеласці, мілуецца з сонцам. Без памяці, зусім без памяці.
Ядзя пакуль яшчэ не апрытомнела настолькі каб здзівіцца, чаму гэта не з'яўляецца ў снах чарадзейны Юрка. Той Юрка, без якога раніцы маладосці былі днямі пакут, а вечары – адпушчэннем іх. Вечары бэзавыя, вечары язьмінавыя, вяргіневыя...
Час кахання настаў, час і пара – трэцяя з чатырох.

# Trzecia pora

Jadzia wyszła za mąż. Za Stasia. Wyszła za niego, bo chciał się ożenić. I jeszcze dlatego, że doszła do tej grani życia, na której kończy się wiosna i zaczyna lato.
I wtedy nagle wszyscy ją zobaczyli. Była jak kwiat pośród uroczystej niedzieli, kwiat, który można ujrzeć jedynie w ciszy pól, w chwili gdy właśnie niesie się głos dzwonu.
Jadzia kocha Stasia. Kocha go bez opamiętania. Tak czerwona pełnią dojrzałego szczęścia wisienka kocha się ze słońcem. Zapamiętale. Do zatraty.
I jeszcze tak, żeby się nie dziwić, iż w jej snach nie zjawia się Jurek. Ten Jurek, bez którego ranki jej młodości były dniami pokuty, a wieczory – rozgrzeszeniem. Wieczory bzowe, wieczory jaśminowe, wieczory georginiowe...
Czas kochania nastał, czas i pora. Trzecia pora spośród tych czterech.

*Przeł. Jan Czopik*

# Вёскішча – багіня ганьбы

За агнямі Беластока, за яго апошнімі вуліцамі, расшчэпленымі на трэскі прыгародніх сцежак-дарожак, у даліне, што за пагоркамі, цямнее веска. У ёй не відаць тае бліскатнечы горада, – толькі зарыва, якое падсвятляе зоркі на небе, зайздрослівыя мігатлівіцы ў марозную ноч. Не стаю я ў тэту цемень на грудзе за гумнамі, сяджу сабе за цёплым акном, у хаце, і гляджу богведама куды. Я тут на вяселлі брата.

Усе паўставалі і спяваюць „Сто лят", а мне ад таго сумна чамусьці.

Адбываецца сялянскае вяселле: за сталамі з сотня гасцей, якім падаюць вульгарныя літроўкі, ля napora шпарацъ свае кавалкі ўжо падпоеныя музыканты, чуецца песню за песняй, мужчыніскі падгаворваюць бабаў піць „да канца", а рагатухі – „да дна". Гавораць усе адразу, усе да ўсіх – сусед да суседкі, суседка да суседа, і ніхто нікога не слухае.

Вясельнасць развясельваецца.

А мне маркотна, хоць ты забіся! Няўжо гэта ад таго, што вясельнікі са скуры вылузваюцца, каб усяму прыдаць нейкі рэстаранны тон, выветраць адсюль сялянскасць, збіцца на чужы лад, як з нечым удала пазычаным. „Равела бура, дождж шумеў..." заціхла ў шматгалоссі рэнаў рольскіх, вайцехаў млынарскіх, ірэнаў сантар, азнавураў, санджэрсаў, якія прыбіліся сюды нейкім тлумам укормленых дачнікаў на лета надрэчнае. Красамоўны сват неўзабаўку папярхнуўся „актамі вэсэльнымі", „прошапанствамі", ды яшчэ чымсьці такім, – сёння не спамятаць мне, менавіта чым (?). Аднак, напэўна, не ягоным, не сваім, затое ж бліскучым, бы той багемскі пярсцёнак у вітрыне, што ля цэнтральнае вуліцы, дзе неоны і аўтамашыны, і напарфумаваныя тратуары.

Вяселле, усё-такі, сялянскае яно, бо іншых няма на свеце, (гарадскія не бываюць). Словам, вяселле!

Дружкі-сваячкі ў дарагіх сукнях, упрыгожаныя пераконанасцю ў тым, што яны – не сялянкі, ганарацца сваімі пасадамі на заводах. Дружбанты-сваякі ў чорных касцюмах для большае святочнасці, відаць, дрэнна адчуваюць сябе ў хамуце манераў, падгледжаных у патомных мяшчанаў, але яны не пацеюць да пятае ці бо і сёмае чаркі. Гэтыя таксама не сяляне. Адны старыя пачуваюцца імі, і таму па іх тварах скачуць грымасы вінаватасці. О, яны добра разумеюць, што ўсенька непрыгожае можа вынікнуць толькі ад іх. Нехта з маладзеччыны, на выгляд дзіўна скромны, нечакана загаварыў да старога іха-свойму, па-беларуску ўголас, і той бядак пачырванеў ад гэткае

# Wiocha – bogini zawstydzenia

Za światłami Białegostoku, za ostatnimi ulicami, rozszczepionymi na drzazgi podmiejskich ścieżek i dróżek, w dolinie za pogórkami ciemnieje wioska. W wiosce nie widać owych tysięcy świateł Białegostoku, jedynie łuny, jakie oświetlają gwiazdy na niebie, zazdrosne gwiazdy mroźnej nocy. Tej nocy nie stoję na wzgórzu za wioską, siedzę w cieple przy oknie i patrzę nie wiadomo gdzie. W chacie huczy wesele i śpiewają „sto lat", a mnie jakoś smutno.

Odbywa się wiejskie wesele: dokoła stołów ze stu gości, na stołach litry z czerwoną kartką, z boku muzykanci, a wszyscy śpiewają pieśń za pieśnią i raz po raz piją „do dna" i „do końca". I wszyscy gadają równocześnie, wszyscy do wszystkich, sąsiad do sąsiadki, sąsiadka do sąsiada, i nikt nikogo właściwie nie słyszy. Wesele jak to wesele.

A mnie jest smutno. Smutno już nie dlatego, że goście weselni czynią wszystko, żeby wesele nie było czasem wiejskie – żeby było miastowe, jak w mieście. „Rawieła bura, dożdż szumieu"... przycichła i zginęła całkiem w wielogłosie weselnych Ren Rolskich, Wojciechów Młynarskich, Iren Santor. Kolejka krasomówców zachłysnęła się „aktami ślubnymi", „proszę panami" i jeszcze czymś – nie pamiętam, czym jeszcze. Czymś pożyczonym, nie swoim, ale błyszczącym jak tombakowy pierścionek w witrynie sklepu przy ulicy w śródmieściu, gdzie są neony, automaty i naperfumowane trotuary. A przecież wesele jest wiejskie, bo innych wesel nie ma w świecie, miejskich wesel nie ma. Jednym słowem – wesele.

Druhny-krewniaczki w drogich sukniach, wypiękniałe przez to poczucie, że nie są ze wsi, bo pracują w Białymstoku, a nie zjechały tutaj z sąsiedztwa. Drużbowie-swojacy w czarnych garniturach, czują się źle w chomącie manier, skradzionych miastu, ale nie pocą się aż do piątego, czy nawet siódmego kielicha. Oni też nie są wsiowi. Jedynie starzy ludzie czują się wieśniakami i na ich twarzach błąka się jakieś poczucie winy. Zdają sobie sprawę, że wszystko, co niеładne, niezdarne, może się zrodzić tylko z nich albo z ich powodu. Któryś z młodych odezwał się głośno do starego „z prosta", a stary człowiek poczerwieniał od takiego wstydu i szybko, skwapliwie odpowiedział młodemu „po miejsku".

Na weselu we wsi, gdzieś za światłami Białegostoku, rozmawiano o Wenus, bogini miłości, a ja obok niej zobaczyłem boginię wstydu, Wioskę, a mówiąc ściślej – WIOCHĘ. A może Wiocha to nieślubne dziecko Wenus? Tak byłoby lepiej, bo po cóż nam bogini wstydu? Byłoby lepiej, ale to niemożliwe, sam to widzę.

Niespodziewanie zrozumiałem swój dziwny smutek: wszyscy czekają na śmierć Wiochy! I tak jak o nieboszczyku, którego nie wspomina się źle, wesele rankiem zaśpiewało:

ганьбы ды хутка-хуценька адказаў ён хлопцу па-гарадскому, па-панску, „інцілігентна”!..
На вяселлі за Беластокам нешта плялі пра багіню кахання, пра Венеру, але побач яе я ўбачыў і багіню ганьбы, Вёску, дакладней – Вёскішчу. А мо яна ёсць няшлюбнае дзіцё Венеры? Так, вядома, было б лепей, бо нашто ж нам тая багіня ганьбы?!.
Нарэшце вось я сцяміў свой дзівацкі сум; гэта ж усе чакаюць смерці Вёскішчы! І, як пра нябожчыцу, якую грэх памінаць ліхам, пад раніцу на вяселлі запялі – „Равела бура, дождж шумеў...”, „Ра сцвіталі яблыні і грушы...”, „Распрагайце хлопцы коней...”. Праўда – не столькі бяздарна, колькі безнадзейна паныла, з такім няясным роздумам ці шкадаваннем у п’яных, чаго абавязкова будуць яны саромецца потым.
Пачалі раз’язджацца – хто да аўтобусавага прыпынку, а хто да чыгуначнага, каб паспець на фабрычную гадзіну работы, вельмі паспешліва развітваючыся з маладою параю, усё роўна што баючыся пачуць ад яе: „Забярыце нас адсюль, молім, забярыце!..”
У такі час, калі праводзіш вясельнікаў за вёску, у дарогу, і, дайшоўшы з імі аж да Відушчае гары, паглядзіш на віднеючы ўдалечыні начны горад, дык ці не здасца ён табе вялізным могільнікам у Свята Памёрлых з безліччу свяшчэнных вогнікаў у густы лістападаўскі вечар?

„Rawieła bura, dożdż szumieu", „Rasćwitali jabłyni i hruszy", „Rasprahajcie chłopcy koni"... O świcie goście weselni zaczęli się rozjeżdżać: jedni do przystanku autobusowego, inni na stację kolejową, żeby zdążyć, kto ma wcześniejszą pracę.

W takiej chwili, gdy człowiek odprowadza weselników za wioskę, na drogę, gdy popatrzy z daleka, ze wzgórza, na nocne miasto, wydaje mu się ono wielkim cmentarzem w dniu Wszystkich Świętych.

*Przeł. Maciej Józef Kononowicz*

# Існаванне

У заімшэлыя Крынкі, у якіх знікае правінцыяльны шлях, прыязджаюць рэйсавыя аўтобусы. Яшчэ з пасажырамі. З'яўляюцца і аўты. Абнюхваючы ўпатканыя завулкі, упаўзаюць у нечыя вароты (пад брэх сабарна). Часам ламарэндзіць паміж платамі грузавік з брызентавым гарбом, сунучыся ў шорганні галіноўя запушчаных прысадаў (нешта вывозіць). Прашлэпае забарадзелы абадранец; дзесьці кідае ябукамі, бы каменні на крушню, малады п'яніца. Тут ўсё восень, ці лета а ці зіма.
Не зразумець мне, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх не быць; урослыя ў зямлю будынкі і размытыя вуліцы тут будуць укрытыя свяжуткімі бярэзнічкамі, грыбнымі пералескамі. Пушча атуліць непатрэбную ў капіталізм ваколіцу: на колішніх загонах забуяюць мядзвежыя маліннікі, завядуцца дзікі пад дубовымі падрубамі і пачнуць пасціся казюлі на ўтравелых прыгуменнях... Позніцца прыход сюды новай цывілізацыі гораду і лесу. Вінаватыя ў гэтым, вядома, палякі. Перабіраючыся ў напакіданае беларусамі феадальнае старонне, бессэнсоўна яны мяр куюць, што хоць у Крынках, гэтым пасляха лопскім цені гораду, магчыма выжыць... А іх жа можна толькі ціха памерці.

# Istnienie

W słonecznym czasie opadania liści – klony i brzozy wśród jodeł niby doczesne przy wiecznym. Pobielała i pożółkła starość obok zieleni. Jak memento. Dlatego wydaje się, że pierwszą porą roku, jaką wymyślił człowiek, była jesień.
Czy dziecko myśli o śmierci?
Żeby żyć intensywniej, wymyślono godziny i minuty. Widzę przesuwające się cyfry w oczach ludzi śpieszących do pracy, do kina, na spotkanie albo do znajomych. Wymyślono wagę i Bóg wie co jeszcze, nie mówiąc już o szklanych ślepiach regulatorów ruchu na skrzyżowaniach naszego stulecia.
Czy można zliczyć wymyślone?
Najpierw wymyślono początek i koniec, wierząc, że będzie to mieć znaczenie w nieskończoności, a nie dlatego, że jest tęsknotą ludzką być pożytecznym. Kto pojął swoją zbędność – umiera... Trzeba jednak powiedzieć od razu, że pożyteczność, to taki sam wymysł, jak pieniądze, maszyny czy bomby.
Wymyślamy sposoby dla coraz innego istnienia. Ale istnieniu nie zależy na tym. Nie obchodzi je równo: czy wymyślimy świat sensowny czy rozbijemy go na atomy. Cokolwiek zrobimy, okaże się, że to ciągle to samo istnienie: ojca w synu, ziemi w ludziach, materii w elektronach, w niczym; w nieskończoności.

*Przeł. Jan Czopik*

# Доўгая смерць Крынак

У сонечнае лістападдзе клёны і бярозы ў ялінах – бы нявечнае ў вечным. Пабялелыя ды пажаўцелыя – у маладой зелені. Як прыпамінанне! Таму першай парою года, якую прыдумаў чалавек, з'яўляецца восень...
Ці дзіця думае аб смерці?
Каб гусцей жыць, прыдуманы гадзіны і хвіліны. Бачу лічбы ў вачах тых, што спяшаюць на работу, у кіно, на спатканне або да знаёмых. Прыдумалі таксама вагу і шмат чаго яшчэ, не гаворачы ўжо пра зялёна-шкляныя слепнякі на скрыжаваннях.
Ці можна пералічыць прыдуманае?
Найперш прыдуманы пачатак і канец, з перакананнем, што гэта можа мець значэнне ў бясконцасці, а не толькі з жадання быць патрэбным. Хто зразумеў сваю непатрэбнасць – памірае... Аднак жа трэба адразу сказаць, што і патрэбнасць з'яўляецца такой жа выдумкай, як грошы, або машыны, ці бомбы.
Прыдумваем дзеля штораз іншага існавання. Але існаванню напляваць на ўсё тое, і нават на тое, ці прыдумаем сэнс свету або параскідаем яго ў пылінкі атамаў. Што ні зробім – з'явіцца тым жа існаваннем, як бацькі ў сыне, зямлі ў людзях, матэрыі ў электронах, у нічым. У бясконцасці.

# Długa śmierć Krynek

Do tych porastających mchem Krynek, kędy zapada się prowincjonalny szlak, kursują autobusy. Miewają pasażerów. Pojawiają się także auta. Obwąchując napotkane zaułki, wtaczają się w czyjeś wrota (przy ujadaniu kundla). Czasami łomocze żelastwem w zapłociu samochód ciężarowy ze wzdętą plandeką, sunąc w trzasku łamiących się gałęzi zapuszczonych posesji (ktoś coś wywozi). Przypałęta się zarośnięty oberwaniec; skądś dolatuje, niczym odgłos rzucanych kamieni, bluzganie młodego pijaka.
Nie wiedzieć czemu, ciągle tu jesień, czy to latem czy w zimie.
Nie mogę jakoś pojąć tego, czemu w Krynkach mieszkają ludzie. Już dawno nie powinno ich być tutaj; budynki garbacieją i chylą się ku ziemi, a rozmyte uliczki porosną niebawem rześką brzeziną, młodniakiem z grzybami. Puszcza przygarnie do się tę zbyteczną dla kapitalizmu okolicę: na niegdysiejszych ogrodach rozrosną się malinowe chaszcze, dziki wyryją sobie barłogi pod dębowymi podwalinami i poczną paść się sarny na trawiastych zastodolach... Późni się przyjście cywilizacji miasta i lasu. Winni temu są oczywiście Polacy. Przesiedlającym się w te, porzucane przez Białorusinów feudalne strony, zupełnie bez sensu wydaje się, tym przybyszom, że przynajmniej w Krynkach, w tym po chłopskim cieniu miasta, da się jednak żyć... A tutaj można jedynie umrzeć w spokoju.

*Przeł. Jerzy Plutowicz*

## У глыбі дзяцінства

Над галавою буйныя яблыкі, чырванашчокія мамінсыночкі, спелыя, напалоханыя пчоламі падаюць у зельішча. Смяецца сонца, як добры валакіта, паміж грады маку і слабее ад нямога рогату. Ломячы праменнямі высокую лебяду, коціцца яно ў Александроўку, у палеткі александроўскія. Заходзіць.
Зялёныя галіны і цёмна-сіняе неба ў сіняках, стомленае. Вечарэе.
Акно пахне варанай бульбай, і свежым малаком, і цыбуляй са скваркамі. Расчыненае акно запрашае. Час вячэраць і спаць. Ногі просяцца ў пасцель, брудныя. Трэба іх памыць. Найгорш перад сном – гэта мыць ногі!
Калі гэта?
Трыццаць гадоў назад, на сорак пятым кіламетры ад Беластока, паўночна-ўсходнім.

## W głębi dzieciństwa

Nad głową soczyste jabłka, rumianolice pieszczochy, dojrzałe, przestraszywszy się pszczół pa dają w zielsko, ach, jak się boją. Słońce się śmieje jak dobroduszny włóczęga zza grządki maku, zanosi się bezgłośnym rechotem. Obłamując promieniami wysoką lebiodę, toczy się nad Aleksandrówkę, na aleksandrowskie poletka. Zielone gałęzie i niebo – granatowe, strudzone, w siniakach. Wieczór. Okno pachnie przysmażanymi kartoflami, świeżym mlekiem, cebulą ze skwarkami. Otwarte na oścież – zaprasza. Czas powieczerzać i pójść spać. Nogi już ciągną do łóżka, brudasy. Muszę je umyć. Najgorsza rzecz przed spaniem to mycie nóg.
Kiedy to było? Przed trzydziestu laty, w głębi dzieciństwa, o czterdzieści pięć kilometrów na północny wschód.

*Przeł. Jerzy Litwiniuk*

# Глыбокай восенню

Любіў і люблю я дождж глыбокай восенню, халодны ды працяглы. За сцяною чуваць, як, сцякаючы з даху, струменьчыкі вады распырскваюцца на вымытых з зямлі каменьчыках ды кавалачках чарапіцы, што ў крапіве ля падрубы... Хтосьці спяшаецца па вуліцы, топчучы цяжкімі нагамі гнілое лісце.

Каля дзевятай гадзіны гаснуць агні ў вокнах, стары насценны гадзіннік звоніць сіпла. Па бруку пагрукатала запозненая фурманка на колах з жалезнымі абручамі, поўная мокрадзі, прастуджаная.

Як добра ляжаць у пасцелі, адчуваць цеплыню коўдры, сухой ды мяккай, засынаць моцным сном, які магчымы толькі ў халодную ды дажджлівую пагоду.

Сіпла звоніць гадзіннік...

# Późna jesień

Kochałem i kocham deszcz późnej jesieni: zimny, uporczywy. Słychać go za ścianą, ciecze z dachu, rozpryskuje się na wymytych z ziemi kamieniach i w skorupach w pokrzywie pod przyzbą. Ktoś pośpiesznie idzie ulicą, ciężko depcząc opadłe liście.
O dziewiątej wieczorem gasną światła w oknach, stary ścienny zegar zgrzytliwie dzwoni. Po bruku grzechocze żelaznymi obręczami spóźniona furmanka; wypełniona wilgocią, lodowata.
Jak dobrze leżeć w pościeli w taki czas, czuć ciepło suchej i miękkiej kołdry, zasypiać mocnym snem, który przychodzi tylko w dżdżysty wieczór.
Zgrzytliwie dzwoni stary ścienny zegar...

*Przeł. Jan Czopik*



# Асобы Альманаху

*Міхал* Андрасюк (Польшча)

(нар. 1959 г. у Гайнаўцы) – пісьменнік, радыёжурналіст, публіцыст. Піша на польскай і беларускай мовах. Вырас у вёсцы Войнаўка недалёка ад мяжы з Беларуссю. Па-беларуску апублікаваў тры зборнікі апавяданняў: „Фірма” (2000), „Мясцовая гравітацыя” (2004), „Белы конь” (2006), „Крыжык” (2015). Выдадзены ў 2010 г. „Вагон другога класа” быў дэб’ютным раманам і першай кнігай напісанай аўтарам на польскай мове. Яна была намінаваная на Літаратурную прэмію Прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага. У 2011 г. выйшаў „Белы конь” у перакладзе на польскую мову Марціна Рэмбача. Гэтая кніга была ўганараваная літаратурнай прэміяй імя Веслава Казанэцкага.

*Уладзімер* Арлоў (Беларусь)

(нар. 1953 г. у Полацку) – гісторык, эсэіст, паэт. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Першыя творы надрукаваў у студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах „Блакітны ліхтар” і „Мілавіца”. Працаваў настаўнікам, журналістам, рэдактарам выдавецтва „Мастацкая літаратура”, адкуль у 1997 г. быў звольнены па палітычных прычынах – „за выпуск исторической и другой сомнительной литературы”. Аўтар больш як трыццаці кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ. Творы перакладаліся на шматлікія мовы. Па-польску выйшлі кнігі прозы „Requiem dla piły motorowej” і „Kochanek jej wysokości”, а таксама кніга паэзіі „Prom przez kanał La Manche. Ляўрэат некалькіх літаратурных прэміяў, у тым ліку імя Францішка

Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру, прэміі „Гліняны Вялес” Таварыства вольных літаратараў, міжнародных літаратурных прэмій „Еўрапейскі паэт свабоды” (Гданьск, 2010), „Алеко” (Балгарыя, 2016). Узнагароджаны медалём імя Францішка Скарыны (1990), срэбным медалём „Zasłużony Kulturze Gloria Artis” (2015).

*Ірына* Дубянецкая (Беларусь)

(нар. 1964 г. у Мінску) – бібліст, багаслоў і філосаф, доктар сакральнай тэалогіі і доктар філасофіі. Пасля сканчэння філфаку БДУ працавала над стварэннем Дзяржаўнага музею беларускай літаратуры, выкладала беларускую літаратуру і фальклор у БДУ, потым у Лінгвістычным універсітэце. У Акадэміі мастацтваў сталася першым у паваеннай Беларусі выкладчыкам гісторыі рэлігіі (замест агульнапрынятага тады навуковага атэізму). У рамках моладзевых адраджэнскіх рухаў другой паловы 1980-х гадоў, займалася даследаваннем і адраджэннем беларускіх рэлігійных традыцый. У 1990 г. стварыла суполку ТБМ „Унія”. Была галоўным рэдактарам першага незалежнага часопісу, „Унія” (пад назвай „Часопіс хрысціянскага сумоўя”, выходзіў 1990-1995). У 1991 г. была абранаю ў склад Прэзідыума новаўтворанага Беларускага біблійнага таварыства. У 1992 г. на запрашэнне Апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў Рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане а. Аляксандра Надсана выправілася на Захад па багаслоўскую адукацыю. У Лондане і бельгійскім Лёвене абараніла шэраг навуковых ступеняў у багаслоўі, біблістыцы і арыенталістыцы. Мае ступені доктара філасофіі і доктара сакральнай тэалогіі (STD, 2005). Вярнулася ў Беларусь, дзе пачала выкладаць Біблію і сумежныя дысцыпліны (у розныя часы выкладала ў Еўрапэйскім гуманітарным універсітэце (Вільня), Беларускім Калегіуме, Лятучым універсітэце ды незалежнай Школе Бібліі. Ад 2013 г. – акадэмічны дырэктар Беларускага Калегіуму. Праводзіць экспедыцыі і адкрытыя навуковыя падарожжы па даследаванні пытанняў беларускае нацыянальнае ідэнтычнасці, інтэрпрэтацыі гісторыі ды рэлігійнай тоеснасці беларускіх людзей (цыклі „Трэцяя беларуская праўда” і „Вера Беларусі”). Сабрала міжнародную (з 5-ці краін) групу беларускіх біблістаў, багасловаў, лінгвістаў і літаратараў з мэтаю канцэптуальнага абмеркавання і прафесійнага выканання новага навуковага перакладу Бібліі на беларускую мову.

*Аляксей* Фралоў (Беларусь)

(нар. 1974 у Мінску) – фагатыст і даследчык музыкі, лаўрэат прэстыжных міжнародных конкурсаў, у тым ліку „Конкурсу ім. К. Пэндэрэцкага” у Кракаве (2003). Гастраліраваў у большасці краінаў Еўропы, а таксама ў ААЭ, Кітаі, Ліване, Сірыі, Турцыі. Фагатыст-саліст вядучых сімфанічнаў аркестраў Беларусі, працаваў у сімфанічных аркестрах Нямеччыны і Сірыі, дзе адначасова з'яўляўся выкладчыкам па класе фагота Вышэйшага Інстытуту Музыкі і Тэатра ў Дамаску (2011-2012). Неаднаразова быў запрошаны як першы фагатыст на маштабныя міжнародныя музычныя праекты, напрыклад Гала-канцэрты славутага тэнара Хасэ Карэраса ў Нямеччыне і Люксембургу, Гала-канцэрты зоркі арабскай музыкі Мажды эль Румні ў Ліване і Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Удзельнік мноства міжнародных музычных фестываляў. Упершыню выканаў шматлікія творы беларускіх кампазітараў для саліруючага фагота. Гучанне інструмента Фралова запісана на дзясятках кампакт-дысках. З 2014 г. спалучае выканальніцкую дзейнасць фагатыста і оперна-сімфанічнага дырыжора. Кіраўнік сімфанічнага аркестра „Capella Academia” і Духавога аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, старшы выкладчык БДАМ. Распрацаваў некалькі спецыяльных тэарэтычных курсаў для музычных ВНУ і ССНУ Беларусі. Музыказнаўца, аўтар больш двух дзясяткаў артыкулаў у энцыклапедыях, музыказнаўчых часопісах і зборніках навуковых канферэнцый па тэмах: „Гісторыя беларускай музыкі”, „Гісторыя выканальніцкага мастацтва”, „Сучасная музыка”, „Тэорыя і методыка ігры на духавых інструментах”. Дзякуючы працы Фралова ў архівах Беларусі і замежжа выяўлены дзясяткі твораў старадаўняй беларускай музыкі, якія ўжо ўведзены ў рэпертуар многіх калектываў краіны. У 2001 г. заснаваў Ансамбль салістаў „Вытокі”, які плённа працуе і зараз. Аўтар шматлікіх творчых праектаў і заснавальнік фестываляў. Сярод апошніх – фестываль „Год Агінскага ў Залессі” (2015) і „Прэзентацыя аднаго Шэдэўра” разам з Нацыянальным Мастацкім Музеем Беларусі (2016).

*архімандрыт* Гаўрыіл (Польшча)

(нар. 1962 г. у Саколцы) – Гаўрыіл, свецкае імя Ежы Гіба – польскі праваслаўны святар, Архімандрыт, доктар тэалогіі, былы намеснік-ігумен манастыра Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы ў Супраслі. Займаецца траўніцтвам і зёлкалячэннем. Яго манаскі пострыг у „малую схіму” адбыўся

6 красавіка 1989 г. у Дабравешчанскім манастыры ў Супраслі. Прыняў імя – Гаўрыіл у гонар Арханёла Гаўрыіла. 7 красавіка 1986 г. атрымаў дыяканскае пасвячэнне, а 17 лістапада 1989 – святарскае (Іераманах). У 1999 г. скончыў Хрысціянскую Тэалагічную Акадэмію ў Варшаве. 30 сакавіка 1999 г. быў узвышаны да звання Архімандрыта. З 1 мая 2000 г. выконваў абавязкі намесніка Супраскага манастыра а таксама настаяцеля прыманастырскай парафіі. 17 лютага 2007 г. абараніў доктарскую дысертацыю. 1 красавіка Сабор Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы прызначыў яго да епіскапскай хіратоніі і функцыі дапаможнага епіскапа Пярэмышска-Новасандэцкай епархіі са званнем „Горліцкага" епіскапа. Ад прапанаванай яму функцыі Архімандрыт Гаўрыіл – адмовіўся. Зараз ён жыве ў заснаваныім ім самім скіце ў гонар Антонія і Феадосія Пячэрскіх у Адрынках, адзіным праваслаўным скіце ў Польшчы.

*Уладзімір* ПАЎЛЮЧУК **(Польшча)**

(нар. 1934 г. у Рыбалах) – антрапалог, рэлігіязнаўца, прафесар гуманістычных навук, навуковы супрацоўнік Ягелёнскага Універсітэта, Універсітэта ў Беластоку і Вышэйшай Эканамічнай Школы ў Беластоку. Даследчык народнай культуры, публіцыст, пісьменнік. З'яўляецца аўтарам 15 кніг і больш як 100 артыкулаў. Навуковую кар'еру распачаў у Варшаўскім Універсітэце, дзе вывучаў сацыялогію і у 1970 г. атрымаў навуковую ступень доктара. У 1972-78 г. працаваў у Цэнтры Навуковых Даследванняў у Беластоку. Адначасова працягваў навуковую дзейнасць атрымліваючы ва Вроцлаўскім Унівэрсытэце ў 1977 г. ступень габілітаванага доктара. У 1980 г. стаў дырэктарам Інстытута Сацыяльных Навук Мастацкага Школьніцтва ў Варшаве. З кастрычніка 1982 г. пачаў працу ў Інстытуце Рэлігіязнаўства Ягелёнскага Універсітэта. У 1984-1986 г. выконваў абавязкі віцэ-дырэктара гэтага Інстытуту, а ў 1986-1993 г. – дырэктара. Прафэсарскае званне атрымаў у 1994 г. У 1990-1992 г. быў старэйшым выкладчыкам у Вышэйшай Педагагічнай Школе ў Кракаве і дырэктарам Інстытута Сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку ў гадах 2005-2006. Сябра Цэнтральнай Камісіі ў справах Ступеняў і Званняў у 2003-2006 г. і Камітэту Навук пра Культуру Польскай Акадэміі Навук у гадах 2007-2010. З 2015 г. Прафэсар-Сэньёр ва Універсітэце ў Беластоку. Лаўрэат многіх узнагарод і прэміяў за навуковую і публіцыстычную дзейнасць.

*Барыс* Пятровіч (Сачанка) **(Беларусь)**

(нар. 1959 г. у в. Вялікі Бор, Гомельская вобласць) – празаік, галоўны рэдактар часопіса „Дзеяслоў" (з 2002), старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 2011) – незалежнага саюза беларускіх творцаў. Па адукацыі журналіст, скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1984). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Працаваў у газетах „Гомельская праўда", „Звязда", „Літаратура і Мастацтва", часопісе „Полымя". У 2002 г. беларуская ўлада вырашыла шчыльна заняцца творчай інтэлігенцыяй. Літаратурныя і мастацкія выданні, былі аб'яднаныя ў холдынг з жорсткай цэнзурай і адназначнай ідэалагічнай скіраванасцю – лаяльнасцю да дзеянняў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. На знак пратэсту Барыс Пятровіч пакінуў месца працы і ўвосень гэтага году заснаваў літаратурны часопіс „Дзеяслоў". На сёння гэта самае аўтарытэтнае літаратурна-мастацкае выданне Беларусі, вакол якога аб'ядналіся самыя вядомыя ў Беларусі пісьменнікі, а таксама перспектыўныя маладыя аўтары. „Дзеяслоў", па сутнасці, застаецца адзінай альтэрнатывай дзяржаўным літаратурна-мастацкім выданням, дзе ўстаноўленая жорсткая ідэалагічная цэнзура і дзяржаўны кантроль. Аўтар кніг: „Ловы", „Сон між пачвар", „Фрэскі", „Шчасце быць", „Жыць не страшна", „Пілiпікі", „Плошча", „Спакушэнне", „Спачатку была цемра" і інш., за якія стаў лаўрэатам некалькіх літаратурных прэмій. Творы перакладзеныя на англійскую, французскую, нямецкую, рускую, літоўскую, чэшскую, балгарскую, славацкую і іншыя мовы. Сярод найбольш удалых перакладаў кнігі „Фрэскі" (2008) і „Плошча" (2011) па-шведску (перакладчык Д. Плакс) і „Спачатку была цемра" (2015) па-ўкраінску (перакладчык Н. Куліш).

п*ротаярэй Георгій* Рой **(Беларусь)**

(нар. 1978 г. у Кобрыне, Берасцейская вобласць) – праваслаўны святар-тэолаг. У 1986 г. паступіў у Мінянскую СШ Кобрынскага раёна, якую скончыў у 1996 г. У тым жа годзе паступіў на 1-ы курс Мінскай Духоўнай Семінарыі, якую скончыў з выдатнай адзнакай у 2001 г. Падчас вучобы быў адным з заснавальнікаў і галоўным рэдактарам студэнцкага журнала Мінскіх Духоўных Семінарыі і Акадэміі „Ступені" (2000-2004) У 2001 г. пачаў вучобу ў Мінскай Духоўнай Акадэміі. У 2002 г. быў накіраваны на абвучэнне ў Інстытут Усходніх Цэркваў у Рэгэнсбургу (ФРГ) а затым да 2004 г. быў студэнтам

каталіцкага факультэта Рэгэнсбурскага Унівэрсітэта. Пасля вяртання ў Беларусь закончыў Мінскую Духоўную Акадэмію і абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: „Ізраіль і народы: Місія ў Старым Запавеце". У тым жа годзе стаў выкладчыкам Мінскіх Духоўных школ. У студзені 2005 г. ачоліў выдавецкі аддзел Мінскай Духоўнай Акадэміі і кіраваў ім да 2011 г. У верасні таго ж года быў прызначаны рэфэрэнтам рэктара ў экумэнічных пытаннях. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 2005 г. (12 лютага – у дыякана, 26 лістапада – у прасвіцера) 29 кастрычніка 2007 г. быў прызначаны выконваючым абавязкі настаяцеля Барыса-Глебскай парафіі ў вёсцы Накрышкі Дзятлаўскага раёну, Гарадзенскай вобласці. 20 мая 2010 г. узведзены у сан протаярэя. 4 снежня 2011 г. абраны дацэнтам Мінскай Духоўнай Акадэміі. 7 сакавіка 2013 г. прызначаны выконваючым абавязкі настаяцеля Барыса-Глебскага „Каложскага" храма ў Гародні. З 17 верасня 2013 г. кіраўнік інфармацыйнага аддзела Гарадзенскай епархіі. 16 чэрвеня 2015 г. стаў настаяцелем Свята-Пакроўскага кафедральнага Сабору у Гародні. У гадах 2001, 2005, 2010 узнагароджаны адпаведна: граматай Патрыяршага экзарха, Мітрапаліта Філарэта, медалём свяціцеля Кірылы Тураўскага, медалём свяціцеля Інакенція РПЦ. З 2005 г. жанаты з Зояй Хомбак з якой у айца Георгія трое дзяцей: Ільля, Ар'ядна і Рыгор.

*Павал* Севярынец (Беларусь)

(нар. 1976 г. у Воршы) – палітык і публіцыст. У 2000 г. скончыў БДУ, атрымаўшы дыплом інжынера-геолага. З 1997-га да 2004-га году – заснавальнік і кіраўнік Маладога Фронту. З 2004-га – сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Больш за 5 гадоў правёў у турмах, на „сутках" ды ў ссылках па палітычных прысудах. Заснавальнік асветніцкіх праектаў „Курсы дыджэяў Адраджэння" і „Шоў беларушчыны", серыі музычных альбомаў „Беларускі хрысціянскі хіт". Аўтар кнігаў „Дыджэй Адраджэння", „Пакаленне Маладога Фронту", „Брату", „Люблю Беларусь", „Лісты з лесу", „Беларуская глыбіня". Лаўрэат літаратурных прэміяў імя Алеся Адамовіча і Францішка Аляхновіча, прэміі „За свабоду думкі" імя Васіля Быкава. Жанаты з Воляй Севярынец. Хрысціянін.

***кс. Сяргей*** Сурыновіч (Беларусь)

(нар. 1976 г. у в. Лугамавічы, Гарадзенская вобласць) – беларускі паэт, празаік, публіцыст, мастак, перакладчык, святар рымскага абраду, дактарант біблістыкі. З 1993 вучыўся ў Гродзенскай духоўнай семінарыі, з 1997 у Пецярбургскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 2000 г. У 1999-2000 рэдагаваў газету „Krynica" Таварыства беларусаў Санкт-Пецярбурга. Застаўся ў Расіі, служыў на Каўказе, Урале (Перм), у Калінінградзе. Абараніў працу па тэалогіі ў Латэранскім універсітэце ў Рыме, магістр тэалогіі. Піша вершы. Дэбютаваў вершаванай містэрыяй для дзяцей „Батлейка" („Дыялог", 1998). Аўтар зборнікаў паэзіі „Летуценнік" (1999), „Пакліканне" (2000). Больш за 50 публікацый у беларускім друку, вершы Я. Бартніцкага друкаваліся ў часопісах „Дыялог", „Беларусь", у газетах „Наша слова", „Голас Радзімы", „Царква". Жывапісец. Вучань Міраславы Казанцавай – рускай мастачкі (рэалізм). 13 красавіка 2006 г. адбылася перашая персанальная выстаўка жывапісу. Да 2011 г. адбылося 6 персанальных выстаў. Арганізатар штогадовага Друйскага мастацкага плэнэру. Служыць пробашчам парафіі Святой Троіцы ў Друі Браслаўскага раёна.





# Osoby Almanachu

*Michał* Androsiuk (Polska)

(ur. 1959 r. w Hajnówce) – pisarz, dziennikarz radiowy, publicysta. Tworzy w języku polskim i białoruskim. Wychował się we wsi Wojnówka nieopodal granicy z Białorusią. W języku białoruskim wydał trzy tomy opowiadań: „Firma" (2000), „Miascowaja grawitacja" (2004), „Biełу koń" (2006), „Krzyżyk" (2015). Wydany w 2010 r. „Wagon drugiej klasy" był debiutem powieściowym i pierwszą książką napisaną po polsku, która uzyskała nominację do nagrody literackiej im. Wiesława Kazaneckiego, przyznawanej przez Prezydenta Białegostoku. W 2011 r. został wydany „Biały koń" w przekładzie Marcina Rębacza. Za tę książkę otrzymał nagrodę literacką im. Wiesława Kazaneckiego.

*Uładzimier* Arłou (Białoruś)

(ur. 1953 r. w Połocku) – historyk, eseista, poeta. Ukończył Białoruski Uniwersytet Państwowy na wydziale historii. Swe pierwsze utwory publikował w studenckich rocznikach konspiracyjnych (tzw. Samizdat) „Błakitny lichtar" i „Miławica". Pracował jako nauczyciel, dziennikarz, redaktor wydawnictwa „Mastackaja litaratura" skąd w 1997 r. został zwolniony „za publikację historycznej oraz innej, wątpliwej literatury". Autor ponad 30 książek prozy, poezji, szkiców historycznych oraz eseistyki. Jego prace były tłumaczone na wiele języków. Po polsku ukazała się książka „Requiem dla piły motorowej" i „Kochanek jej wysokości", a także zbiór poezji „Prom przez kanał La Manche". Jest laureatem wielu premii literackich, m.in. im.

Franciszka Bahuszewicza Białoruskiego PEN-Centrum, Premii „Gliniany Wiales" Stowarzyszenia Wolnych Literatów, międzynarodowych nagród literackich: „Europejski poeta wolności" (Gdańsk, 2010), „Aleko" (Bułgaria, 2016). Został uhonorowany medalem im. Franciszka Skaryny (1990), srebrnym medalem „Zasłużony Kulturze Gloria Artis" (2015).

*Iryna* Dubianetskaya (Białoruś)

(ur. 1964 r. w Mińsku) – biblista, teolog i filozof, doktor teologii i filozofii. Po ukończeniu wydziału filozofii na Białoruskim Uniwersytecie Państwowym (BUP) pracowała nad utworzeniem Państwowego Muzeum Literatury, wykładała literaturę białoruską oraz folklor w BUP, następnie na Lingwistycznym Uniwersytecie. W Akademii Sztuk Pięknych została pierwszym w powojennej historii Białorusi wykładowcą religii (zamiast powszechnego wówczas ateizmu naukowego). W ramach młodzieżowych ruchów odrodzeniowych w II połowie lat 80. zajmowała się badaniem i odrodzeniem białoruskich tradycji religijnych. W 1990 r. utworzyła organizację „Unia" w ramach Stowarzyszenia Języka Białoruskiego (TBM). Była redaktorem naczelnym pierwszego niezależnego czasopisma „Unia" (podtytuł „Czasopis chryscijanskaha sumoja"), które wychodziło w latach 1990-1995). W 1991 r. została wybrana w skład Prezydium nowopowstałego Białoruskiego Towarzystwa Biblijnego. W 1992 r. na zaproszenie Wizytatora Apostolskiego dla Białorusinów-katolików, Rektora Białoruskiej Misji Katolickiej w Londynie – ks. Aleksandra Nadsona udała się na Zachód aby studiować teologię. W Londynie oraz w Louven (Belgia) uzyskała kilka stopni naukowych w dziedzinach teologii, biblistyki i orientalistyki. Od 2005 r. ma tytuł doktora teologii i filozofii. Po powrocie na Białoruś została wykładowcą biblistyki i pokrewnych dziedzin. W szczególności wykładała w Europejskim Humanistycznym Uniwersytecie w Wilnie, w Białoruskim Kolegium, tzw. „Latuczym Uniwersytecie" oraz w Niezależnej Szkole Biblii. Od 2013 r. jest akademickim dyrektorem Kolegium. Prowadzi otwarte ekspedycje naukowe poświęcone badaniom nad białoruską tożsamością narodową, interpretacja historii oraz świadomości religijnej Białorusinów (cykle „Treciaja biełaruskaja prauda" oraz „Wiera Biełarusi". Utworzyła międzynarodową (z 5 krajów) grupę białoruskich biblistów, teologów, językoznawców i literatów w celu wypracowania koncepcji oraz dokonania profesjonalnego nowego przekładu Biblii na język białoruski.

*Alaksiej* Fralou (Białoruś)

(ur. 1974 r. w Mińsku) – fagocista, badacz muzyki, laureat wielu konkursów międzynarodowych, w tym „Konkursu im. K. Pendereckiego" w Krakowie (2003) Występował w większości krajów Europy, a także w Zjednoczonych Emiratach Arabskich (ZEA), Chinach, Libanie, Syrii i Turcji. Fagocista-solista wiodących orkiestr symfonicznych Białorusi. Pracował w orkiestrach symfonicznych RFN i Syrii, gdzie jednocześnie był wykładowcą w klasie fagotu Wyższego Instytutu Muzyki i Teatru w Damaszku (2011-2012) Niejednokrotnie był zapraszany jako pierwszy fagocista na wielkie międzynarodowe imprezy muzyczne, np. Koncert galowy słynnego tenora Jose Carrerasa w Niemczech i Luksemburgu, Koncerty galowe arabskiej muzyki Warda Majida El Roumi w Libanie i ZEA. Uczestnik wielu międzynarodowych festiwali muzycznych. Jako pierwszy wykonał wiele utworów białoruskich kompozytorów solo na fagocie. Dźwięk instrumentu Frałowa jest nagrany na dziesiątkach dysków kompaktowych. Od 2014 r. łączy koncertową działalność fagocisty i operowo-symfonicznego dyrygenta. Kierownik Orkiestry Symfonicznej „Capella Academia" i Orkiestry Dętej Białoruskiej Państwowej Akademii Muzyki. Starszy wykładowca tej uczelni. Opracował kilka specjalnych kursów dla uczelni muzycznych. Muzyko-znawca, autor ponad 20 artykułów w encyklopediach, czasopismach muzycznych i zbiorach konferencji naukowych na tematy: „Historyja biełaruskaj muzyki", „Suczasnaja muzyka", „Teoryia i metodyka ihry na dudawych instrumientach". Dzięki pracy Frałowa, w archiwach Białorusi i za granicą zostały odnalezione dziesiątki utworów dawnej muzyki białoruskiej, które zostały włączone do repertuaru wielu zespołów. W 2001 r. założył zespół „Wytoki", który owocnie działa do dziś. Autor wielu projektów muzycznych i uczestnik festiwali, w szczególności „Hod Ahinskaha u Zalessi" (2015) i „Prezentacyja adnaho Szedeura" razem z Narodowym Muzeum Artystycznym Białorusi (2016)

*archimandryta* Gabriel (Polska)

(ur. 1962 r. w Sokółce) – Gabriel, imię świeckie Jerzy Giba – polski duchowny prawosławny, mnich, archimandryta, doktor teologii, były zwierzchnik monasteru Zwiastowania Bogarodzicy w Supraślu. Zajmuje się też zielarstwem i leczeniem ziołami. Śluby monastyczne małej schimy złożył 6 kwietnia 1986 r. w Monasterze Zwiastowania Bogurodzicy w Supraślu. Otrzymał imię Gabriel na cześć Archanioła Gabriela. 7 kwietnia 1986 r. przyjął święcenia diakońskie, a 17 listopada 1989 – kapłańskie. W 1999 r. ukończył studia na Chrześcijańskiej Akademii Teologicznej

w Warszawie. 30 marca 1999 r. został podniesiony do godności archimandryty. Od 1 maja 2000 r. pełnił obowiązki namiestnika Monasteru Supraskiego, a także proboszcza przyklasztornej parafii. 17 lutego 2007 r. obronił rozprawę doktorską. 1 kwietnia 2008 Sobór Biskupów PAKP wyznaczył go do przyjęcia chirotonii biskupiej i objęcia funkcji wikariusza diecezji przemysko-nowosądeckiej z tytułem biskupa gorlickiego, funkcji tej jednak nie przyjął. Obecnie archimandryta Gabriel zamieszkuje w skicie w Odrynkach, jedynej pustelni prawosławnej w Polscy.

*Włodzimierz* PAWLUCZUK (Polska)

(ur. 1934 r. w Rybołach) – antropolog, religioznawca, profesor nauk humanistycznych, pracownik naukowy Uniwersytetu Jagiellońskiego, Uniwersytetu w Białymstoku i Wyższej Szkoły Ekonomicznej w Białymstoku. Badacz kultury ludowej, publicysta, pisarz. Jest autorem 15 książek oraz ponad 100 artykułów. Rozpoczął swoją karierę naukową na Uniwersytecie Warszawskim, studiując socjologię, gdzie w 1970 r. uzyskał stopień doktora. W latach 1972-1978 pracował w Ośrodku Badań Naukowych w Białymstoku. Równocześnie kontynuował działalność naukową, uzyskując stopień doktora habilitowanego w 1977 roku na Uniwersytecie Wrocławskim. W roku 1980 został dyrektorem Międzyuczelnianego Instytutu Nauk Społecznych Szkolnictwa Artystycznego w Warszawie. Od października 1982 r. rozpoczął pracę w Instytucie Religioznawstwa Uniwersytetu Jagiellońskiego. W latach 1984-1986 pełnił funkcje wicedyrektora tego Instytutu, a w latach 1986-1993 funkcje dyrektora. Tytuł profesora uzyskał w 1994 r. Starszy wykładowca w Wyższej Szkole Pedagogicznej w Krakowie w latach 1990-1992 oraz dyrektor Instytutu Socjologii Uniwersytetu w Białymstoku w latach 2005-2006. Członek Centralnej Komisji do Spraw Stopni i Tytułów kadencji 2003-2006 oraz Komitetu Nauk o Kulturze PAN w latach 2007-2010. Od 2015 Profesor Senior na Uniwersytecie w Białymstoku. Laureat wielu nagród i odznaczeń za pracę naukową i działalność publicystyczną.

*Barys* PIATROVICH (SACZANKA) (Białoruś)

(ur. 1959 r. w w. Wielki Bór, obwód homelski) – prozaik, redaktor naczelny czasopisma „Dziejasłou" (od 2002), przewodniczący Związku Pisarzy Białoruskich (od 2011), niezależnego stowarzyszenia twórców. Z wykształcenia jest dziennikarzem: ukończył wydział dziennikarstwa na Białoruskim Uniwersytecie Państwowym (1984). Członek Związki Pisarzy Białoruskich i Białoruskiego PEN-Centrum.

Pracował w gazetach „Homielskaja Prauda", „Zwiazda", „Litaratura i Mastactwa", w czasopiśmie „Połymia". W 2002 r. władze białoruskie postanowiły gruntownie zająć się twórczą inteligencją. Literackie i artystyczne były połączone w holding z surową cenzurą i jednoznaczną ideologią-lojalnością wobec polityki prezydenta Aleksandra Łukaszenki. Na znak protestu Barys Piatrovich zwolnił się z pracy i jesienią tegoż roku stworzył czasopismo „Dziejasłou". Obecnie jest to literacko--artystyczne wydanie cieszące się na Białorusi największym autorytetem. Wokół niego zgromadzili się najbardziej znani pisarze białoruscy oraz najbardziej obiecujący młodzi literaci. „Dziejasłou" w istocie pozostaje jedyną alternatywą dla oficjalnych, państwowych wydawnictw, w których istnieje ścisła cenzura ideologiczna i kontrola za strony państwa. Autor książek „Łowy", „Son miż paczwar", „Freski", „Szcaście być", „Żyć nie straszna", „Pilipki", „Płoszcza", „Spakuszennie", „Spaczatku była Ciemra" oraz innych. Jest laureatem kilku nagród literackich. Jego utwory były przetłumaczone na języki: angielski, francuski, niemiecki, litewski, czeski, bułgarski, słowacki i inne. Wśród najbardziej udanych przekładów książki na szwedzki „Freski" (2008) i „Płoszcza" (2011) (tłumacz D. Płaksa) i „Spaczatku była ciemra" (2015) na język ukraiński (tłumacz N. Kulisz).

*ks. Hieorhij* Roj (Białoruś)

(ur. 1978 r. w Kobryniu, obwód brzeski) – prawosławny duchowny-teolog. W 1986 r. rozpoczął naukę w Miniańskiej Szkole średniej powiatu kobryńskiego. Po jej ukończeniu w 1996 r. rozpoczął naukę w Mińskim Seminarium Duchownym. Ukończył je z wyróżnieniem w 2001 r. Podczas nauki był jednym z założycieli i redaktorem naczelnym studenckiego czasopisma „Stopnie" (2000-2004). W 2001 r. rozpoczął studia w Mińskiej Akademii Teologicznej. Rok później został skierowany na studia w Instytucie Kościołów Wschodnich w Regensburgu (RFN) oraz do 2004 r. studiował na katolickim fakultecie tamtejszego Uniwersytetu. Po powrocie na Białoruś ukończył Mińską Akademię Teologiczną, obronił pracę magisterską na temat „Izrael i narody: Misja w Starym Testamencie" i został wykładowcą Mińskich szkół teologicznych. W styczniu 2005 r. został kierownikiem wydawniczego wydziału Mińskiej Akademii Teologicznej i pełnił tę funkcję do 2011 r. We wrześniu 2005 r. został mianowany referentem Rektora do spraw ekumenizmu. Na diakona został wyświęcony 12 lutego 2005 r., na prezbitera 26 listopada tegoż roku. 29 października został pełniącym obowiązki proboszcza parafii pod wezwaniem Borysa i Gleba we wsi Nakryszki, pow. Działławo, woj. Grodzieńskie. 20 maja 2010 r. podniesiony

do godności protojereja. 4 grudnia 2011 r. został docentem Mińskiej Akademii Teologicznej. 7 marca 2013 r. został mianowany p/o proboszcza parafii pod wezwaniem Borysa i Gleba (Kałożskiej) w Grodnie. Od 17 września 2013 r. szef wydziału informacyjnego Diecezji Grodzieńskiej. 16 czerwca 2015 r. został proboszczem katedralnego Soboru pod wezwaniem Opieki Matki Boskiej. W latach 2001, 2005, 2010 nagrodzony odpowiednio: dyplomem Patriarszego Egzarchy, Metropolity Filareta, medalem św. Cyryla Turowskiego i medalem św. Inocentego Rosyjskiej Cerkwi Prawosławnej. Od 2005 r. w związku małżeńskim z Zoją Chombak z którą ma troje dzieci: Eliasza, Ariadnę i Grzegorza.

*Pawieł* Siewiaryniec (Białoruś)

(ur. 1976 r. w Orszy) – polityk i publicysta. W 2000 r. ukończył Białoruski Uniwersytet Państwowy uzyskując dyplom inżyniera-geologa. Od 1997 do 2000-go r. twórca i przewodniczący „Młodego Frontu". Od 2004 r. współprzewodniczący Białoruskiej Demokracji Chrześcijańskiej. Ponad 5 lat przesiedział w więzieniach, na tak zwanych „sutkach" (kilkudobowych aresztach) w wyniku procesów politycznych. Twórca edukacyjnych projektów „Kursy dydżejau Adradżennia" i „Show biełaruszczyny", serii muzycznych albumów „Biełaruski chryścijanski hit", „Pakalennie Maładoha Frontu", „Bratu", „Lublu Biełaruś", „Listy z lesu", „Biełaruskaja hłybinia". Laureat nagród literackich im. Alesia Adamowicz i Franciszka Alachnowicza, nagrody „Za wolność myśli" im. Wasila Bykawa. Jest żonaty z Olgą Siewiaryniec. Chrześcijanin.

*Siarhiej* Surynovicz (Białoruś)

(ur. 1976 r. w w. Łuhamawicze, obwód grodzieński) – białoruski poeta, prozaik, eseista, artysta, tłumacz, kapłan obrządku rzymskiego doktorant biblistyki. Od 1993 roku uczył się w Grodzieńskim Seminarium Duchownym; od 1997 w Petersburskim Seminarium, które ukończył w 2000 r. W latach 1999-2000 redagował gazetę „Krynica" Stowarzyszenia Białorusinów Sankt-Petersburga. Pozostał w Rosji: pełnił posługę kapłańską na Kaukazie, Uralu (Perm) oraz w Kaliningradzie. Magister teologii. Pracę magisterską obronił na Laterańskim Uniwersytecie w Rzymie. Pisze wiersze. Debiutował wierszowaną inscenizacją-misterium dla dzieci „Batlejka" (Szopka), („Dialog", 1998). Jest autorem zbiorów wierszy „Letuciennik" (1999), „Paklikannie" (2000), ponad 50 publikacji w prasie białoruskiej.

Wiersze podpisane pseudonimem J. Bartnicki wyszły z druku w czasopismach „Dyjałoh", „Biełaruś", w gazetach „Nasza słowa", „Hołas Radzimy", „Carkwa". Malarz. Uczeń Mirosławy Kazancewoj, rosyjskiej malarki (realistyczny styl). 13 kwietnia 2006 r. odbyła się pierwsza indywidualna wystawa jego prac malarskich. Do 2011 r. odbyło się 6 takich wystaw. Jest organizatorem corocznego Drujskiego pleneru malarskiego. Obecnie pełni obowiązki proboszcza w parafii św. Trójcy w Drui w pow. Brasławskim.



# ЗМЕСТ

ANNUS ALBARUTHENICUS 2016
Poetica Prosa Descriptio Discussio Ars
Год Беларускі 2016 / Rok Białoruski 2016

Wydawca: Oficyna Wydawnicza Fundacja Villa Sokrates
Redakcja i opracowanie wydawnicze: Leon Tarasewicz, Mikołaj Wawrzeniuk
Projekt graficzny: Leon Tarasewicz
Skład: Plajsteя
Tłumaczenia: Konstanty Bondaruk

Druk: Bieldruk
Nakład: 500 egzemplarzy
Krynki 2016

*www.villasokrates.pl*



XVII Трыялог Крынкі 2016 / XVII Trialoh Krynki
„Ці Бог не разумее па-беларуску?"
„Czy Pan Bóg nie rozumie po białorusku?"

Główny organizator: Fundacja Villa Sokrates
Współorganizator: Muzeum Podlaskie w Białymstoku
Partnerzy: Urząd Miejski w Krynkach, Gminny Ośrodek Kultury
w Krynkach, Białoruskie Centrum Informacyjne
Patronaty medialne: Gazeta Wyborcza, Białoruskie Radio Racja
Sponsor: Spółdzielnia Produkcyjno-Handlowa „Krynka"
Koordynator XVII Trialohu: Anna Grześ

Ministerstwo
Kultury
i Dziedzictwa
Narodowego


Ministerstwo
Spraw Wewnętrznych
i Administracji






Muzeum Podlaskie
w Białymstoku

Zrealizowano dzięki Ministrowi Spraw Wewnętrznych i Administracji
Dofinansowano ze środków Ministra Kultury i Dziedzictwa Narodowego
Zrealizowane przy wsparciu finansowym Województwa Podlaskiego

ISBN 978-83-930962-6-8

